АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ
І ФАЛЬКЛОРУ

# БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ ТВОРЧАСЦЬ

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1989

АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ
І ФАЛЬКЛОРУ

# ПРЫПЕЎКІ



МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1989

ББК 82.3 Бел-6
П 68

**Рэдакцыйная калегія:**
**В. К. Бандарчык, К. П. Кабашнікаў,**
**А. С. Фядосік** (галоўны рэдактар)

Укладанне тэкстаў, уступны артыкул
і каментарыі І. К. Цішчанкі

Музычная частка
Л. М. Фёдарава

Перапіска нот
Ю. І. Каратаева

Рэдактар А. С. Фядосік

Рэцэнзенты
кандыдаты філалагічных навук
А. І. Гурскі, І. Я. Яшкін

**Прыпеўкі** / Уклад. тэкстаў, уступ. арт. і камент.
П 68 І. К. Цішчанкі; Муз. частка Л. М. Фёдарава; Рэдкал.:
А. С. Фядосік (гал. рэд.) і інш.— Мн.: Навука і тэхніка,
1989.— 432 с.— (Беларус. нар. творчасць / АН БССР. Ін-т
мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору).

ISBN 5-343-00152-1.

Частушки.

Том уяўляе найбольш поўны збор беларускай народнай прыпеўкі. Уключаны лепшыя ўзоры гэтага самабытнага жанру, выбраныя з друкаваных крыніц і архіўных фондаў і размеркаваныя па тэматычным прынцыпе.

Разлічаны на філолагаў, музыказнаўцаў, выкладчыкаў і студэнтаў гуманітарных факультэтаў ВНУ, усіх, хто цікавіцца народнай творчасцю, беларускай культурай.

П $\frac{4702120105-156}{М316(03)-89}$ 144—89

ББК 82.3Бел-6

ISBN 5-343-00152-1

# УСТУП

У найбагацейшай скарбніцы беларускай народнай песнятворчасці адметнае месца займае прыпеўка. У нашы дні яна па-ранейшаму любімы ў народзе фальклорны жанр. Змястоўная і па-мастацку дасканалая прыпеўка чуйна рэагуе на многія падзеі, што адбываюцца ў грамадстве і жыцці людзей.

Прыпеўка — аднастрофная лірычная песенька самага разнастайнага зместу, якая складаецца з чатырох, радзей шасці радкоў па пэўнаму музычнаму ўзору і выконваецца часам як прыпеў да танца. Як па змесце, так і па форме гэта закончаны твор, у якім тэма завершана, «закруглена» і не патрабуе далейшага развіцця. Пры выкананні прыпеўкі звычайна аб'ядноўваюцца ў групы па тэмах. Як пацеркі, нанізваюцца яны адна за другой, утвараючы нешта накшталт сюжэтнай песні (з зачынам і канцоўкай), тады кожная асобная прыпеўка становіцца як бы часткай такой песні, страфой. Са сваёй мелодыяй прыпеўка звязана нетрывала: на адзін і той жа матыў могуць выконвацца сотні розных тэкстаў; адны і тыя ж тэксты могуць выконвацца на розныя матывы.

У адрозненне ад лірычнай песні, у якой даецца шырокая, разгорнутая карціна лірычных перажыванняў, у прыпеўцы «схоплены» адзін нейкі момант, рух душы. Кожная новая прыпеўка нясе ў сабе якое-небудзь адно адценне эмацыянальнага пачуцця. Душэўны стан чалавека падаецца паасобна, штрыхамі, мазаічна, эскізна. Але, калі прыпеўкі выконваюцца нізкамі, у сукупнасці, яны ствараюць даволі глыбокае ўражанне, даюць вялікай абагульняючай сілы вобраз. З асобных рысак, яркіх, дакладных, складваецца пэўная экспрэсіўна-псіхалагічная карціна. Прыпеўка нібы пакідае паміж псіхалагічнымі дэталямі прастору, што дазваляе слухачу самому дадаць неабходныя звенні, якіх не хапае для паўнаты ўспрымання. Штрыхі, трапныя і выразныя, абуджаюць думку, прымушаюць слухача дамалёўваць вобраз. У прыпеўцы многа лірызму, пяшчотнасці. У ёй радасць і любасць, слёзы і горыч, крыўда і гора; яе форма і мелодыя неяк асабліва «набліжаны» да перажыванняў чалавека.

Тэрмін «частушка», якім часта карыстаюцца даследчыкі, запазычаны з рускай літаратуры і ўпершыню ў навуковы ўжытак беларускай фалькларыстыкі ўведзены В. Астаповічам [1].

У народзе прыпеўкі называюцца па-рознаму: прыпевы, прыпеў, папеўкі,

[1] Витеб. губернские ведомости. 1903. № 244.

падпявалкі, падскокі, тарадайкі, брандушкі, брандзюшкі, бранюшкі, таптушкі, забаўкі, пестункі (дзіцячыя), дрындушкі, дзяўчанкі, скакухі, скакушкі, плясухі, круцёлкі, акалюшкі, вытанкі, вытанні, вытушкі, выдрыганцы і інш. У сучаснай беларускай літаратурнай мове тэрміны «прыпеўка» і «частушка» ўжываюцца як сінанімічныя, раўназначныя, што і замацавана нарматыўнымі слоўнікамі акадэмічных выданняў апошняга часу.

Чым жа выклікана шматлікасць назваў прыпеўкі? Тлумачыцца гэта, відаць, функцыянальнымі і рэгіянальнымі асаблівасцямі жанру, якія народам строга дыферэнцыраваліся. У народным уяўленні прыпеўка ніколі не была аднастайнай; мнагастайнасць назваў якраз і адлюстроўвала жанравыя асаблівасці прыпевак, якія адрозніваюцца паміж сабой і мелодыяй, і рытмікай, і характарам, і манерай спеваў, бо яны выконваюцца сола, дуэтам, хорам, салістам і хорам, як прыпеў да танца (у залежнасці ад танца створаны свае прыпеўкі), да музыкі (такія прыпеўкі адрозніваюцца залежнасцю ад найгрышу і музычнага інструмента — скрыпкі, балалайкі, гармоніка і інш.), жанчынамі або мужчынамі, пры пэўных абставінах — у полі, на лузе, на вясковай вуліцы, у памяшканні, пры пэўных гульнях, ігрышчах і г. д. І, безумоўна, рэгіянальная прыпеўка, як правіла, мела сваю назву. Нягледзячы на міграцыйнасць жанру, пэўныя групы прыпевак з уласцівымі ім мастацкімі сродкамі выразнасці пашыраліся толькі на пэўнай тэрыторыі. Агульнапрынятьі зручны тэрмін «частушка», даверліва ўзяты фалькларыстамі ў навуковы ўжытак, у збіральніцкай практыцы нівеліраваў разнавіднасці жанру, а разам з тым і зацьміў некаторыя надзвычай важныя тэарэтычныя аспекты праблем генезісу прыпевак.

Бадай, ні адна з праблем фалькларыстыкі не выклікала столькі меркаванняў, думак і гіпотэз, як праблема генезісу прыпеўкі. Вылучаюцца два найбольш вострыя пытанні: калі і дзе (у якім асяроддзі) узнікла прыпеўка?

Адны вучоныя, адзначаючы непасрэдную сувязь прыпеўкі з традыцыйнай песняй, праўдзівае адлюстраванне ў ёй жыцця і побыту сялянства парэформеннай вёскі, лічылі, што гэты жанр — вынік творчасці вясковага насельніцтва; другія, прымаючы пад увагу тое, што прыпеўка надзвычай апаратыўна адлюстроўвала жыццё горада, даводзілі, што яна ўзнікла на фабрыках і заводах і таму нічога агульнага не мае з традыцыйнай вуснай паэзіяй. Тэорыі так званага фабрычна-заводскага паходжання прыпеўкі ў савецкай філалагічнай навуцы прытрымліваўся і пераносіў на беларускі матэрыял М. Гарэцкі. «...Шыбкае развіццё прыпевак,— пісаў ён,— пачалося ў фабрычных працоўных масах... Распаўсюджанне прыпевак з гораду перадалося і на вёску. Тут змест іх бярэцца пераважна з сялянскага жыцця» [2].

Канцэпцыя М. Гарэцкага не новая. Дарэвалюцыйныя рускія даследчыкі і збіральнікі фальклору, бачачы, які магутны ўплыў аказвае індустрыяльны капіталістычны горад на патрыярхальную аграрную вёску, на яе культуру, з трывогай пісалі і пра змены ў класічнай песеннай творчасці, што, на іх

[2] Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. М.; Л., 1924. С. 64.

думку, абумоўлена «здрадай» вясковай моладзі, якая, быццам паддаўшыся «спакуслівай прынадзе лёгкай нажывы грашыма», натоўпам павaліла ў горад і змяніла «сваё ранейшае простае адзенне на моднае»[3]. Узнікненне жанру прыпеўкі звязвалі з горадам такія вядомыя рускія дарэвалюцыйныя даследчыкі і збіральнікі фальклору, як Д. Зяленін, Е. Лінёва, А. Раздольскі, Г. Беларэцкі, В. Сімакоў, К. Кузьмінскі, А. Айнаў і інш.

Прыхільнікі тэорыі фабрычна-гарадскога паходжання прыпеўкі зыходзілі са зместу твораў: паколькі прыпеўка адлюстроўвае жыццё горада, побыт рабочых фабрык і заводаў, іх справы і думкі, то яна, значыць, і ўзнікла ў гэтым асяроддзі. Але гэта тэорыя не адказвала на самае важнае пытанне: чым выкліканы да жыцця сам жанр прыпеўкі, што абумовіла яго такую кароткую, лапідарную форму і пераважна часты рытм? Аналіз зместу твораў не мог даць адказу на такое пытанне. Была створана яшчэ адна гіпотэза. Некаторыя вучоныя спрабавалі пашырыць гіпотэзу паходжання працоўнай песні і на ўзнікненне прыпевак. Яны разважалі так: паколькі працоўныя песні ствараліся ў час работы і, натуральна, іх рытм складваўся пад непасрэдным уплывам працоўнага працэсу, то і рытм прыпеўкі — прамы вынік дзейнасці рабочага ля станка ці машыны (К. Кузьмінскі, А. Айнаў). Гэтак жа тлумачыў паходжанне беларускай прыпеўкі і М. Гарэцкі: «Пры машынах павольную жніўную песню пяяць немагчыма. А прыпеўкі — шыбкія, кароткія, аднаматыўныя»[4].

Выключна дакладная рытміка прыпеўкі на першы погляд сапраўды ў многіх выпадках адпавядае строга размераным тактам розных рухаў станкоў і механізмаў. Прыхільнікі тэорыі фабрычна-заводскага ўзнікнення прыпеўкі ігнаравалі той факт, што рытм, узяты сам па сабе, не раскрывае гісторыі зараджэння жанру, бо, як трапна заўважыў адзін з даследчыкаў прыпеўкі, вершаваны памер «Іліяды», створанай Гамерам у эпоху, якая аддалена ад эпохі першых машын цэлымі стагоддзямі, не менш падобны на машынны рытм, чым харэй прыпевак[5].

Прыпеўкавы рытм не прыўнесены ў паэтычную творчасць звонку (ад фабрык і заводаў); яго прырода тая ж, што і песенных і музычна-танцавальных рытмаў, бо рытм наогул належыць да арганічных умоў і патрабаванняў фізічнага і псіхічнага складу чалавека.

Ні змест гэтых твораў, ні шматлікія сведчанні збіральнікаў фальклору пра месца прыпеўкі ў народным рэпертуары народа не даюць ніякіх падстаў ставіць генезіс прыпеўкі ў залежнасць ад прамысловых цэнтраў. Як і ўся беларуская вусная народная творчасць, што ў сваёй аснове з'яўляецца сялянскай, прыпеўка не была выключэннем. Фабрыкі і заводы не маглі фарміраваць прыпеўку як жанр хаця б таму, што яна шырока бытавала ў краі

---

[3] Смирнов Н. А. Русские народные песни новейшего времени. СПб., 1895. С. 7.
[4] Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. С. 84.
[5] Гл.: Художественный фольклор. М., 1920. Вып. 4—5. С. 187.

аграрным, якім была Беларусь да рэвалюцыі, і, што важней за ўсё, жыла ў народзе задоўга да ўзнікнення капіталістычнай вытворчасці.

Супраць тэорыі фабрычна-гарадскога паходжання прыпеўкі ў свой час рашуча выступаў М. Багдановіч, які добра ведаў вусную паэзію беларусаў і плённа выкарыстоўваў яе ў сваёй творчасці. Ён першы ў дарэвалюцыйнай фалькларыстыцы ўказаў на самастойнасць беларускай прыпеўкі і на яе сапраўдныя вытокі [6].

Факты сведчаць, што нельга ставіць узнікненне прыпеўкі ў прамую залежнасць ад ліквідацыі прыгоннага ладу. Эпоха капіталізму не нарадзіла прыпеўкі, яна выкарыстала гатовую, ужо да гэтага часу ўсталяваную прыпеўкавую форму, напоўніўшы яе новым зместам, і спрыяла папулярызацыі жанру, яго эвалюцыі. Акадэмік Я. Ф. Карскі, указваючы на тое, што некаторыя рускія даследчыкі лічаць прыпеўку жанрам, які ідзе на змену традыцыйнай творчасці, перасцерагаў, што «да беларускай прыпеўкі гэта можа быць прыдатна толькі з вялікімі агаворкамі» [7].

Дзе ж вытокі жанру прыпеўкі? Дарэвалюцыйныя фалькларысты прыпеўку, як правіла, змяшчалі ў раздзеле танцавальных песень і мелі для гэтага пэўную падставу. Беларуская прыпеўка ў мінулым была цесна звязана з танцам і выконвалася часцей за ўсё як прыпеў да яго. Збіральнікі фальклору самі назіралі жывое бытаванне такога прыпеўкава-танцавальнага спалучэння і пакінулі пра гэта шматлікія сведчанні. Спалучэнне прыпеўкі і танца — не проста суіснаванне дзвюх розных фальклорных стыхій на пэўным этапе развіцця духоўнай культуры народа. Прыпеўка і танец звязаны паміж сабой трывалымі ніцямі. Пра гэту сувязь сведчаць самі назвы, якія даў народ прыпеўкам у розных мясцовасцях: падскокі, скакухі, плясухі, плясушкі, вытанкі, вытанні, круцёлкі і інш. Можна прывесці дастаткова тэкстаў, якія даволі пераканаўча падмацоўваюць гіпотэзу танцавальна-песеннага паходжання жанру прыпеўкі. Прытым у многіх з іх называюцца танцы, пры якіх яны выконваліся. Аднак вытокі прыпеўкі ўзыходзяць не толькі да танцавальных песенек; сапраўдныя закончаныя ўзоры прыпеўкавых форм знаходзім і ў гульнях-танцах, і ў карагодах, і ў вясельна-абрадавай паэзіі, і ў дударскай песнятворчасці.

Разгадку прыроды прыпеўкі трэба шукаць, відаць, таксама і ў спецыфіцы яе лапідарнай формы. Пры гэтым трэба прызнаць бясспрэчным той факт, што кароткая чатырохрадковая песенная форма ў вуснай народнай творчасці з'ява не новая і не выключная. Песенькі-чатырохрадкоўі вядомы з даўніх часоў. Ва ўсякім разе, у каляндарна-абрадавай паэзіі — адным з самых старажытных відаў паэтычна-песеннай творчасці народа — яны існавалі побач з доўгімі песнямі. Гэтыя чатырохрадкоўі не былі нейкімі рэліктавымі абрыўкамі ці асколкамі працяглых песень, што некалі распаліся, ці вандроўнымі, блукаючымі строфамі тых або іншых песень. Сваім зместам і вобразамі яны

[6] Багдановіч М. Зб. тв.: У 2 т. М., 1968. Т. 1. С. 455—456.
[7] Гл.: Карский Е. Ф. Белорусы. М., 1916. Т. 3. Вып. 1. С. 381.

не пераклікаюцца са зместам і вобразамі якіх-небудзь строф доўгай песні. Усё гэта сведчыць пра тое, што песенькі-чатырохрадкоўі ў каляндарна-абрадавай паэзіі мелі сваё прызначэнне, выконвалі сваю функцыю.

Чым выклікана, напрыклад, з'яўленне сярод доўгіх жніўных песень песенек дробных? Жніўныя песні, як вядома, адносяцца да каляндарна-абрадавай паэзіі, звязанай з працай, чаму іх называюць яшчэ і працоўнымі. Аднак яны больш позняга паходжання і ўжо не з'яўляюцца, як іх далёкія і прымітыўныя папярэднікі, рэгулятарамі фізічнага напружання ў працы. Яны могуць быць названы працоўнымі песнямі ўмоўна, бо былі прымеркаваны і замацаваны за пэўным відам работ і вытворчых сезонаў. Ні змест, ні форма жніўных песень, што дайшлі да нас, не сведчаць пра тое, што яны выконваліся ў час працы. Але гэтыя песні таму і называюцца жніўнымі, што іх спявалі на пэўным этапе сельскагаспадарчых работ, у дадзеным выпадку ў летне-асенні перыяд, у час жніва.

Чатырохрадковыя ж песні спяваліся якраз у час самой работы, на што ўказваў А. Рыпінскі[8]. Толькі не як рытмічны рэгулятар яе, а як апасродкаваная мера ўздзеяння на працоўны працэс. Песенныя чатырохрадкоўі на жніве выкарыстоўваліся для своеасаблівай рэгламентацыі работ, распарадку дзейнасці жней. Іранічны, жартоўна-сатырычны змест іх стымуляваў працу асобных работніц і дапамагаў перадаць тое, чаго не выкажаш звычайнымі словамі — свае пажаданні, патрабаванні да гаспадара, адносіны да яго.

Песенькі ў некалькі радкоў (пераважна ў чатыры) у значнай колькасці сустракаюцца і ў такім найстаражытнейшым пласце народнай творчасці, як купальская паэзія. Па змесце яны разнастайныя і прымяркоўваліся да асобных сцэн купальскага абраду, купальскіх гульняў і карагодаў. Доўгая купальская песня для шматлікіх дзействаў, з якіх складвалася абраднасць, падчас станавілася нязручнай для паэтычнага асэнсавання дробных, але істотных момантаў каляндарнай абраднасці. Чатырохрадкоўі ўспыхвалі як іскаркі, падсвечвалі, ярчэй выяўлялі, акрэслівалі тыя ці іншыя звёны абраднага ланцуга купальскага святкавання. Роля іх тут надзвычай вялікая: такія песенькі як бы рассоўвалі цесныя рамкі традыцыйнай песнятворчасці, разнастаілі тэматыку і змест купальскай паэзіі, адкрывалі яе новыя грані, новыя эмацыянальныя адценні.

Характэрныя чатырохрадковыя песенькі займаюць значнае месца ў дзіцячым фальклоры і асабліва сярод калыханак. Іх існаванне абумоўлена тым прызначэннем, якое яны адыгрываюць у выхаванні дзіцяці,— хуткае і лёгкае запамінанне. Таму яны вельмі кароценькія, нескладаныя. Песенькі-чатырохрадкоўі ў значнай меры ўласцівы таксама такім цыклам і групам песень, як восеньскія, вясновыя, талочныя, валачобныя і асабліва вясельныя.

З усіх звычаяў і абрадаў, звязаных з вуснапаэтычнай творчасцю, найбольшая колькасць песень прыпадае на вяселле. Беларускае вяселле даследчыкі справядліва называюць народнай операй. І сапраўды, у ім арганічна

[8] Rypiński A. Białoruś. Paryż, 1840.

спалучаюцца вялікія драматычныя дзеянні, хор, вакал, танец і інструментальная музыка. У вяселлі мноства дзеючых асоб, якія «выконваюць» розныя ролі. І кожнае звяно вясельнага рытуалу, пачынаючы з запоін (сватанне) і канчаючы пярэзвамі, абавязкова суправаджаецца песнямі. Тут кароткая песенная форма ўзнікла ў выніку патрэбы самога шматступеннага і шматдзейнага вясельнага абраду. Яна не проста запаўняла нейкія паўзы, не ахоплены песняй доўгай: калі доўгая песня падавала рытуальны момант буйным планам, то кароткая — яго асобныя дэталі. Дэталізацыя абраду і дыктавала песні выбар формы. Адбываўся натуральны эвалюцыйны працэс складвання вясельнай кароткай песні — чатырохрадковай прыпеўкі.

Чатырохрадкоўе — такая ж старажытная з'ява ў фальклоры, як і доўгая песня; яна ўзнікла, натуральна, у выніку эвалюцыі жанру, падобна іншым жанрам малых форм, напрыклад прыказкам, прымаўкам, загадкам і інш. Канчатковая выпрацоўка і замацаванне характэрнага прыпеўкавага рытму і мелодыі адбыліся не без уплыву дударскіх і танцавальных песенек.

Ля калыскі беларускай прыпеўкі стаялі народныя музыкі-скамарохі, без якіх не праходзіла ў вёсцы ніводнае гулянне. Гэтыя таленавітыя людзі з народа былі не толькі носьбітамі, захавальнікамі, пашыральнікамі і выканаўцамі народнай песні і музыкі, яны валодалі вялікім дарам паэтычнай і кампазітарскай імправізацыі і часта экспромтам складалі невялікія песенькі, якія ўвайшлі ў залаты фонд прыпевак. Многімі выдатнымі прыпеўкавымі тэкстамі мы абавязаны іменна скамарохам. Як творцы і выканаўцы прыпевак скамарохі зрабілі прыкметны ўплыў і на змест, і на мастацкую форму, і на манеру іх выканання.

У савецкай фалькларыстычнай навуцы даволі трывалае хаджэнне мела думка аб несамастойнасці беларускай прыпеўкі, аб тым, што гэты жанр запазычаны беларусамі ў рускага народа. Замацаванню гэтага няправільнага пункту гледжання садзейнічалі памылковыя выказванні аўтарытэтных вучоных. У ліку першых трэба назваць акадэміка Ю. М. Сакалова, які лічыў прыпеўкі з'явай толькі рускай вуснай паэзіі. «У тым выглядзе, у якім мы іх ведаем на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў канца XIX і пачатку XX ст.,— пісаў ён,— прыпеўкі бытавалі выключна сярод рускага народа, так што яны маглі лічыцца адметнай рысай рускага фальклору. З пачатку імперыялістычнай вайны, а затым вельмі моцна з пачатку Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі рускія прыпеўкі сталі пранікаць на Украіну, у Беларусь і да другіх народаў СССР. Пры гэтым спачатку захоўвалася прамое запазычанне рускіх тэкстаў з лёгкай іх перапрацоўкай у дастасаванні да другога нацыянальнага асяроддзя, часта з захаваннем большасці рускіх слоў, затым пераробка ўзмацнілася, запазычаныя прыпеўкі «нацыяналізаваліся» і, нарэшце, па ўзору іх, з захаваннем рытму, чатырохвершавай пабудовы і прынцыпаў рыфмоўкі, пачыналі ствараццa свае мясцовыя, нацыянальныя прыпеўкі. У многіх нацыянальнасцей запазычаны жанр сустракаўся з блізкімі традыцыйнымі жанрамі нацыянальнага фальклору; у выніку такога ўзаемнага прыцягвання адбывалася своеасаблівая дыфузія, і нацыянальная прыпеўка

набыла новы, своеасаблівы характар, па сутнасці, аднак, адпавядаючы тым жа самым сацыяльным працэсам, якія, як мы ўбачым далей, і парадзілі ў свой час папулярнасць прыпеўкі рускай. На жаль, у выніку нешматлікасці фалькларыстычных навуковых кадраў у нацыянальных рэспубліках уся складаная і надзвычай цікавая карціна ўзнікнення прыпеўкавага жанру яшчэ вельмі мала даследавана». І далей: «На Украіне і Беларусі прыпеўка стала адной з распаўсюджаных форм сучаснай вуснай паэзіі, зблізіўшыся з традыцыйнымі «каламыйкамі». Такому глыбокаму пранікненню прыпеўкавай формы ў розныя канцы СССР, бясспрэчна, садзейнічалі знешнія ўмовы жыцця эпохі вайны і рэвалюцыі» [9].

На жаль, памылковая канцэпцыя Ю. М. Сакалова аб паходжанні беларускай прыпеўкі трапіла ва ўсе выданні Вялікай Савецкай Энцыклапедыі [10] і, такім чынам, атрымала афіцыйнае прызнанне.

Не без уплыву аўтарытэтных выданняў памылковую канцэпцыю паходжання нацыянальнай прыпеўкі падзяляў вопытны збіральнік і даследчык беларускай народнай творчасці Г. І. Цітовіч: «Найбольшае распаўсюджанне і развіццё прыпеўка атрымала ў Беларусі пасля Кастрычніка... І жанр гэты прыйшоў у Беларусь з Расіі» [11].

Уласна, тэорыя міграцыйнага паходжання беларускай і ўкраінскай прыпеўкі ўпершыню была абгрунтавана В. В. Стратэнам [12], які наогул лічыў, што ядро жанру спачатку склалася на поўначы, дзе яму нібы быў дадзены нейкі імпульс, а потым прыпеўкавы паток пачаў расці, шырыцца, захопліваць новыя раёны, ідучы на поўдзень, і тут перш за ўсё і больш усяго трапляў у горад, адкуль ужо пранікаў у вёску. Гэта плынь ішла праз вайсковыя часці, дэмабілізаваных салдат, матросаў, а таксама праз адыходнікаў. Тут на месцах прыпеўкі перапяваліся, асіміляваліся, памнажаліся, і, такім чынам, узнікаў цыкл мясцовых прыпевак (у Стратэна — украінскіх) са своеасаблівым руска-ўкраінскім жаргонам. Але заўважым, салдацкая маса і дэкласаваныя элементы з прычыны спосабу жыцця і рада іншых абставін ніколі не былі носьбітамі сапраўднай народнай творчасці ў той меры, каб карэнным чынам уплываць на лёс вуснай паэзіі народа ў цэлым ці вырашаць лёс яго асобных жанраў.

Такім чынам, адна са складаных праблем фалькларыстыкі — паходжанне прыпеўкі, якая на працягу многіх дзесяцігоддзяў заставалася прадметам самых гарачых спрэчак як дарэвалюцыйных, так і савецкіх вучоных, некаторымі даследчыкамі вырашалася ў спрошчанай форме.

Беларуская прыпеўка ўзнікла не дзякуючы міграцыі рускай частушкі, не дзякуючы нейкім збліжэнням, перапляценням, пранікненням ці, як піша

---

[9] Соколов Ю. М. Русский фольклор. М., 1941. С. 401—402.
[10] БСЭ. 1934. Т. 61. С. 93; 1947. Т. 47. С. 70.
[11] Цитович Г. Советские белорусские народные песни // Сов. музыка. 1949. № 11. С. 71.
[12] Стратен В. В. Творчество городской улицы // Худож. фольклор. М., 1927. Вып. 2—3. С. 144—164.

Ю. М. Сакалоў, дыфузіям, не дзякуючы вонкавым фактарам — грамадзянскай вайне, рэвалюцыі, а як самастойны і арыгінальны жанр, падобна ўкраінскім каламыйкам, пачала сваё існаванне на роднай, нацыянальнай глебе і прайшла вялікі і складаны шлях развіцця, абумоўлены духоўнай традыцыяй, сацыяльна-гістарычнымі абставінамі пэўнай эпохі, нацыянальным і псіхічным складам народа.

Самастойнасць беларускай прыпеўкі яшчэ задоўга да Кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны прызнавалі першыя збіральнікі і даследчыкі рускай частушкі. Так, А. Балаў, характарызуючы частушку як самую распаўсюджаную форму рускай народнай песні, піша: «Такая форма народнай песні асабліва распаўсюджана ў губернях велікарускіх, хаця яна сустракаецца гэтак жа сама і ў губернях маларускіх, а роўна і сярод беларусаў» [13].

В. І. Сімакоў, якога па праву можна назваць буйнейшым збіральнікам рускай частушкі (яго калекцыя складае каля 1000 тэкстаў), параўноўваючы свае ўласныя запісы з надрукаванымі яшчэ ў 90-х гадах тэкстамі беларускіх прыпевак, даў характэрныя паралелі беларуска-рускіх прыпеўкавых варыянтаў. «Прыводзячы гэтыя выпадкова трапіўшыя песенькі,— заключае В. І. Сімакоў,— як велікарускія, так і беларускія, хацеў бы я звярнуць увагу на гэта будучых даследчыкаў» [14].

Ужо ў 70-я гады мінулага стагоддзя фалькларысты публікуюць цэлыя калекцыі беларускіх прыпевак. Так, П. В. Шэйн, не вылучаючы іх у асобны жанр, змясціў разам з лірычнымі песнямі. Збіральнік у заўвагах адзначаў, што прыпевак «маса на Белай Русі», што яны «спяваюцца сялянамі публічна ў корчмах, на гулянках, супрадках абоімі поламі, старымі і малымі» [15].

Праз 20 год другі збіральнік беларускага фальклору М. Доўнар-Запольскі разам з запісамі народных песень падаў таксама некалькі дзесяткаў прыпеўкавых тэкстаў. У каментарыях на падставе ўласных назіранняў за станам вуснай паэзіі канстатаваў: «Такіх прыпевак у Беларусі вельмі многа» [16]. М. Доўнар-Запольскі адасабляе прыпеўку ад агульнага кола каляндарна-абрадавай песеннай паэзіі і падкрэслівае, што яна не звязана з пэўным часам ці абрадам, пры якім бы спявалася. Сфера ж бытавання надзвычай шырокая: гэта летнія танцы, карагоды, гульні, радзіны, хрэсьбіны, вяселле. Як лірычны жанр, піша М. Доўнар-Запольскі, прыпеўкі спяваюцца пераважна жанчынамі.

Прыпеўку нельга прызнаць з'явай чыста рускага фальклору. Прыпеўкавая форма надзвычай пашырана здаўна не толькі ў беларускім і ўкраінскім

---

[13] Балов А. Экскурс в область народной песни // Этнограф. обозрение. СПб., 1897. № 2. С. 93.

[14] Симаков В. И. Несколько слов о деревенских припевках-частушках. СПб., 1913. С. 8.

[15] Шейн П. В. Белорусские песни // Зап. имп. Рус. географ. о-ва. СПб., 1873. Т. 5. С. 549.

[16] Довнар-Запольский М. Заметки по белорусской этнографии // Живая старина. 1893. Вып. 2. С. 292.

фальклоры, яна не менш вядома ў вуснай паэзіі іншых народаў Савецкага Саюза. Падобныя чатырохрадковыя песенькі, блізкія да рускіх частушак, ёсць у татарскай песеннай творчасці. Яны папулярныя ў моладзі, іх співаюць вечарамі на вуліцы, на розных гулянках, у полі. Як і рускія, яны пабудаваны на паралелізме, тэматыка іх разнастайная, а найбольш — лірычная і гераічная [17]. Ёсць прыпеўкі і ў чувашоў [18]. У марыйскім фальклоры прыпеўка — асноўная форма песень [19].

В. І. Сімакоў, параўноўваючы рускую частушку з падобнымі чатырохрадковымі песенькамі іншых народаў, указваў, што прыпеўкавая форма ўласціва і нямецкаму фальклору. Падабенства іх В. І. Сімакоў спрабаваў паказаць на прыкладах-паралелях [20].

Што прыпеўкавая форма пашырана ў іншых народаў, прызнавалі М. П. Пагодзін [21], Е .Н. Еляонская [22], Б. Л. Розенфельд, які пісаў, што «форма частушкі не толькі вядома старому рускаму фальклору, але мае блізкія паралелі ў паэзіі розных краін і народаў, культурных і малакультурных» [23].

Некаторыя савецкія даследчыкі прызнавалі, што руская частушка мела сваю папярэдніцу — беларускую прыпеўку. Так, В. Племяннікава ў рабоце «Артыкул Г. Успенскага аб частушцы» піша: «У зборніках да выданняў Успенскага т а я ж (падкрэслена намі.— *І. Ц.*) паэтычная форма носіць назву прыпеву (Романов. Белорусский сборник. 1885. Т. 1 і Шэйн. Материалы... 1887. Т. 1. Ч. 1)». І далей: «...Мы ўстанаўліваем, што матэрыялы па прыпеўках былі прадстаўлены ў двух зборніках... Першы зборнік дае прыпевы, г. зн. частушкі Магілёўскай губ., другі — зборнік Шэйна — прадстаўляе прыпевы наступных губерняў: Мінскай, Гродзенскай, Магілёўскай» [24].

Такім чынам, раннія беларускія песенна-прыпеўкавыя формы, як і ўкраінскія каламыйкі, папярэднічалі рускай частушцы. Больш таго, іх вершаваная структура з «большай, з пункту гледжання рускага чытача, літаратурнасцю ў рыфмоўцы і страфіцы» пэўным чынам уплывала на фарміраванне рускай частушкі, на станаўленне яе як жанру. Гэта моцнае ўздзеянне беларускай прыпеўкі на рускую прызнаецца ў апошніх працах рускіх савецкіх вучоных. Так, В. Бахцін, даследуючы гістарыяграфічныя звесткі аб рускай частушцы, знайшоў самыя першыя ўпамінанні аб яе ранніх формах у бела-

---

[17] Сидельников В. М. Русская частушка. М., 1941. С. 17.
[18] Октябрь в песнях народов СССР. М., 1932. С. 15.
[19] Ерикеев. Татарские народные песни. М., 1936. С. 28.
[20] Симаков В. И. Несколько слов о деревенских припевках-частушках. С. 8.
[21] Рэцэнзія Пагодзіна на работу Зяленіна «Новые веяния в народной поэзии» // Рус. школа. 1902. № 5—6. С. 13.
[22] Елеонская Е. Н. Сборник великорусских частушек. М., 1914. С. XXV.
[23] Розенфельд Б. Л. К вопросу о происхождении и формировании жанра современной частушки // Худож. фольклор. М., 1929. Вып. 4—5.
[24] Племянникова В. Статья Г. Успенского о частушке // Худож. фольклор. М., 1929. Вып. 4—5. С. 165.

рускім матэрыяле. Ён прыводзіць наступную цытату са зборніка П. Бяссонава: «У беларусаў ёсць разрад кароценькіх песень, «скакухі...» часцей на Купалу, а болей на масленіцу — безліч, азартныя, амаль агідныя; і мы, велікарусы, грашым у гэтым родзе, але грахі гэтыя ў нас больш звычайныя і расплывістыя, ва ўсякім выпадку песень закончаных (падкрэслена намі.— *І. Ц.*) у нас няма і дзесятай долі таго, што ў беларусаў сабрана да аднаго моманту, канцэнтравана, гола, бессаромна, паўтаральна...»[25]

«Пры ўсёй сваёй наіўнасці сведчанне П. Бяссонава,— рэзюмуе В. Бахцін,— не адзначанае, дарэчы, даследчыкамі прыпеўкі, цікавае як адно з ранніх упамінанняў (падкрэслена намі.— *І. Ц.*) аб жанры («разрадзе») кароценькіх плясавых песенек, хаця і не вельмі яшчэ багатых (апошняе ніколькі не разыходзіцца з другімі данымі)»[26].

Адзначым, што бяссонаўскае паведамленне аб прыпеўцы не адзінае і не самае першае. Самае першае ўпамінанне аб ранніх формах беларускай прыпеўкі знаходзіцца ў кнізе А. Рыпінскага «Беларусь» [27], якая выйшла ў свет больш чым на тры дзесяцігоддзі раней зборніка П. Бяссонава. А ў зборніку М. Нікіфароўскага запіс рада тыповых прыпевак датуецца 1852 г.[28]

У першай палове XIX ст. у Беларусі і на Украіне кароткія чатырохрадковыя песенькі, дасканала развітыя па форме і вельмі разнастайныя па змесце, як прыпеўкі да музыкі і танцаў мелі самае шырокае распаўсюджанне ў народзе. Без іх не абыходзілася ні адно ігрышча, гулянне, вяселле, вечарынка «Песень гэтага характару ў іх (беларусаў.— *І. Ц.*) безліч! — пісаў А. Рыпінскі ў 1840 г.— Цяжка гэта было б сістэматызаваць... Яны спяваюцца ўсюды і заўсёды» [29].

Паводле шматлікіх сведчанняў дарэвалюцыйных фалькларыстаў і этнографаў, што займаліся вывучэннем быту беларусаў і іх вуснай паэзіі, у рэпертуары шырокіх народных мас, асабліва сярод сялянства, дамінуючае становішча паміж іншымі фальклорнымі жанрамі займала прыпеўка. «Песні вясельныя, а таксама і песні розных ігрышч і вяселляў»,— адзначаў В. Брусянін,— у беларускім Палессі паступова ўступаюць месца новым песням і «частушкам» [30].

Сярод дакастрычніцкіх выданняў беларускай прыпеўкі ў першую чаргу трэба назваць грунтоўны зборнік М. Я. Нікіфароўскага «Беларускія песні-частушкі», які ўключаў 2356 тэкстаў. Аднак разам з беларускімі творамі ў кнігу трапілі рускія, украінскія і польскія песні-прыпеўкі, а таксама знач-

---

25 Белорусские народные песни с подробными объяснениями их творчества и языка, с очерками народного обряда, обычая и всего быта, издал Петр Бессонов. М., 1871. С. 138.
26 Бахтин В. Частушка. М.; Л., 1966. С. 10.
27 Rypiński A. Białoruś. Paryż, 1840.
28 Никифоровский Н. Я. Белорусские песни-частушки. Вильна, 1911. С. 6.
29 Rypiński A. Białoruś. Paryż, 1840.
30 Брусянин В. Белорусы // Народы земли: Народы России. СПб., 1903. Т. 4. С. 66.

ная колькасць іншых відаў доўгіх песень — танцавальных, вясельных, бытавых, рэкруцкіх, калыханак, жартоўных, у тым ліку цыганскіх, «жорсткіх» рамансаў і г. д. Такім чынам, наяўная лічба сапраўдных прыпевак у зборніку М. Я. Нікіфароўскага значна меншая.

«Беларускія песні-частушкі» М. Я. Нікіфароўскага датуюцца 1911 г., г. зн. кніга выйшла ў свет пасля смерці яе аўтара (памёр М. Я. Нікіфароўскі 26 мая 1910 г.). Рукапіс гэтага зборніка быў дастаўлены ўдавою нябожчыка папячыцелю Віленскай вучэбнай акругі, які распарадзіўся друкаваць працу М. Я. Нікіфароўскага, даручыўшы рэдагаванне і назіранне за друкаваннем А. Ф. Занкевічу.

Прыпеўкі, пададзеныя ў зборніку, запісваліся часткова самім М. Я. Нікіфароўскім, а ў большасці выпадкаў — яго шматлікімі карэспандэнтамі — настаўнікамі народных школ, вучнямі, гімназістамі, чыноўнікамі, вясковымі свяшчэннікамі, карчмарамі і нават станавымі прыставамі на працягу больш чым паўстагоддзя, з 1850 па 1905 г., і ахоплівалі ўсю Беларусь у яе тагачасных тэрытарыяльных межах.

Збіраючы прыпеўкі, М. Я. Нікіфароўскі, як заўсёды ў сваёй фалькларыстычнай дзейнасці, праяўляў выключную навуковую добрасумленнасць, клапаціўся аб значымасці публікацый узораў народнай творчасці. Кожны нумар у яго пашпартызаваны: дакладна ўказана, кім запісаны твор, ад каго, дзе, калі. У многіх выпадках апрача года адзначаны месяц і дата запісу, занятак або прафесія карэспандэнта ці асобы, ад якой рабіўся запіс.

Асноўная тэма прыпевак зборніка М. Я. Нікіфароўскага — каханне. Той жа А. Ф. Занкевіч пісаў, што «пераважная большасць «частушак», адпаведна іх прызначэнню,— любоўнага зместу» [31].

У зборніку М. Я. Нікіфароўскага амаль адсутнічаюць прыпеўкі на грамадска-палітычныя тэмы — антыпрыгонніцкія, антыпапоўскія, антыпанскія і рэвалюцыйныя. Відавочна, творы такой тэматыкі не трапілі ў фальклорнае выданне не па віне яе аўтара ці рэдактара, а з-за цэнзурных умоў.

І ўсё ж сярод нямногіх жартоўных прыпевак ёсць такія, якія па змесце выходзяць за рамкі звычайных лірычных песенек:

Мікалаю, Мікалаю,
Дзе цябе я пахаваю?
Пры дарозе, ў даліне,
Каб па табе воўкі вылі,
А сабакі танцавалі —
Тваю душу паміналі.[32]

Думаецца, што ў эпоху царавання Мікалая II, адзначаную моцным сацыяльным і нацыянальным уціскам, жорсткай рэакцыяй на ўсялякія дэмакратычныя свабоды, свабоду слова, такія знешне бяскрыўдныя жартоўныя

[31] Никифоровский М. Я. Белорусские песни-частушки. С. 1.
[32] Там жа. С. 4.

рэчы набывалі іншае, палітычнае гучанне і ўспрымаліся слухачом як злая сатыра на рускага цара-дэспата.

У аснову класіфікацыі прыпевак у зборніку М. Я. Нікіфароўскага пакладзены геаграфічны прынцып: нумары размешчаны ў тым парадку, у той паслядоўнасці, як запісваліся — па губернях, паветах і вёсках. Такі прыём размеркавання тэкстаў робіць кнігу няэручнай для карыстання, зніжае яе практычнае значэнне. Але геаграфічны прынцып падачы матэрыялу мае адну надзвычайную перавагу над усімі іншымі — ён захоўвае той парадак выканання твораў, які ўсталяваўся ў народзе. Карацей кажучы, тут перад намі жывы рэпертуар (аднаго чалавека, групы людзей, цэлага населенага пункта), і мы бачым, якое месца займае тая або іншая прыпеўка ў выканаўцы, якія змены яна зазнае ў сваім бытаванні. Пададзеныя М. Я. Нікіфароўскім шматлікія варыянты даюць магчымасць меркаваць аб гэтых зменах (у залежнасці ад асобы, часу, мясцовасці), рухах, перамяшчэнні, міграцыі, што для навуковых назіранняў і вывадаў вельмі важна. Зборнік беларускіх прыпевак не застаўся незаўважаным [33].

Выхад у свет зборніка М. Я. Нікіфароўскага «Беларускія песні-частушкі» быў з'явай выключнай значнасці ў фалькларыстыцы дарэвалюцыйнай Расіі. Выданне не мела сабе роўных па колькасці і каштоўнасці змешчаных матэрыялаў. Зборнік, па-першае, папярэднічаў славутым фундаментальным выданням рускай частушкі В. І. Сімакова [34], які называюць выдатнейшым [35] (у ім 1000 запісаў), і Е. Н. Еляонскай [36] і, такім чынам, сведчыў аб самабытнасці беларускай прыпеўкі; па-другое, багацце і разнастайнасць апублікаваных тэкстаў увачавідкі паказвалі, што ў беларусаў існуе і бытуе жанр, любімы ў народзе, які ў высокай мастацкай форме выяўляе думкі і пачуцці, імкненні і жаданні працоўных мас.

Другім дакастрычніцкім выданнем беларускіх прыпевак быў зборнік В. Ластоўскага «Прыпеўкі», які ўключаў 143 тэксты. Палавіну твораў складалі чатырохрадковыя песенькі, астатнія — доўгія лірычныя або танцавальныя песні тыпу «Добры вечар, Рамане!», «Падушачка», «А як гэта дый не пыл», «Мяцеліца», «Вее вецер, вее вецер», «Адмаўляйце, варожанькі, ды не перастаўайце», «Бадай табе пятушэньку», «Няма цветку на ўсім светку», «У гародзе на лясе» і інш.

Сур'ёзным недахопам зборніка было тое, што складальнік не пашпартызаваў тэксты, не ўказаў, ад каго яны запісаны або з якіх узяты друкаваных крыніц. Адсутнасць пашпартоў пакідае няяснымі два важныя моманты: 1) у які перыяд і 2) у якіх раёнах бытавалі гэтыя творы. Складальнік не строга

---

[33] Русский филологический вестник. Варшава, 1912. Т. 17. С. 434; Зап. Северо-Западного отд-ния имп. Рус. географ. о-ва. Вильна, 1912. Кн. 3. С. 359—360.

[34] Симаков В. И. Сборник деревенских частушек. Ярославль, 1913.

[35] Русское народное поэтическое творчество / Под общ. ред. П. Г. Богатырева. М., 1954. С. 363.

[36] Елеонская Е. Н. Сборник великорусских частушек. М., 1914.

ставіўся да адбору матэрыялаў, таму ўключыў у зборнік шэраг перарабак рускіх танцавальных песенек накшталт «И шумит и гремит, дробный дождик идет», песенек «п'яніцкіх» і інш. Сапраўдных жа, тыповых прыпевак у зборніку В. Ластоўскага налічваецца не больш трох дзесяткаў. Калі да гэтага дадаць, што шэраг з іх вядомы па іншых публікацыях, то колькасць арыгінальных тэкстаў даволі нязначная. У зборнік В. Ластоўскага, як і ў зборнік М. Нікіфароўскага, амаль не ўвайшлі прыпеўкі на гістарычныя, грамадска-палітычныя тэмы, не кажучы аб рэвалюцыйных творах, за выключэннем адзінага тэксту. І ўсё ж, тое нямногае, што ёсць каштоўнага ў зборніку В. Ластоўскага «Прыпеўкі», дазваляе адвесці яму належнае месца ў беларускай фалькларыстыцы.

Трэцім па ліку выданнем беларускіх прыпеўкавых твораў быў зборнік П. Станіча «Беларускія прыпеўкі»[37]. Ён уключаў каля 70 тэкстаў танцавальных доўгіх і кароткіх песень, такіх, як «Лявоніха», «Мяцеліца», «Юрка», «Таўкачыкі», «Шастак», «Полька», «Кадрыль», «Бульба», «Бярозка», «Чыжык», «Антон маладзенькі», а таксама дударскія і лірычныя песні: «Біла мяне маці таўкачом», «Плыў чаўнок па рэчцы», «Ляцеў бабёр цераз двор» і інш. Сапраўдных жа прыпеўкавых тэкстаў у зборніку П. Станіча вельмі мала.

Што ж датычыць зборніка В. Астаповіча «Беларуская частушка» (Віцебск, 1903), які занатаваны ў бібліяграфічным даведніку А. Шлюбскага[38], то ён, нягледзячы на нашы пошукі, не выяўлены ні ў адной бібліятэцы рэспублікі. Зборнік не зафіксаваны ў іншых бібліятэчных даведніках, не значыцца ў каталогах такіх буйнейшых кнігасховішчаў краіны, як Публічная бібліятэка імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына і Дзяржаўная бібліятэка імя У. І. Леніна. Усё гэта дае падставы меркаваць, што назва кнігі занесена ў даведнік А. Шлюбскім памылкова. Магчыма, праца В. Астаповіча «Беларуская частушка», што друкавалася ў «Витебских губернских ведомостях», выходзіла асобнымі адбіткамі.

Апрача таго, значная колькасць прыпевак змяшчалася ў агульных фальклорных зборніках. Каля 300 тэкстаў, запісаных на Віцебшчыне, Магілёўшчыне і Гомельшчыне, падаў Е. Р. Раманаў у «Беларускім зборніку»[39]. Гэта ў асноўным жартаўлівыя танцавальныя песенькі, побач шмат нумароў двухрадковых прыпевак-прыгаворак. Каля 150 прыпевак надрукаваў П. В. Шэйн у першым томе сваіх «Матэрыялаў...»[40] У раздзеле песні «Разгульныя» пад загалоўкам «Плясавыя і прыпеўкі» побач з некалькімі доўгімі лірычнымі і танцавальнымі пададзены характэрнейшыя чатырохрадковыя песенькі-прыпеўкі, што выконваліся ў час танца. Гэта творы жартоўнага і

---

[37] Станіч П. Беларускія прыпеўкі. Вільня, 1919.
[38] Шлюбскі А. Л. Матэрыялы беларускай бібліяграфіі. Мн., 1927. Т. 4. С. 63.
[39] Романов Е. Р. Белорусский сборник. Киев, 1885. Т. 1, 2. С. 223—262.
[40] Шейн П. В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-западного края. СПб., 1897. Т. 1. Ч. 1. С. 531—570.

любоўнага зместу. У іх расказваецца аб няўдалых кавалерах, нешчаслівым замужжы і г. д. Ёсць тут некалькі прыпевак вострага антыпрыгонніцкага характару [41].

Звыш 80 тэкстаў прыпевак змясціў У. М. Дабравольскі ў «Смаленскім этнаграфічным зборніку» [42]. Публікацыя У. М. Дабравольскага вылучаецца тэматычнай разнастайнасцю. Злыя намовы на дзяўчыну, якая кахае хлопца, плёткі вясковых баб пра закаханых, бацькі цікуюць за дачкой-дзяўчынай, дакоры дзяўчыны хлопцу за нявернасць, кпіны з падарункаў жаніха, клятва закаханых у вернасці — вось кола тэм гэтых прыпевак.

Багата ёсць прыпевак і ў іншых друкаваных крыніцах [43].

У савецкі час велізарная колькасць прыпевак змяшчалася на старонках рэспубліканскіх і абласных газет, якія сталі ініцыятарамі збору твораў гэтага жанру і яго актыўнымі прапагандыстамі, а таксама ў часопісах і альманахах. Шмат беларускіх прыпевак у перакладзе на рускую мову друкавалі рэспубліканскія рускія газеты. Асноўная маса прыпевак, што змяшчалася ў перыядычным друку, затым трапіла ў розныя фальклорныя выданні.

У зборнік «Дарэвалюцыйная і Савецкая Беларусь у народнай творчасці» [44] увайшло 317 прыпевак. З іх дарэвалюцыйных толькі 21, і вядомы яны из зборніку М. Я. Нікіфароўскага, астатнія — савецкага часу. Тэксты не пашпартызаваны. У каментарыях пазначана стэрэатыпна: «Запісана ў розных раёнах БССР». Каментарый, як відаць, няпэўны і недастатковы.

Творы савецкага часу галоўным чынам грамадска-палітычнага зместу і адлюстроўваюць многія важныя падзеі ў жыцці нашага народа, рэспублікі: гэта прыпеўкі аб Кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадзянскай вайне, разгроме польскіх акупантаў, аб індустрыялізацыі і калектывізацыі краіны, ліквідацыі кулакоў, аб Чырвонай Арміі і яе легендарных палкаводцах, аб поспехах сацыялістычнага будаўніцтва, аб Канстытуцыі, У. І. Леніне, камсамольскай моладзі, выбарах, стаханаўцах і стаханаўскім руху, сацыялістычным спаборніцтве, аб ліквідацыі непісьменнасці, рэлігійных перажытках, новых звычаях і абрадах і г. д.

Як бачым, тэматычнае кола прыпевак надзвычай шырокае. У той жа час пры ўсёй мнагастайнасці зместу кідаецца ў вочы вузкасць тэматыкі, да-

---

[41] Усе яны запісаны А. Багдановічам — бацькам выдатнага беларускага паэта М. Багдановіча.

[42] Добровольский В. Н. Смоленский этнографический сборник. М., 1903. С. 453—472.

[43] Киркор А. Этнографический взгляд на Виленскую губ. // Этнограф. сборник. СПб., 1858. Вып. 3—4; Носович И. И. Белорусские песни // Зап. имп. Рус. географ. о-ва. СПб., 1873. Т. 5; Никифоровский Н. Я. Дударь и музыка: Очерк Витебской губ. // Этнограф. обозрение. 1892. Кн. 13—14. № 2—3; Довнар-Запольский М. В. Крестьянские игры в Минской губ. // Живая старина. СПб., 1891. Вып. 4. С. 203—204; Заметки по белорусской этнографии // Живая старина. 1893. Вып. 1. С. 292—296; Наша ніва. 1913. № 19, 26—27, 30, 38.

[44] Дарэвалюцыйная і Савецкая Беларусь у народнай творчасці / Склад. М. Я. Грынблат, Э. В. Галубок, Н. С. Махнач і А. К. Калечыц. Мн., 1938.

кладней, адсутнасць твораў аб каханні, характэрных для дарэвалюцыйнага часу.

У зборнік «Беларускі народ супраць папоў і рэлігіі»[45] побач з іншымі фальклорнымі жанрамі ўключана каля 200 савецкіх прыпевак. Зноў жа пашпартызацыя тэкстаў недакладная.

У тэматычным зборніку «Жанчына ў беларускай народнай творчасці»[46] пададзены 534 прыпеўкавыя тэксты. Дакладная пашпартызацыя таксама адсутнічае.

Гэта песенькі аб жанчыне, разняволенай Вялікім Кастрычнікам, жанчыне, якая ўпершыню ў гісторыі чалавецтва атрымала роўнае права з мужчынам у грамадстве, сям'і палітычным і дзяржаўным кіраўніцтве краінай, стала актыўным будаўніком сацыялістычнага грамадства.

З даваенных фальклорных выданняў асобна трэба адзначыць «Песні беларускага народа»[47], дзе змешчаны 104 прыпеўкі. Самі па сабе тэксты не вылучаюцца арыгінальнасцю і вядомы па іншых крыніцах. Самае каштоўнае тут — публікацыя мелодый. Пададзена 10 розных напеваў. Навуковае і практычнае значэнне публікацыі выключнае. Па-першае, гэта самае першае выданне беларускіх прыпеўкавых мелодый; па-другое, запісы зроблены не на слых (як гэта рабілася раней), а з дапамогай гуказапісваючых апаратаў, што дазволіла без скажэнняў, дакладна перадаць мелодыю, зафіксаваць яе танчэйшыя адценні. Нарэшце, запісы праводзіліся навуковымі фальклагыстычнымі сіламі: вучонымі-фалькларыстамі і музыказнаўцамі-прафесіяналамі. Усё гэта надае запісаным тэкстам і найгрышам асаблівую каштоўнасць.

Першы зборнік беларускіх прыпевак у пасляваенны час выдадзены ў 1960 г.[48] і ўключае 736 тэкстаў лепшых узораў дарэвалюцыйнай і савецкай прыпеўкавай творчасці.

Паколькі зборнік быў задуманы як папулярнае выданне, прызначаўся для масавага чытача, для гурткоў мастацкай самадзейнасці і культурна-асветных устаноў, складальнікі не палічылі патрэбным даваць каментарый, абмежаваўшыся ўказаннем у прадмове агульных крыніц, з якіх былі ўзяты тэксты. Апрача друкаваных крыніц складальнікі шырока прыцягнулі архіўныя матэрыялы аддзела фальклору ІМЭФ АН БССР, сабраныя за апошняе дваццацігоддзе.

У справе збірання і папулярызацыі прыпеўкі ў пасляваенныя гады вельмі многа карыснага зрабілі абласныя Дамы народнай творчасці, якія з мэ-

---

[45] Беларускі народ супраць папоў і рэлігіі / Склад. Э. В. Галубок і А. К. Калечыц. Пад рэд. і з прадмовай Н. М. Нікольскага. Мн., 1939.

[46] Жанчына ў беларускай народнай творчасці / Склалі Э. В. Галубок, А. К. Калечыц, Н. О. Багдановіч. Пад рэд. Н. М. Нікольскага і М. Я. Грынблата. Мн., 1940.

[47] Песні беларускага народа / Склаў М. Я. Грынблат. Мн., 1940. Т. 1

[48] Беларускія частушкі / Склад. К. П. Кабашнікаў, І. К. Цішчанка. Мн., 1960.

тай стварэння рэпертуару на мясцовыя тэмы сумесна з рэдакцыямі абласных і раённых газет, педагагічнымі інстытутамі арганізоўвалі спецыяльныя экспедыцыі па зборы сучасных прыпевак, праводзілі конкурсы на лепшага збіральніка народнай творчасці, выяўлялі ў народзе стваральнікаў новых твораў. Шырока прыцягваючы да гэтага мерапрыемства школьнікаў, студэнтаў, выкладчыкаў ВНУ, сельскую інтэлігенцыю, Дамы народнай творчасці, такім чынам, назапасілі багаты і каштоўны матэрыял. Новыя фальклорныя запісы папаўнялі рэпертуар калектыву мастацкай самадзейнасці, друкаваліся на старонках газет, уключаліся ў рэпертуарныя лісткі, выпускаліся асобнымі кніжкамі. Менавіта такім выданнем з'яўляецца зборнік прыпевак [49], падрыхтаваны Віцебскім абласным Домам народнай творчасці і прысвечаны 40-й гадавіне Беларускай ССР.

Зборнік «Частушки» адрасаваўся сельскім калектывам мастацкай самадзейнасці і ўключаў тэксты, як сказана ў прадмове, сабраныя на Віцебшчыне, а часткова перадрукаваныя з рэпертуарных зборнікаў, выдадзеных у Маскве і Мінску. Тэксты не пашпартызаваны.

Амаль такога ж тыпу маленькі зборнік П. Ахрыменкі «Сучасныя народныя песні і частушкі» [50], выдадзены Гомельскім абласным Домам народнай творчасці. У зборнік уключаны 43 прыпеўкі, з іх больш паловы беларускія, астатнія — рускія. Рускія тэксты вядомы па розных рускіх выданнях або з'яўляюцца перакладамі з беларускай мовы.

У анталогіі Г. Цітовіча «Песні беларускага народа» [51] надрукавана 59 прыпевак з падрабязным каментарыем да іх. Дарэвалюцыйныя творы (усяго 30 тэкстаў) узяты з вядомых прац П. Шэйна, Е. Раманава, М. Нікіфароўскага, савецкія — са зборнікаў М. Грынблата [52] і І. Любана [53]. Разам з тэкстамі ўкладальнік падаў ноты — 7 напеваў, з якіх упершыню апублікаваны толькі 2.

Багатая тэматычная падборка прыпевак змешчана ў зборніку «Беларускі фальклор Вялікай Айчыннай вайны» [54] (288 тэкстаў, з іх рускіх — 89, астатнія — беларускія) — усё лепшае з прыпеўкавай паэзіі, што створана беларускім народам за гады суровага змагання з гітлераўскім фашызмам.

Асноўнымі крыніцамі для публікацыі з'явіліся архіў аддзела фальклору ІМЭФ АН БССР, архіўны фонд рэспубліканскага Музея Вялікай Айчын-

---

[49] Частушкі (Колхозные частушки). Витебск, 1958.
[50] Сучасныя народныя песні і частушкі / Склаў П. Ахрыменка. Гомель, 1955.
[51] Песні беларускага народа / Уклад. і камент. Г. І. Цітовіча. Мн., 1959.
[52] Песні беларускага народа / Склад. М. Я. Грынблат. Мн., 1940. Т. 1.
[53] Беларускія народныя і рэвалюцыйныя песні для харавога і сольнага выканання / Склаў І. Любан. Мн., 1938.
[54] Беларускі фальклор Вялікай Айчыннай вайны / Склад. І. В. Гутараў, М. Я. Грынблат, К. П. Кабашнікаў, І. Р. Сцяпунін, І. К. Цішчанка. Мн., 1961. Зборнік у цэлым атрымаў станоўчую ацэнку ў друку. Гл.: Ахрыменка П. Слова Беларусі-партызанкі // Звязда. 1962. 19 верас.; Турцэвіч Л. Паэзія барацьбы //Літ. і мастацтва. 1961. 15 сн.; Малочка М. Гераічны эпас // Беларусь. 1962. № 5. С. 29.

най вайны, архівы Дамоў народнай творчасці і абласных музеяў, падпольныя партызанскія газеты, часопісы, рукапісныя зборнікі, альманахі і г. д.

Буйная калекцыя прыпевак (каля 500 твораў) змешчана ў кніве «Беларуская народная творчасць савецкага часу» (Мн., 1978), падрыхтаванай групай выкладчыкаў БДУ імя У. І. Леніна. Зборнік складзены на падставе палявых матэрыялаў, сабраных галоўным чынам на Беларускім Палессі пад час палявых экспедыцый. Каштоўнасць публікацыі не толькі ў тым, што яна адлюстроўвае месца прыпеўкі ў рэпертуары насельніцтва аднаго з найбагацейшых песеннымі традыцыямі рэгіёна. Складальнік раздзела В. Д. Ліцвінька падаў цэлую нізку нот. Сур'ёзным недахопам ранейшых публікацый прыпевак было тое, што яны амаль усе друкаваліся без нотных прыкладаў.

Невялікую, але цікавую новымі тэкстамі надборку прыпевак знаходзім у зборніку «Беларускі фальклор у сучасных запісах: Традыцыйныя жанры. Гомельская вобласць» (укладальнікі В. А. Захарава, Г. М. Кавалёва, В. Д. Ліцвінка. Мн., 1989). М. А. Харчанка, якая рыхтавала публікацыю, у сціслай прадмове разглядае рэгіянальную прыпеўку паводле сваёй класіфікацыі.

Тэматыка прыпевак вельмі блізка да тэматыкі традыцыйных пазаабрадавых песень. У ёй знайшлі адлюстраванне сямейныя і бытавыя адносіны чалавека, яго асабістае жыццё і асабліва інтымныя перажыванні.

Дарэвалюцыйная прыпеўка дае праўдзівую карціну побыту вясковага сялянства. Грамадскае становішча чалавека, сацыяльная няроўнасць, багацце і беднасць, доля і нядоля, нянавісць да класавых ворагаў — вось матывы многіх твораў. У эпоху капіталізму ў народным рэпертуары захоўвалася мноства прыпевак часоў феадалізму. Прыгон, паншчына-«дарэмшчына» закабалялі селяніна цалкам, прымушалі яго працаваць на пана штодзень, без адпачынку:

А як жа нам, бацюшка,  
Да царквы хадзіці:  
Ад нядзелі да нядзелі  
Трэба малаціці.

І вялікай радасцю для яго быў той дзень, калі яму надаралася не ісці на паншчыну:

А сягоння ж я  
Ды долі даждаўся:  
Дзень прыгону не дабыў,  
Урадні забыўся.[55]

Прыпеўкі малююць жахлівыя карціны жыцця прыгоннага сялянства: курныя хаты з дымнай лучынай, бясхлебіцу, нішчымніцу. Яны ўваскрашаюць перад намі змрочныя старонкі прыгонніцтва, якое давяло вёску да беднасці, асуджала сялян на галодную смерць:

[55] Шейн П. В. Материалы... Т. 1. С. 548.

Сяджу з крошачкаю сынам,
Плачу, не спяваю.
Выядае вочы дымам
Хатачка курная.[56]

З прыпевак відаць, што народ добра ўсведамляў віноўнікаў свайго гаротнага становішча:

Каб не тыя аканомы,
Быў бы мужык панам,
А праз тыя чорны скуры
Ёсць мужык галганам.[57]

У многіх прыпеўках знайшла адлюстраванне і пралетарызацыя сялянства беларускай вёскі. Для селяніна фабрыкант, заводчык ці прадпрымальнік-канцэсіянер з'яўляўся не меншым эксплуататарам ці драпежнікам, чым памешчык у сельскай гаспадарцы. Сялянскага хлопца, які адарваўся ад сахі ці касы і падаўся ў горад у пошуках шчасця, гэтак жа сама эксплуатуе прадпрымальнік-прамысловец. Прыпеўкі расказваюць аб цяжкіх умовах працы рабочых-шахцёраў, аб небяспецы работы на капальнях, калі, сагнуўшыся ў тры пагібелі, шахцёр возіць на сабе санкі з вугалем.

Перасяленне з Беларусі ў іншыя раёны царскай Расіі, асабліва адыходніцтва, паглынала найбольш здаровую сілу вёскі — моладзь. На цукровых заводах, на будаўніцтве мастоў, чыгунак працавалі маладыя хлопцы, а часам і дзяўчаты. Публікуючы прыпеўку

Ці ў вас, як у нас,
Пайшлі хлопцы на баласт,
А дзяўчаты занудзіліcь,
Па хлопцах зажурыліcь,

Е. Раманаў заўважаў, што яна ўзнікла ў 1907 г., калі хлопцы сталі хадзіць на работу на чыгунку [58].

Сяляне-адыходнікі, што наймаліся на работу на фабрыкі і заводы, былі людзьмі без пэўнай прафесіі, кваліфікацыі, іх бязлітасна эксплуатавалі. «Паглядзіце, у якім выглядзе яны вяртаюцца дадому вясной, калі на заводах буракі перапрацаваны і работы спынены да новага ўраджаю, і дома пачынаюцца палявыя работы. Вось ледзь ідзе абшарпаны хлопчык, яму ўсяго 14—15 год, же ён выглядае старым: голас — дрыжачы бас, з грудзей — глухі кашаль. Жудасна становіцца за чалавека, паглядзеўшы на такога пятнаццацігадовага старога. Сялянская бедната добра разумее пагубнасць такой працы для іх дзяцей і ў песнях праклінае заводы»,— пісаў Е. Раманаў у 80-х гадах

[56] Шейн П. В. Материалы... Т. 1. С. 548.
[57] Там жа.
[58] Гл.: Романов Е. Р. Материалы по этнографии Гродненской губернии. Вильна, 1912.

XIX ст.[59] Ілюзіі селяніна аб паляпшэнні свайго дабрабыту шляхам найму на прадпрыемства разбіваліся, як толькі сутыкаліся з жорсткай рэчаіснасцю капіталістычнага свету.

Сацыяльнай завостранасцю вызначаюцца прыпеўкі аб салдатчыне. Для маладога чалавека, які толькі ўступаў у жыццё, не было большага гора, чым служба ў царскай арміі. Салдатчына — гэта ярмо нявольніцтва, гэта палачная дысцыпліна, муштроўка:

Гуляй, гуляй, маё дзетка,
Астатняе лецечка.
У салдаты аддадуць,
Такой волі не дадуць.

Прыпеўкі аб салдатчыне напоўнены сумам, тугой, роспаччу:

Наша вуліца шырока,
Уся пасыпана пяском.
Здалі мілага ў салдаты,
Галасіла галаском.[60]

Служба ў арміі — гэта расстанне з родным домам, бацькамі, каханай дзяўчынай. А што чакае маладых людзей?

Мой мілёнак дарагой,
Нам не гуліваць з табой.
Цябе ў салдаты здадуць,
Мяне замуж аддадуць.

Дзяўчына шле праклён «казённаму дому», таму, хто разлучыў яе з каханым:

Найдзі, хмара, найдзі, гром,
І разбі казённы дом
І начальніка таго,
Што ўзяў мілага майго.[61]

У эпоху капіталізму ў беларускай вёсцы яшчэ моцна давалі аб сабе знаць рэшткі патрыярхальнага ўкладу, дамастроеўшчыны. «...Да гэтага часу,— пісала збіральніца беларускага фальклору З. Радчанка,— бацькі вельмі строгія і не толькі дачок аддаюць замуж супроць іх волі, але і сынам часта забараняецца жаніцца па іх выбару» [62]. Паведамленне гэта дакументальна пацвярджае тое, аб чым спяваецца ў прыпеўках, пацвярджае, наколь-

---

[59] Цыт. па кн.: Бандарчык В. К. Еўдакім Раманавіч Раманаў. Мн., 1961. С. 79.
[60] Беларускія частушкі. С. 35.
[61] Там жа. С. 34.
[62] Радченко З. Гомельские народные песни. СПб., 1888.

кі праўдзівыя, рэалістычныя гэтыя чатырохрадковыя песенькі на сямейна-бытавыя тэмы:

Ты не сватайся, Мікіта,
Я прасватана, прапіта.
Плачу, лёс свой праклінаю,
За каго іду — не знаю.[63]

Святое, чыстае пачуццё закаханых не заўсёды было светлым, радасным. На шляху да шчасця маладых людзей стаялі розныя перашкоды і асноўная — сацыяльная няроўнасць, якая адзнакай чалавечай годнасці ставіла багацце. Таму ў любоўных прыпеўках выказвалася абурэнне паводзінамі бацькоў:

Вы радзіцелі-мучыцелі,
Мучыцельніца маць.
За каго замуж хацела,
Не маглі мяне аддаць.

З асаблівай паўнатой у любоўных прыпеўках раскрываецца ўнутраны свет героя, яго душэўныя якасці, маральная чысціня. Шчырае пачуццё, адданасць, вернасць свайму каханню цэняцца вышэй за ўсё на свеце.

З прыпевак выразна вырысоўваецца вобраз жанчыны, лёс якой падаецца як ланцуг суцэльных пакут, перажыванняў. Самая шчаслівая пара ў жыцці жанчыны, калі яна беклапотнай дзяўчынай жыла ў сваіх бацькоў:

Пейце, дзевачкі, прыпеўкі,
Як жылося ў мамачкі.
Піла, ела, што хацела,
Спала да заранaчкі.

Але гэта цягнулася нядоўга. Бацькі не пыталі згоды ў дзяўчыны, яны спяшаліся выдаць яе замуж, каб хутчэй збыць з рук «нахлебніцу», лішні рот у сям'і:

Ой, вялікае мне гора,
Пайшла замуж маладою,
Чужой матцы на паругу,
Чужым дзецям на прыслугу.[64]

Аднак не прымірэнне, не пасіўнасць, а пратэст супраць дамастроеўшчыны гучыць у многіх лірычных прыпеўках.

У беларускай дарэвалюцыйнай народнай песнятворчасці ёсць вялікая колькасць сатырычных і гумарыстычных прыпевак, у якіх народ высмейва-

[63] Беларускія частушкі. С. 28.
[64] Там жа. С. 60.

не толькі сваіх ворагаў-паноў, падпанкаў, але і выносіць на суд грамадскасці адмоўныя бакі свайго асабістага жыцця — ляноту і нядобрасумленнасць, няварнасць, няпраўдзівасць, недарэчнасць, п'янства і г. д.

Трапнай прыпеўкай моладзь бічавала фанабэрыстасць, ганарлівасць, высмейвала і «скараспелых» кавалераў:

Ой, у садзе грушкі-дзічкі,
А мой жаніх невялічкі.
Буду грушкі збіраць,
Кавалера гадаваць.

І ўжо лагодна-іранічна:

Мой мілёначак харош,
Хоць за пазуху палож.
Палажыла б за душу,
Ды баюся — задушу.

Прыпеўкі савецкага часу адлюстравалі тыя вялікія змены, якія адбыліся ў жыцці нашай краіны і народа. Пакаэ Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны народ звязваў непарыўна з імем Камуністычнай партыі і яе кіраўніка і арганізатара вялікага Леніна:

Сонца ярка ўсходзіць.
Асвятляючы бары.
Нас на бой за хлеб і волю
Ленін вёў у Акцябры.[65]

У прыпеўках услаўляецца новы лад, што прынёс працоўным волю і шчасце:

Расцвітае ў садочку
Маладая вішанька.
Жыць свабодна толькі сталі
Мы пасля Кастрычніка.[66]

Гераічныя справы савецкіх людзей у перыяд індустрыялізацыі і калектывізацыі нашай краіны ўваходзяць шырока ў тэматыку прыпеўкі. Апеты высокія маральныя якасці савецкага чалавека, новай моладзі, іх душэўная прыгажосць, духоўнае багацце. Змест прыпевак напоўнены пафасам стваральнай працы, якую пазналі людзі Краіны Саветаў у калектыве, у дружнай сям'і народаў.

У суровыя гады Вялікай Айчыннай вайны прыпеўка, як і савецкая масавая песня, стала адным са сродкаў у барацьбе з нямецка-фашысцкімі за-

[65] Беларускія частушкі. С. 63.
[66] Там жа. С. 68.

хопнікамі. Багата складзена прыпевак пра гераічны подзвіг нашага народа, шмат твораў прысвечана народным мсціўцам — партызанам, паланянкам — дзяўчатам, гвалтоўна вывезеным на катаржныя работы ў фашысцкую Германію. З'едліва гаворыцца пра гітлераўскіх ваяк і іх паслугачоў, пра рабункі, разбоі, гнеўна асуджаюцца злачынствы фашыстаў. Прыпеўкі заклікалі помсціць ненавісным ворагам і славілі Савецкую Армію, што разграміла гітлераўскую Германію:

Нашы мужныя героі
Родны край праславілі,
Над рэйхстагам у Берліне
Чырвоны сцяг паставілі.[67]

Пасляваенная прыпеўка расказвала пра мірную, стваральную працу савецкіх людзей, пра іх клопаты і радасці ў будаўніцтве светлай будучыні і ў той жа час змагалася з усім тым, што перашкаджала савецкім людзям працаваць і тварыць у імя гэтай светлай будучыні. Сатырычнае слова прыпеўка накіроўвае супраць розных заган:

Што сказаць пра брыгадзіра?
Такі добры стаў на дзіва:
Дасць усё, што папрасі,
Толькі чарку паднясі.[68]

Мастацкія сродкі прыпеўкі абумоўлены яе прыродай і той функцыяй, якую яна выконвае як аператыўны і малы жанр. Кожная прыпеўка — гэта своеасаблівая мініяцюра. Наколькі эканомныя павінны быць яе выяўленчыя сродкі, каб праз нейкі штрых, дэталь стварыць цэлы вобраз, карціну, выклікаць неабходны настрой!

Адпаведныя і пэўныя асацыяцыі ў слухача выклікаюцца самой інтанацыяй верша, эмацыянальнай афарбоўкай вобраза:

А хто едзе? Ці не мой
На кабыле варанай?
Шапка-камазынка,
А сам, як разінька.

Як і ў старажытнай песні, адным з характэрных мастацкіх прыёмаў прыпеўкі з'яўляецца паралелізм. Прыпеўка дзеліцца на дзве часткі. У першай (першыя два радкі) заключаецца параўнанне, намёк на якую-небудзь з'яву, прадмет; другая частка (два апошнія) разгортвае змест, даводзіць да канца тое, аб чым напаміналася штрыхом у пачатку, і, такім чынам, дае пэўны малюнак:

---

[67] Беларускія частушкі. С. 14.
[68] Там жа. С. 176.

Усе квецікі жаўценькі,
А мой найжаўцейшы.
А ўсе дружкі міленькія,
А мой наймілейшы.

Пачуцці, душэўны стан чалавека, яго хваляванні, перажыванні параўноўваюцца, супастаўляюцца са станам ці з'явай прыроды па прыкмеце дзеяння. Паралелізм, пры якім другая частка вынікае з першай, называецца прамым або лагічным што мы і бачылі на прыведзеным вышэй прыкладзе.

Прыпеўкі з адмоўным паралелізмам у беларускім фальклоры сустракаюцца рэдка. Гэта такі творчы прыём, пры якім параўнанне нібыта адмаўляецца, а ўся ўвага сканцэнтроўваецца на другой частцы чатырох радкоў, чым дасягаецца большая паэтычная выразнасць:

Не кукуе то зязюлька,
Не саловачка пяе.
Плача то мая матулька,
Мяне замуж аддае.

Аднак ёсць мноства прыпевак з паралелізмам, пры якім ні ўнутрана, ні знешне сувязь з другой часткай твора не выяўляецца. Гэта так званы фармальны паралелізм. Ён як бы не мае прамога дачынення да таго, аб чым гаворыцца ніжэй і, такім чынам, быццам не выконвае ніякай функцыі. Аднак фармальны паралелізм у паэтыцы прыпеўкі з'яўляецца важным мастацкім элементам і адыгрывае вялікую ролю ў творчым акце спевака, становячыся трафарэтам, паводле якога лёгка было экспромтам складаць новыя творы. Таму шэраг прыпевак рознага зместу мае адзін і той жа зачын. Найбольш пашыраныя: «У гародзе на лясе», «На гары стаіць бяроза», «Многа, многа зор у небе», «З неба зорачка ўпала», «Ты не стой пад акном», «Ой, падружка, дарагая» і інш. Адзін і той жа зачын можа паўтарацца і ў самой прыпеўцы, складаючы два першыя радкі або два ўнутраныя — другі і трэці:

Не буду плакаць, бедаваць,
Слязамі мора наліваць.
Слязамі мора не нальеш,
А толькі сэрца надарвеш.[69]

Паўторы робяць радкі маналітнымі, думку выразней, узмацняюць яе гучанне, падкрэсліваюць вобраз. Асаблівую эмацыянальную насычанасць набывае прыпеўка дзякуючы паўторам аднаго і таго ж слова ў канцы радка або ў пачатку яго:

Чаго ідзеш па вуліцы?
Чаго цягнешся?
Чаму мяне не бярэш?
Чаму дражнішся?

[69] Беларускія частушкі. С. 36.

Сустракаюцца прыпеўкі, у якіх апошняе слова аднаго радка паўтараецца, пачынаючы наступны радок. Гэтым дасягаецца адзінства верша, адцяняецца думка:

Штосьці мне не верыцца,
Што мой мілы жэніцца.
Жэніцца, вянчаецца,
Любоў мая канчаецца.

У прыпеўках шырока выкарыстоўваюцца дыялогі, якія ўтвараюцца звычайна двума першымі і двума другімі радкамі, дзелячы монастрафу на дзве часткі:

— Ой, чаму ў цябе, дзяўчына,
Вусны саладзенькі?
— Пакрапіла маці мёдам
Для цябе, міленькі.

Дыялогі і маналогі набліжаюць мову прыпеўкі да гутарковай. Трэба адзначыць, што гутарковыя элементы як мастацкі сродак стварэння вобраза сустракаюцца ў самых ранніх прыпеўках і звязаны з гісторыяй узнікнення прыпеўкавага жанру. Прыпеўкі, як і іншыя вершаваныя жанры народнай творчасці, маюць рыфму, якая з'яўляецца своеасаблівым выяўленчым сродкам, надае радкам зладжанасць, садзейнічае больш глыбокаму сэнсаваму выяўленню. З другога боку, рыфма адыгрывае вялікую ролю ў рытмічнай арганізацыі прыпеўкі. Як адзначаў Я. Ф. Карскі, «яна звычайна аб'ядноўвае ў адзінае цэлае рытмічны перыяд, замыкаючы кожную з яго частак» [70].

Неабходна адзначыць, што ў паслякастрычніцкі перыяд прыпеўка становіцца самым баявым, аператыўным жанрам фальклору. Грамадска-палітычная тэма ў савецкай прыпеўцы заняла дамінуючае месца. Разам са зменай ідэйна-тэматычнай накіраванасці жанру мяняліся і яго мастацка-выяўленчыя сродкі. Некаторыя элементы мастацкай арганізацыі прыпеўкі, характэрныя для традыцыйнай паэзіі (напрыклад, паралелізм, сімволіка), трацяць сваю першапачатковую функцыю (сэнс традыцыйных сімвалаў забываецца), у выніку аказваюцца неактыўнымі кампанентамі кампазіцыі прыпевак, а ў многіх выпадках — анахранізмам.

Класіфікацыя і сістэматызацыя прыпевак — справа нялёгкая, бо, як і іншыя фальклорныя жанры, яны часта шматзначныя па змесце. Таму тут непазбежны суб'ектыўны момант.

Матэрыялы ў гэтым томе размеркаваны па двух асноўных раздзелах: прыпеўкі дакастрычніцкага часу і прыпеўкі савецкага часу. Унутры кожнага раздзела творы сістэматызаваны па тэмах ці сюжэтах, што лёгка заўважаецца пры чытанні. Аўтар не палічыў патрэбным даваць ім загалоўкі, паколькі ў аналагічных выданнях такое не прынята.

*І. К. Цішчанка*

---

[70] Карский Е. Ф. Белорусы. Т. 3. Вып. 1. С. 542.

1. Скора, скора снег растане,
Скора рэчкі паплывуць.
Скора мілага майго
У салдаты забяруць.

2. Вышывала я платочак
Ды не знала каму даць.
Бяруць мілага ў салдаты,—
Яму слёзы выціраць.

3. Ах ты, міленькі ты мой,
Мы апошні год з табой:
Цябе ў салдацікі здадуць,
Мяне замуж аддадуць.

4. Там ты будзеш ваяваці,
Тут я — гора гараваці.
Табе сінія палаці,
Мне цясовыя краваці.

5. Я за то ў гармонь іграю,
Што апошні год гуляю.
Спадзяюся я на то —
Дадуць новае пальто,
На галовачку башлык,
А пры боку стальны штык.

6. За работу татка біў,
На гульню гармонь купіў.
Гармонь новая разуха,
Будзе нам з табой разлука.

7. Перакіну я цагліну
Цераз быстры ручаёк.
Ці не ўбачу я мілашку
У апошні вечарок.

8. Лясок маленькі з прагаленкай,
З усходу вецярок.
Пагаворым, мой міленькі,
Хоць апошні вечарок.

9. Зеляніся, зеляніся
На гары, зялёны сад.
Сёння гора я даждала —
Мой міленькі, ды салдат.

10. Кіну каменьчык у рэчку,
Не магу яго дастаць.
Гоняць мілага ў салдаты,
Не магу яго даждаць.

11. У суботу вечарком
Цякуць слёзы ручайком,
А за то яны цякуць,
Што ў салдацікі вязуць.

12. Наша вуліца шырока,
Ўся пасыпана пяском,
Здалі мілага ў салдаты —
Галасіла галаском.

13. У істопачкі сядзела,
Канапелькі церла.
Як сказалі — міла здалі,
Ледзь я не памерла.

14. Я сядзела на дзіване,
Вышывала платок Ване.

Як сказалі — Ваню здалі,
З рук іголачкі упалі,
Як сказалі — павялі,
Нежывую паднялі.

15. Мне сказалі на базары,
Што мой мілы на вакзале.
Я к машыне падышла —
Яна свіснула, пайшла.

16. Выйду, выйду за вароты,
Пакачаю галавой;
Здалі мілага ў салдаты,
Засталася сіратой.

17. Па каморачцы хадзіла,
Башмачкамі грохала.
Здалі мілага ў салдаты —
Тры нядзелі вохала.

18. Вышывала я платочак,
Беражочкі лапіла.
Пайшоў мілы у салдаты —
Сем гадочкаў плакала.

19. Найдзі, хмара, найдзі, гром,
І разбі казённы дом,
І начальніка таго,
Што ўзяў мілага майго.

20. Калі б я была цыганка
І умела варажыць,
Не пусціла б я мілёнка
У салдацікі служыць.

21. У садочку пад кусточкам
Выкапана студня.

Ці паверыце, дзяўчаткі,
Як па мілым трудна.

22. У агародзе на лясе
Растуць дзве хмялінкі.
А хто прыдзе, прыхінецца
Да мяне, дзяўчынкі.

23. Белая касыначка
Ў моры паласкалася.
Бедная дзяўчыначка
Сіратой засталася.

24. Ой, стаяла яліначка
На заходзе сонца.
Ой, плакала дзяўчыначка,
Гледзячы ў аконца.

25. — Няма майго мілага,
Няма майго душкі,
Каму ж цяпер дастануцца
Пуховы падушкі?

26. Вецер вее, вецер вее,
Каліну калыша,
А мой мілы чарнабрывы
Да мяне не піша.

27. — Пішы, мілы, мой харошы,
Ды не забывайся,
На паненак на прыгожых
Ты не заглядайся.

28. Харошыя, прыгожыя
Самі сабе ў мыслі.
А мы з табой, мой міленькі,
Як у садзе вішні.

29. Катушачка чорная,
Нітачка сучоная.
Прыслаў мілы мне пісьмо,
А я не вучоная.

30. Каб я граматнай была,
Горачка б не знала,
Напісала б я пісьмо,
Міламу паслала.

31. Усё б я пела, усё б я пела
Розныя прыпевачкі,
Ды цяпер мне не да песень,
Дарагія дзевачкі.

32. Не буду плакаць, бедаваць,
Слязамі мора наліваць,
Слязамі мора не нальеш,
А толькі сэрца надарвеш.

33. А не ўсё па гору плакаць,
А не ўсё па ім тужыць,
Трэба ж хоць адну часінку
Ды ў вясёласці пажыць.

34. Годзе, годзе, мне ўжо плакаць,
Годзе, годзе слёзы ліць,
Трэба польку драбней маку
Пад гармонік закруціць.

35. Зайграйце, музыкі.
Мае лапці вялікі,
Мне татулька іх сплёў
На святы пакроў.

36. Пайду скакаць —
Дома нечага кусаць:

Сухары ды коркі,
На нагах апоркі.

37. Як удару трапака —
Лапаткі дзяруцца.
Як прыскочу казака —
Аборачкі рвуцца.

38. Танцуй, Мацвей,
Не шкадуй лапцей.
Лапці новенькія
Дый лазовенькія.

39. Я і стар — не магу,
Я і слаб — не магу.
Як зайграюць лявоніху,
Ашалеўшы бягу.

40. Ой, без дудкі, без дуды
Ходзяць ногі не туды,
А як дудку пачуюць,
Самі ногі танцуюць.

41. Іграй, іграй, іграчу,
А я табе заплачу,
А я хатку прадам,
Табе грошы аддам.

42. Іграй жа, дудка,
Ды не торгайся!
Пап'ём, паядзім
Дый разойдземся.

43. Ды і колькі ж нас —
Адна жменечка!
Пагуляем жа
Харашэнечка.

44. Адчаго мне не гуляць
У роднага брата?
Рукі, ногі не баляць,
Скрыпачка напята.

45. Во цяпер мне пагуляць,
Пакуль грае скрыпка:
Ручкі, ножкі не баляць,
Серадзінка гібка.

46. Во цяпер мне пагуляць,
Калі надаецца.
Ручкі, ножкі не баляць,
Серадзінка гнецца.

47. Во цяпер мне пагуляць,
Вясёлая скрыпка.
Ручкі, ножкі не баляць,
Серадзінка гібка.

48. Во цяпер мне пагуляць —
Ручкі, ножкі не баляць.
А як будуць балеці,
Буду дома сядзеці.

49. Ох ты, мой мужычок,
Маё сэрданька,
Ой, не сей канапель
Ані зернятка.

50. Канапелькі ірваць —
Ручкі, ножкі баляць,
Каля лёну хадзіць —
Серадзінка баліць.

51. Ой, я бела, як папера,
І ручанькі гладкі.

Я работы не рабіла
Ні ў таткі, ні ў маткі.

52. А я рабіць не хачу
І жаць не сагнуся,
А як пайду танцаваць,
Вось дзе пакажуся.

53. Пайшла б я казачка,
Ды баюся мужычка.
Жонка скача і пяе,
Мужык плача і кляне.

54. Да работкі нет ахвоткі
І жаць не прыгнецца.
З малайцамі танцаваць —
Як не разарвецца.

55. Мая мілка лёгка скача,
Лёгка полечку вядзе,
За кроснамі сядзіць плача,
Ніткі ў бёрда не ўвядзе.

56. Ці я ў мужа не жана,
Ці не гаспадыня?
Тры дні хаты не мяла,
Печы не тапіла.

57. Як была малада —
Да работы прытка:
За тры гады пачынок,
За сем нядзель нітка.

58. За што мяне мужык біў,
За якія ўчынкі?
Ці я яму не напрала
За год тры пачынкі?

59. Не сама я, кума, прала,
А я памагала:
Дала куме гаршок мяса
І тры кускі сала;
Яшчэ таму не канец —
Дала хлеба баханец.

60. За што мяне мужык біў,
За якія ўчынкі?
Чаму я не напрала
Чатыры пачынкі.

А я прала, варашыла,
На паліцу палажыла
Палічачка зламілася,
Пачыначкі зваліліся.
Палічачка — хроп! хроп!
Пачыначкі — шлёп! шлёп!

61. За што мяне, мілы, б'еш,
За якія ўчынкі?
Я не многа прапіла —
Чатыры пачынкі.

Я чатыры прапіла
І чатыры маю.
А на тыя астальныя
Яшчэ загуляю.

62. Крупы сею, гарох тачу,
Я за Грыца замуж хачу.
Сватай мяне, мой ты Грыцу,
Казаў бацька: «Дам цяліцу,
Дам цяліцу і цяля» —
Бяры мяне, круцяля.

63. Не руш тую нягодніцу,
Вазьмі мяне, работніцу.
Усякую работу ўмею,
Каля печы жывот грэю,

З-пад загнету ваду бяру,
На загнеце штаны пяру.

64. Я сядзела каля печы,
Біла мяне мама ў плечы:
— Не вучыся танцаваць,
А вучыся кросны ткаць.
— Я работаць ўсё умею,
Каля печы рукі грэю.

65. Танцавала рыба з ракам,
А пятрушка з пастарнакам.
А цыбуля з часнаком,
Красна дзеўка з дзецюком.

66. Свіння ў рэпе, свіння ў рэпе,
Парасяты ў грэчцы,
А музыка без языка
Каля печы трэцца.

67. Я дадому йшла,
Самавар знайшла.
Любі мяне, панамар,
Падарую самавар.

68. Я ля кузні йшла,
Вугалёк знайшла.
Любі мяне, кавалёк,
Падарую вугалёк.

69. Бадай таго каваля
Мяцеліца замяла,
Як ён мяне, маладу,
Замарозіў на ляду.

70. Мяне дома не было —
Саломачку цёрла,

Не бачыла міленькага,
Ледзьве не памёрла.

71. Ой, памерла, ой, памерла —
Панеслі хаваці.
Ўбачыла міленькага,
Стала аджываці.

72. Як пайду я па ваду
І старога павяду.
Ў пролубку галавой —
Пагуляю удавой.

73. Рада баба, рада баба,
Што дзед утапіўся,
Ды чорт яго не ўзяў:
За шчыт зачапіўся.

74. Мой муж недалуж,
Ляжыць у запечку.
Крэх-вох! Каб ён здох,
Паставіла б свечку.

75. Жыў-быў — не тужыла,
А як памёр — я забыла.
Ён на лаўцы ляжыць,
А я й не думала тужыць.

76. Быў, быў, ды няма,
Ён паехаў да млына.
Яго мука пытлюецца,
Ён з другой цалуецца.

77. Ішла баба дубнячком,
Зачапілась гаплічком:
Баба ўголас, баба ў крык:
— Адчапіся, мой гаплік.

78. Ой, там каля лужы,
Ляжыць баба нядзюжа,
Як музыку пачуе,
Дык лежачы танцуе.

79. На вуліцы дожджык курыць,
А дзед бабу дамоў турыць:
— Ідзі, баба, ты дамоў,
Напячы ты мне бліноў.

Баба дзеда паслухала
І дамоўку патрухала,
Аганёчак развяла
І бліночак узліла.

80. — Ой, дзед-дзядуленька,
А дзе ж твая бабуленька?
— Тут была, тут няма ж,
Паехала на кірмаш!
Ці не чорт яе панёс,
Не падмазаўшы калёс.

81. — Ты — Матрона, я — Тамаш,
Пойдзем разам на кірмаш,
А з кірмашу — ў кабачок,
Вып'ем водачкі кручок. *

82. Ты — стар, я — молада,
Вязі мяне да горада,
У горадзе прадасі,
Піражочкаў паясі.

83. Ох ты, дзедзька мой,
Я ж бабка твая.
Кармі мяне пірагамі,
Каб я гладка была.

84. Дзяўчыначка, люблю цябе,
Не еш хлеба — вазьму цябе.

Не еш хлеба, не пі воды,
Вазьму цябе для выгоды.
— Няхай не есць твая маці,
Калі хочаш мяне ўзяці.

85. Аксіначка, люблю цябе,
Не еж хлеба — вазьму цябе.
Аксіначка паслухала —
Тры дні хлеба не кушала.
— Ты, Аксінка, не журыся,
Вазьмі хлеба нажарыся.

86. — Курыць, вее мяцеліца,
Чаму стары не жэніцца?
— Як жа тут яму жаніцца,
Калі ўсе будуць дзівіцца.

87. Каб я сваю жонку меў бы,
Ані піў бы, ані еў бы;
Ані еў бы, ані спаў бы,
Толькі жонку цалаваў бы.

88. Ці на ліха, ці на шчасце
Я такі радзіўся,—
Усе дзеўкі заплакалі,
Як я ажаніўся.

89. Ой, божа ж мой,
Які я удаўся,
Жонка санкі прапіла,
Што з печы каўзаўся.

90. Не судзіце, добры людзі,
Што я абшарпаўся.
Мой татулька такі быў,
Я па ім удаўся.

91. Касіў бацька, касіў я,
Касілі мы абоя.
Накасілі стажок сена,
Прыйшла каза дый паела.

92. Я сваю мілашку цешыў,
На бязмен баранкі вешаў.
А я вешаў для таго,
Каб любіла аднаго.

93. Ты да мяне, я да цябе,
Болей да нікога,
Любі мяне, а я цябе,
А болей нікога.

94. А мілашачка мая,
Стаў я разжывацца.
Прадаў сенцы, купіў дзверцы,
Пачаў зачыняцца.

95. Я па беражку бягу,—
Бераг асыпаецца.
Я бяззубага люблю,—
Бяззубы не кусаецца.

96. Сякі-такі мужчына,
Абы дровы, не лучына;
Сякі-такі, абы быў,
Хлеба, солі раздабыў.

97. Сякі-такі шалудзень
Хоча мяне ўзяці,
А мой татка-марудзень
Не хоча аддаці.

98. Сякі-такі целяпень
У бацьку удаўся;

Цераз плот — ў агарод,
Ў крапіву схаваўся.

99. А як выйшаў з крапівы,
То ўзяўся ўбокі:
Гляньце, бабы, гляньце, дзеўкі,
Які я высокі.

100. Чаго, мілы, не вырос,
Чаго малаваты?
— Прыхапіў мяне мароз
Каля тваёй хаты.

101. Пастарайцеся, дзяўчаты,
Ўсе канавы засыпаць,
Бо такія хлопцы ходзяць,
Што з канавы не відаць.

102. Нашы хлопцы хвастуны,
На пяцёх адны штаны.
Як гуляць збіраюцца,
За штаны ругаюцца.

103. Божа, божа, божа мой,
Хто прыгожы, ды не мой,
А хто брыдкі, абшарпаны,
Гэта, мабыць, мой каханы.

104. А на печы на лучыне
Дзеўкі грошы палічылі,
Палічылі паўталера
Ды й купілі кавалера.

105. Чым ты, мілы, задаешся,
Што ў цябе за красата?
Вочы шэрыя, страшныя,
Як у нашага ката.

106. А мой мілы п'яніца
Гарэлкаю румяніцца.
Я схапіла памяло,
Нарумяніла яго.

107. А мой мілы хударлявы,
Мне не падабаецца,
Навяжу я на папары,
Няхай ад'ядаецца.

108. Мой міленачак харош,
Хоць за пазуху палож.
Палажыла б за душу,
Ды баюся задушу.

109. Мой міленак, як цялёнак,—
Толькі б венікі вязаць:
Правадзіў мяне дадому
І не змог пацалаваць.

110. Ах, не ўмееш, ах, не ўмееш,
Што пасееш, паліваць.
Падвадзіў мяне дадому
Ды не ўмеў пацалаваць.

111. Мы не знаем, як у вас,
А ў нас гэтак водзіцца:
Адзін тыдзень пажывуць,
На другі — разводзяцца.

112. Мы чужыя хаты крылі,
А свае някрытыя.
Чужых дзевак мы любілі,
А свае забытыя.

113. Рад старацца, рад вянчацца,
Рад сагнуцца у дугу.

Ды жаніцца — разарыцца,
Прызнаюся, не магу.

114. На гары на хутары
Хлопцы коней путалі,
Путалі, стараліся,
У сваты збіраліся.

115. Ой, Васілю, Васілёк,
Баравое зелле!
Яшчэ замуж не пайду,
Не спраўляй вяселля.

116. Прыкацілі ка мне сваты
На сівой кабыле,
Завярнуліся назад —
Жаніха забылі.

117. А ў майго мілёначка
Худая кабылёначка.
Не даехаў да гары,
Кабылу з'елі камары.

118. У майго мілёначка
Худая кабылёначка.
Увалілася ў равы,
Задзяўбалі жуaction.

119. У Полацку, Слуцку
Жывуць не па-людску:
Як прадалі парася,
Тры дні пілі барыша.

120. Ішлі лысы і пляшывы,
Знайшлі сабе грэбень,
Паглядзелі, пакруцілі:
— Ён нам не патрэбен.

121. Ішла дзеўка з Барысава.
— А чыя ж ты? — Дзянісава.
— А як завуць? — Ганусяю.
— А што робіш? — Смяюся я.

122. Не хадзіце, дзеўкі, ў лазню,
Не хадзіце парыцца.
Ад гарачае прыпаркі
Пудра ўся адваліцца.

123. Каб цябе кудык стаптаў,
Як ты мой фартук падраў.
Мне яго татусь купіў,
Каб мяне Пятрусь любіў.

124. Андрэй, не дурэй,
Не дзяры сарочкі.
Не ты праў, не ты ткаў —
Раманавы дочкі.

125. Я на рынку была,
Бачыла Тараса.
Ён і так, ён і сяк,
А я не здалася.

126. Ні за каго не пайду,
Толькі за Панаса:
У Панаса бочка мяса,
Я — на мяса ласа.

127. Ні за кога не пайду,
Толькі за Рамана:
А ў Рамана жыта яма,
Буду штодзень п'яна.

128. Татулечка родненькі,
Купі платок модненькі,

Ды як можна памадней —
Любіць віцебскі Андрэй.

129. Прадай, мілы, каровачку,
Купі, мілы, шнуровачку.
Без кароўкі прабуду,
Без шнуроўкі не буду.

130. У маёй у родненькай
Сарафанчык модненькі,
На падоле галуны,
Каб любілі хвастуны.

131. Дзяўчыначка мая люба,
Мядовая твая губа.
Адзін разок пацалую —
Тры дні ў роце мядок чую.

132. — Ой, чаму ў цябе, дзяўчынка,
Вусны саладзенькі?
— Пакрапіла маці мёдам
Для цябе, міленькі!

133. — Ох ты, міла чарнабрыва,
Чым ты бровы пачарніла?
— Я чарніла купарвасам,
Каб любілі хлопцы часам.

134. — Ой ты, дзевачка Ульяна,
Чаго любіш ты Мілляна?
— Чаго ж яго не любіць,
Ён умее галубіць!

135. — Ты бялянка, беласнег,
Куды пойдзеш на начлег?
— На зялёненькі лужок
Прыйду, міленькі дружок.

4. Зак. 1070

136. — Ах ты, Верачка-карціна,
Чаго любіш ты Марціна?
— У Марціна чорны бровы,
Як у рабыя каровы.

137. Мне сказалі на мілёнка,
Што худы і маленькі.
Паглядзела я ў нядзелю,
Ён, як кветка аленькі.

138. Колькі лесам ні хадзіла,
Мацней дуба не знайшла,
Колькі хлопцаў ні любіла,
Лепей Вані не знайшла.

139. Каму Вася проста Вася,
А мне Васечка.
Каму Вася нехарошы,
А мне красачка.

140. Гляну, гляну на бярозу,
Ой, якая высата!
Гляну, гляну на мілога,
Ой, якая красата!

141. Ваня — мой, Ваня — мой,
А я — Ванева,
Ваня плацце падарыў,
А я эганіла.

142. Міша — мой, Міша — мой,
А я — Мішава,
Міша плацце мне купіў,
А я вышыла.

143. Мяне мілы правадзіў
Да бярозавых ладзін.

Ён тры разы пабажыўся,
Што любіў мяне адзін.

144. Мне не трэба камяніцы,
Мне не трэба і святліцы.
Калі мілы па душы,
Пражывём і ў шалашы.

145. Мне не трэба пуд гароху —
Толькі дзве гарошынкі,
Мне не трэба многа хлопцаў,
А адзін харошынькі.

146. Мне не трэба пуд фасолі,
Мне адну фасоліну.
Мне не трэба дзевак многа,
Мне адну вясёлую.

147. Мне не трэба пуд мукі,
Мне не трэба сіта.
Мяне мілы пацалуе,
Цэлы тыдзень сыта.

148. Ты, міленькі, не балуй
Пры народзе не цалуй!
У пацёмачку адну
Непрыкметна нікаму.

149. Цалуй раз, цалуй два,
Хоць і дзесяць — не бяда.
Цалавацца усім можна,
Толькі трэба асцярожна.

150. Мама, гора, мама, гора,
Аддай мяне за Рыгора:
А ў Рыгора кудры ўюцца,
За Рыгора дзеўкі б'юцца.

151. Хораша табе, каліна,—
На табе шырокі ліст,
Хораша табе, падруга,—
Цябе любіць гарманіст.

152. На вуліцы скрыпка грае,
Мяне маці не пускае.
— Пусці, маці, паглядзець,
Будзеш сабе зяця мець.

153. Ты іграеш весяло,
Цябе хваліць ўсё сяло,
Цябе хваліць мая маць:
— Расхарошы будзе зяць.

154. Ой, іграй, іграй, гармошка;
Ой, іграй павесялей,
Ой, каб сумныя мінуты
Праходзілі весялей.

155. Ты зайграй, мая тальянка,
Трыццаціладовая!
З-за цябе, мая тальянка,
Любіць чарнабровая!

156. А гармонь мая, разуха,
Дваццацірублёвая,
Усе дзеўкі на гулянні,
Міла нездаровая.

157. Эх, гармонь мая, гармонь,
Распалі цябе агонь.
Гармонь мая новая,
Пяцісотрублёвая.

158. Ой, гармонь, мая гармонь,
Не спаліў цябе агонь.

Не ўзяла цябе вада —
На мае рукі бяда.

159. А гармонька-матушка!
Няма хлебца-мякушка,
Пап'ю кіслага кваску,
Разганю сваю таску.

160. Ванька з Піцеру прыехаў,
Гармонь новую прывёз.
Гармонь новая раве,
Бацька хлеба не дае.

Гармонь мая матушка,
Лепей хлеба мякушка.
На гармонь як закачу,
Тры дні хлеба не хачу.

161. А гармонька-матушка
Лепей хлеба-мякушка.
Я ў гармонь як закачу,
Тры дні хлеба не хачу.
— А як хлеба не з'ясі,
Дык гармонік прадасі.

162. Хто ў гармоніку іграе,
Той каровачкі не мае,
Ні кароўкі, ні бычка,
Не хлябае малачка.

163. А пайду я у лясок
Па сухія droўцы.
Любі мяне, Янучок,
Што чорныя броўцы.

164. А пайду я у лясок
Па чырвоны вішні.
Судзі, божа, кавалера
Ды на мае мыслі.

165. Каб гарэлкі ён не піў,
Табакі не нюхаў,
Каб ён дзевак не любіў
І зводаў не слухаў.

166. А сватаўся багатыр
Да краснае дзеўкі,
Пытаецца у людзей:
— Ці ўмее прыпеўкі?

167. Людзі ёй тут расказалі
Усе тыя весці.
— Ці чорт к табе, багатыр,
Пойдзе хлеба есці.

168. Адно тое — ты багат,
А другое — пышны,
А дзяўчына хараша,
Як у садзе вішня.

169. А чыя ж гэта чарэшня,
Чыя гэта вішня?
Чыя ж гэта чарнаброва
За вароты вышла?

170. Прыгожая дзяўчыначка,
Харошага стану,
А хто цябе любіць будзе,
Як я перастану?

171. Ёсць у садзе вішня,
Што ты не дастанеш,
Лепей мяне любіць будуць,
Як ты перастанеш.

172. Чые пчолы на папары,
А мае ў садочку.

А хто любіць далёкую,—
Я ж суседа дочку.

173. Чые пчолы ў дуброве,
А мае на рынку:
А хто любіць далёкую,
А я — Кацярынку.

174. Апанас коней пас,
Кацярына — бычкі;
Пачакай, не ўцякай,
Куплю чаравічкі.

175. А на двара дождж ідзе,
На ганачку слізка.
Добра таму кавалеру,
Што каханка блізка.

176. Дробны дождж ідзе,
На ганачку гразка.
Любіў, любіў дзяўчыначку
І растацца цяжка.

177. Колькі раз я заракаўся
Гэтай нівай не хадзіць:
Спалюбілася дзяўчынка,
Не магу яе забыць.

178. Колькі зорачак на небе,—
Адна зорачка гарыць;
Ёсць і гожых і прыгожых,—
Па адной сэрца баліць.

179. Давай, мілка, сядзем побач,
Давай прыгалубімся,
Усяроўна людзі кажуць,
Што мы з табой любімся.

180. Ой, зялёная доброўка,—
Зеляней яе лісток.
Мая мілая дзяўчынка
Мае зычны галасок.

181. Ой, чык, Кацярынка,
Чабоцікі красны.
Чаго блішчаць, каго любяць
Твае вочкі ясны?

182. А рыбачка-плотачка,
Люблю цябе, котачка, *
Што ты лёгка танцуеш,
Чаравічкаў не псуеш.

183. Расці, расці, рабіначка,
Расці, неківайся,
Любі мяне, дзяўчыначка,
З другім не кахайся.

184. А божа ж мой, сэрца рвецца,
Што дзяўчына не гарнецца.
А божа ж мой, што рабіць,
Ці пакінуць, ці любіць.

185. Я тады цябе забуду,
Дарагая ты мая,
Калі вырасце на камені
Зялёная трава.

186. Коля, Коля, выйдзі ў поле,
Разбі камень галавой,
Тады я табе паверу,
Што ты любішся са мной.

187. Ваня, Ваня, Ванечка,
Я табе не парачка,

А таму не парачка,
Што жанат ты, Ванечка.

188. Ах ты, Ваня, Ванечка,
Я табе не парачка.
Ты — вялікі, я — маленька,
Ты — мужык, а я — паненка.

189. На гары стаіць бяроза,
Пад гарою хатка.
Харошая дзяўчыначка,
Ды ліхая матка.

190. Што гэта за рэчанька,
Галубы купаюцца?
Што гэта за дзеўчына,
Ўсе ў яе ўлюбляюцца?

191. А дзе тая вулачка,
А дзе тая хатка?
А дзе тая дзяўчыначка,
А дзе любянятка?

192.— А ўжо ж тая вулачка
Травою зарасла,
А тая дзяўчыначка
Дый замуж пайшла.

193. А дзе тая крынічанька,
Што я умываўся?
А дзе тая дзяўчыначка,
Што я заручаўся?

194. А дзе ж тая крынічанька,
Што голуб купаўся?
А дзе ж тая дзяўчыначка,
З каторай кахаўся?

195. А ўжо тая крынічанька
Даўно замучона,
А ўжо тая дзяўчыначка
Даўно заручона.

196. Сяку дровы, сяку дровы,
Куды трэскі ляцяць.
Аддай мяне, матуленька,
Куды вочы глядзяць.

197. Сяку дровы, сяку дровы,
Шчэпкі коцяцца,
Аддай мяне, матуленька,
Куды хочацца.

198. Сяку дуб, сяку дуб,
Трэскі валяцца.
Аддай мяне, матулечка,
Дзе не сварацца.

199. Каб я знала, каб я знала,
Дзе мне замужам бываць,
Памагла б я той свякроўцы
Хоць капусту палівацъ.

200. Мяне мамачка будзіла,
Нада мною плакала:
— Уставай, мая дачушка,
Я цябе засватала.

201. Не кукуе то зязюлька,
Не саловачка пяе.
Плача то мая матулька,
Мяне замуж аддае.

202. Ты не сватайся, Мікіта,
Я прасватана, прапіта,

Плачу, лёс свой праклінаю,
За каго іду, не знаю.

203. Я за то смутна хаджу,
Што я замуж выхаджу.
Ў старонку незнаёмую,
Ў дзярэўню невясёлую.

204. Я скакала, драпацела,
За старога не хацела,
Бо ў старога барада,
А я дзеўка малада.

205. Мяне маці гадавала,
За п'яніцу аддавала.
П'яніца дужа п'е,
Прыдзе дамоў — мяне б'е.

— А ты, дочка, уцякай,
Праз акенца вылязай.
— Ці чорт яго ўцячэ,
Ручкі, ножкі пераб'е.

206. З неба зорачка упала
У халодную ваду.
Я за п'яніцу папала,
Ей жа богу, прападу.

207. А ты п'яніца-прапой,
Нажылася я з табой:
Піпку курыш, водку п'еш,
Дзевак любіш — мяне б'еш.

208. Ей жа богу, я прапала,
За лодыра жыць папала.
Ходзіць лодыр голы, босы,
Толькі курыць папіросы.

209. Я не знала горшай мукі,
Як папала шаўцу ў рукі:
Шылам коле, дратвай рэжа,
Узлаваўся — з нажом лезе.

219. Ой, вялікае мне гора,
Пайшла замуж маладой я.
Чужой матцы на паругу,
Чужым дзецям за прыслугу.

211. Чужа матка ліхадзейка,
Чужы бацька ліхадзей,
На работу гоняць рана,
А з работы — папазней.

212. А як замуж я пайшла,
Гора цяжкае знайшла.
Хлеб у горле комам стаў,
Светлы дзень мне ноччу стаў.

213. За гарой, за крутой
Капусту садзіла,
А не ўзяў мяне той,
Каго я любіла.

А ўзяў мяне той,
Каго я не знала,
За мой гэты перабор,
Што я выбірала.

214. Вы радзіцелі-мучыцелі,
Мучыцельніца мацЬ.
За каго замуж хацела,
Не маглі мяне аддаць.

215. Аддала мяне матуля,
Куды я хацела.
Цяпер ходзіць нагаечка
Каля майго цела.

216. Пей тады, калі пяецца,
Замуж выйдзеш,— не прыдзецца;
Гора шыбне — загаруеш,
Усе песенькі забудзеш.

217. Пейце, дзеўкі, як пяецца,
Замуж пойдзем, ўсё мінецца,
Не прыдзецца болей пець,—
Нада горушка цярпець.

218. Пейце, дзевачкі, прыпеўкі,
Як жылося ў мамачкі:
Піла, ела, што хацела,
Спала да заранаўкі.

219. Я, бывала, прыпявала
Розныя прыпевачкі,
А цяпер вы прыпявайце,
Дарагія дзевачкі.

220. Не любіцеся, дзяўчаты,
Налюбілася ўжо я,
За паўгодзіка завяла,
Як кашоная трава.

221. Цвецікі-букецікі,
Пасохнеце, павянеце,
Дзевачкі-падружачкі,
Не раз мяне памянеце.

222. Вы гуляйце, я не буду,
Маладосць сваю забуду,
Маладосць сваю, красу
Ў лес пад ёлку занясу.

223. Вы не йдзіце, дзеўкі, замуж,—
Замужам нявесела:

Кацярына выйшла замуж,—
Галоўку павесіла.

224. Гуляй, дзеўка, красуйся,
Яшчэ замуж не суйся;
А замужам трэба знаць —
Позна легчы, рана ўстаць;
І свякроўцы гадзіць,
Як па брытве хадзіць.

225. Гуляй, гуляй, дзяўчына,
Цяпер твая гадзіна.
А як будзеш мужа мець,
Не захочаш паглядзець.

226. Ці я табе не казала,
Ці не гаварыла,
Было замуж не хадзіць,
Тады б не тужыла.

227. Мяне мамачка радзіла
У полі пад асінаю,
Прыгажосці дала мала,
Долю — нешчаслівую.

228. У гародзе наградзе
Вырасла маліна.
Ніхто замуж не бярэ,
Бо я сіраціна.

229. У гародзе лебяда,
За гародам мята.
Ніхто мяне не бярэ,
Бо я не багата.

230. Ой, ду-ду, ду-ду, ду-ду,
Радзілася на бяду,

Бог мне долі не дае,
Ніхто замуж не бярэ.

231. Мамачка няродная,—
Вячэрачка халодная.
Калі б родная была,
Падагрэла б, падала.

232. Як была я мала, мала,
Мяне мама калыхала.
А як стала падрастаць,
Сталі хлопцы калыхаць.

233. Мяне татка гадаваў,
Хлеба ўволю не даваў,
Каб я шыбка не расла,
Скора замуж не пашла.

234. А мой татачка ласкаў,
На вулачку не пускаў.
— Не пушчу, балуешся,
З мальцамі цалуешся.

235. Я на ганку стаю,
Слёзы коцяцца.
Дзеўкі замуж ідуць,
І мне хочацца.

236. А я замуж захацела,
Кулем з печы паляцела,
Пакуль з печы звалілася,
Пра замужжа забылася.

237. У суботу вечарынкай
Біла мама карчавінкай,
Небальшэнькай, маленькай
З-за цябе, удаленькі.

238. Біла мяне мама зранку
І пабіла на мне дранку,
Каб гуляць я не хадзіла,
Каб я хлопцаў не любіла.

239. Мяне дома б'юць і лаюць,
Каб на мілага забыць.
Выйду ў сенечкі, паплачу,
Усё раўно буду любіць.

240. Віла мамачка вяроўку
І хацела мяне біць,
А я мамачцы сказала:
— Хоць ты б'еш, буду любіць.

241. Біла мяне мая мама
Канапляным путам:
— Не любіся, мая дочка,
З такім баламутам.

242. Ад судніка да судніка
Палюбіла паскудніка
І не знаю, што рабіць,
Ці пакінуць, ці любіць.

243. А я ў татачкі адна,
Меру рэчаньку да дна.
Ніхто п'яніцу не любіць,
Улюбілась я адна.

244. Дзевачкі, прапала я,
За п'яніцу папала я.
П'яніца валяецца —
Усё роўна падабаецца.

245. А мамачка, мамачка,
Любіць мяне Ванечка.
А дзе ідзе — не міне,
Пацалуе, абайме.

246. Ай, мамачка, мамачка,
Любіць мяне Яначка,
А я яму — гаршчок масла,
Каб прыходзіў да нас часта.

247. А мамачка, мамачка,
Любіць мяне Яначка.
У яго конікі сівыя,
У яго штонікі сінія.

А і то не пазорна,
Што ў яго кашуля чорна.
Бяры, бяры смела —
Я вымыю бела.

248. Я іду, іду, іду,
Стану дый падумаю,
Можа міленькі не любіць,
А я, дура, думаю.

249. Добра тое жыта жаць,
Каторае гнецца,
Добра хлопчыка любіць,
Каторы хінецца.

250. Харашо траву касіць,
Каторая зялёная,
Харашо дзеўку любіць,
Каторая вясёлая.

251. Люблю тое жыта жаць,
Каторае спела.
Люблю тую дзяўчыначку,
Каторая смела.

252. Харашо то жыта жаць,
Каторае ўгожа.
Харашо тую любіць,
Катора прыгожа.

5. Зак. 1070

253. Каля рэчкі я хадзіла,
Утаптала беражок,
Выбірала тую кветку,
Каб любіў мяне дружок.

254. Ой, пайду я на гару,
Нарву зелля румяну,
Хоць сама я непрыгожа,
Прыгожага падману.

255. Непрыгожая сасна —
Прыгожы падсасоначак,
Непрыгожая сама —
Прыгожы мой мілёначак.

256. Не глядзіце на мяне,
Што я маленька.
Надзенуся, прыбяруся —
Буду краленька.

257. Хоць я мала, хоць я мала,
Хоць я недарасла.
Паставіла і выткала
Шоўкавыя кросны.

258. Хоць я мала, хоць я мала,
Хоць я невялічка,
Памыюся, прыбяруся,
Буду маладзічка.
Гаспадынька з мяне добра.
Хоць я мала, хоць я дробна,

259. Я хадзіла каля тыну
Каля новенькага.
Палюбіла кавалера
Чарнабровенькага.

260. Цераз рэчку, цераз тын
Палюбіў мяне Юстын,—
Палюбіўшы, не бярэ,
Толькі жалю задае.

261. А па лесе я хадзіла,
Улюбіла ёлачку;
Ці паверыце, падружкі,
Сохну па міленачку.

262. На зялёненькім лужку
Напішу пісьмо дружку,
Напішу па тайнасці,
Што люблю да крайнасці.

263. Кавалер, кавалер,
Мілае каханне,
Чаго цябе не відаць
Да самага рання?

264. — Устань, Маша, ўздуй агонь,
Падай новую гармонь!
— Чаму тады не прышоў,
Як агонь быў не тушон?
Свяча сальная гарэла,
Па табе душа балела,
Баліць сэрца і душа
Па табе, мая краса.

265. Чаму ж тады не прышоў,
Як я жыта жала?
Я ж ад рання цэлы дзень
Цябе ўсё чакала.

266. Чаму тады не прышоў,
Як месячык узышоў?
Чаго цябе прынясло,
Як сонейка узышло?

267. Чаму ж тады не прышоў,
Як кудзельку прала?
Я ўсю ночку да зары
Цябе ўсё чакала.

268. Што стаіш надуўшыся?
Прыдзі ка мне разуўшыся,
Каб боцікі не рыпелі,
Каб падкоўкі не звінелі.

269. — Чаму мілы не прышоў?
— Новы боты не знайшоў.
А ў старых не хочацца,
Падмёткі валочацца.

270. Чаму вуліцай ідзеш,
Чаму цягнешся?
Чаму мяне не бярэш,
Чаму дражнішся?

271. Ці кашуля чорна,
Ці я не пазорна?
Кашулечка бела —
Бяры мяне смела.

272. Наша возера шырока,
Птушка кружыць над вадой.
Па вачах мілёнка бачу,
Што смяецца нада мной.

273. А з крыніцы вада льецца,
Бяры, міленькі, на чай.
Як не думаеш жаніцца,
То прашу не прывучай.

274. Калі косіш, дык касі
Зялёную траўку,
Калі любіш, дык любі,
Не пускай паслаўку.

275. Калі любіш, дык любі,
Не кажы нікому.
Цяпер людзі разнясуць,
Як вецер салому.

276. Калі любіш, любі дружна,
А не любіш, не жартуй жа.
Не задавай сэрцу тугі.
Ты не возьмеш, возьме другі.

277. Не звівайся, хмель, з ялінай,
Не звыкайся ты з дзяўчынай:
Хораша будзе звыкацца,
Цяжка будзе расставацца.

278. Каб я знала, не купляла
Зонціка квяцістага.
Каб я знала, не любіла
Мілага фарсістага.

279. Сама хатку я зрубіла,
Сама подруб я дала,
Сама мілага любіла,
Сама й ганьбу я дала.

280. Сама ружу пасадзіла,
Сама буду паліваць.
Сама дружка палюбіла,
Сама буду век страдаць.

281. Белую касыначку
Павешу на асіначку;
Няхай вецер панясе,—
Мне ў любові не вязе.

282. Ці я ў бацькі не дачка,
Ці я не дачушка?
Каса мая да пояса,
А ў касе істужка.

283. Нашто браў, калі знаў,
Што не ўмею жаці.
Будзе твая пшанічанька
У полі зімаваці.

284. У гародзе тычка,
За гародам тычка.
Ты знаў, каго браў,
Што я не вялічка.

285. У гародзе мята,
За гародам мята.
Ты знаў, каго браў,
Што я не багата.

286. А ў гародзе рэпка,
На плоце — націнка.
Нашто браў, калі знаў,
Што я сірацінка.

287. А ў гародзе рожа,
За гародам рожа.
Ты браў, ты знаў,
Што я не прыгожа.

288. А ў гародзе на лясе
Тры гарошанькі,
А хто мяне пацалуе,
Той харошанькі.

289. А ў гародзе на мяжы
Тры кусцікі мяты,
А хто дзеўку пацалуе,
Той будзе багаты.

290. Гарыць бор, гарыць бор,
Гарыць і сасонка.
А хто мяне пацалуе,
Таго буду жонка.

291. Сівы конь, сівы конь,
Белыя галёнкі.
Не хадзі, мілёнак мой,
Да чужое жонкі.

292. У гародзе на градзе
Тры калівы бручкі.
Цалавалі малойчыкі
Дзевачак у ручкі.

293. У гародзе лебяда,
За гародам — дзічка.
Любі, любі, мой міленькі,
Хоць я невялічка.

294. У гародзе лебяда,
На дарозе — мята,
Любі, любі, мой мілёнак,
Хоць я не багата.

295. Не хадзі каля хаты,
Мілая дзяціна,
Не любі ты багатыркі,
Няхай яна згіне.

296. Я каровачку даіла,
Чорную, рагатую.
Мяне хлопцы болей любяць,
Чым цябе, багатую.

297. Падаіла я карову
Ў новую даёначку.
Слава богу, прывыкаю
Я к свайму мілёначку.

298. Было топкае балота,
Цяпер суханькі лужок.
Быў далёкі, незнаёмы,
Цяпер міленькі дружок.

299. Бурачок, бурачок,
Чырвона націнка.
Мяне хлопцы шчыра любяць,
Хоць я сірацінка.

300. Гаварыла я мілому:
— Не з багатага я дому.
— Ах ты, мілая мая,
Не пытаю дому я!

301. Ой, не стой пад акном,
Не тапчы ты мяты.
Калі хочаш мяне браць,
Папытайся ў таты.

302. Не стой пад акном,
Не тапчы румянку.
Калі хочаш мяне браць,
Прасі маю мамку.

303. Не стой, мілы, пад акном,
Хадзі ка мне ў хату.
Усю праўду я скажу,
Як роднаму брату.

304. Ты не стой пад акном,
Не лузай гарбузікаў.
Я не буду гаварыць
З табой, карапузікам.

305. Не стой пад акном,
Не машы картузікам,
Я з табой не пайду,
З такім карапузікам.

306. Не хадзі, мілы, ка мне,
Не тапчы травіцы,
Я цябе любіць не буду,
Ідзі да ўдавіцы.

307. Не руш мяне, не чапай,
Бо вусоў не маеш!
Ідзі вусы прычапі,
Тады мяне зачапі.

308. Сядзіць голуб на дубу,
Галубкі — на вішні.
Скажы, скажы, мой міленькі,
Што ў цябе на мыслі.

309. Сядзіць голуб на дубу,
Салавей — на ветцы.
З адной дзевачкай гуляю,
Другая ў прыметцы.

310. Адна вішанька салодка,
А другая горка.
Адзін мілы Мікалай,
А другі — Міколка.

311. Адна вішанька высока,
А другая нізка.
Адна мілая далёка,
А другая блізка.

312. У мяне ўхажораў два:
Ў тым канцы і ў гэтым.
Аднаго люблю зімой,
А другога летам.

313. У мяне мілёнкаў пяць,
Усе на картачках вісяць:
Коля, Вася, Міша, Грыша, —
Пятага забыла звяць.

314. Не табой трава памята,
Не табе яе касіць.
Не табою я занята,
Не табе мяне любіць.

315. Выйду ў сад на самы зад,
Дзе трава памятая.
Не садзісь, міленак, побач,
Я цяпер занятая.

316. Колькі печы ні паліла,
Ды ўсё трэсачкамі.
Колькі хлопцаў ні любіла,
Ды ўсё смешачкамі.

317. Маё поле не арана,
Але жыта родзіць.
А я хлопцаў не любіла,
Самі ка мне ходзяць.

318. Каля мяне хлопцы ўюцца,
За мяне хлопцы б'юцца,
А [redacted] люблю аднаго,—
Вам не ведаці каго.

319. Я па кладачцы хадзіла,
Кладачка ўгіналася.
Аднаго толькі любіла,
Восем набівалася.

320. А з крыніцы вада льецца,
Не вада — адэкалон.
Раней я па ім нудзілась,
Хай цяпер сумуе ён.

321. Цячэ вада з агароду,
Цячэ вада зімна.
Палюбіў мяне мой мілы,
Я таму не вінна.

322. Я стаяла каля хаты,
Праязджалі міма сваты;
І чарнявы, і прыгожы
Падарылі машну грошай.
Мяне маці біла, біла:
«Дзе ты, шэльма, зарабіла».

323. Ты не лай мяне, матуля,
За памаду і духі:
Не сама я іх купляю,
А купляюць жаніхі.

324. Павей, ветрык халадзенькі,
Адкуль я жадаю,
Ад тэй вёсачкі харошай,
Скуль мілога маю.

325. Вецер вее, сонца грэе,
Я на ганачку стаю.
Прыйдзе мілы, пацалуе
Ён каханачку сваю.

326. У падружкі фартук белы,
А ў мяне ружовенькі.
У падружкі мілы сумны,
А ў мяне вясёленькі.

327. У мяне голаса не стала,
У дзяўчыны маладой:
Напаіў мяне мілёначак
Халоднаю вадой.

328. Я на лузе дзень касіла,
Касу ў лесе палажыла,
Пад самую пад ёлачку,—
Сама пайду к мілёначку.

329. Ты касі, касі, каса,
Покі на траве раса.
Раса з травачкі далоў,
А я к мілашачцы дамоў.

330. Дайце з горачкі спусціцца,
Ручаёк пераскачыць.
Дайце з міленькай спыніцца,
Пра любоў пагаварыць.

331. Ты сарока-белабока,
Навучы мяне лятаць:
Ні высока, ні далёка,
Каб мілую павідаць.

332. Ой, падружка дарагая,
Перадай міленачку:
На мяне туга напала,
Як раса на ёлачку.

333. Зазнібела маё сэрца,
Я не ведаю, чаго.
Я не бачыла мілога,
Дык няўжо ж то з-за яго?

334. Цераз рэчку жэрданька,
Баліць маё сэрданька.
Клічу мілага — не чуе,
Невядома, дзе начуе.

335. Тоненька іголачка
Не гнецца, не ламаецца.
Няма майго міленачка —
Не спіцца, не гуляецца.

336. Няма яблынькі пры плоце —
Недзе яблычак сарваць:
Няма мілага на йгрышчы —
Няма з кім і пагуляць.

337. Ў садзе яблынька высока,
Нельга яблычка сарваць.
Мая мілая далёка,
Нельга словачка сказаць.
Калі б яблынька паніжай,
Можна б яблычка сарваць,
Калі б мілая пабліжай,
Можна б словачка сказаць.

338. Паразмыла, паразмыла,
Паразмыла берагі.
Маё сэрца ные, ные
Па табе, мой дарагі.

339. Ах, соўнейка, соўнейка,
Закаціся скоранька.
Маё сэрцайка знудзела,
Даўно з мілым не сядзела.

340. Ах, сонейка, сонейка,
Закаціся скоранька,
Мой міленькі, мой харошы,
Скінь боцікі, прыдзі босы.

341. Каб ты добранькі быў,
Дык прышоў бы ка мне
На часінку пагуляць,
Мне прыпевачку спяваць.

342. Каля майго двору едзеш,
Чаму ка мне не заедзеш?
Ёсць у мяне сені, хата,
Я — дзяўчына зухавата.

343. Закацілась ясна сонца,
Перастала яно грэць.
Аддаліўся мой мілёнак,
Перастаў мяне жалець.

344. А божа ж мой, ядыненькі,
Не гаворыць мой міленькі.
А божа ж мой, што рабіць,
Перастаў мяне любіць?

345. Не знайсці такой бярозы,
А каб дождж не памачыў.
Не знайсці такой любові,
А каб хто не разлучыў.

346. Ёлачка, сасоначка,
Баюся я, ўкалюся я.
Жалка мне мілёначка,
З каторым расстаюся я.

347. Каціліся колы з горы,
А ў даліне сталі.
Любіліся, кахаліся,
Цяпер перасталі.

348. Любіліся, кахаліся,
Як ластаўкі ў стрэсе,
А сягоння разышліся,
Як ягадкі ў лесе.

349. Любіліся, кахаліся,
Як галубоў пара,
А цяпера разышліся,
Як чорная хмара.

350. Як мы з ім любіліся,
Сухія дубы віліся,
Як любіцца перасталі,
І зялёныя павялі.

351. Дура была, заламіла
Ветачку не выспеўшы.
Дура была, палюбіла
Хлопчыка не вызнаўшы.

352. Не капай, тата, карэнні,
Не сушы зялёны сад,
Маё шчасце уляцела
І не вернецца назад.

353. Па садочку я хадзіла,
Па саду цвітучаму,
Аддала сваю любоў
Салаўю лятучаму.

354. Ой, дзе дзеўся той цвяточак,
Што даліну украшаў?
Ой, дзе дзеўся той дружочак,
Што славамі суцяшаў?

355. А бывала, выйду, выйду,
І мілёнак выйдзе мой.
А цяпер я выйду, выйду
І адна іду дамой.

356. Ночка цёмная лягла,
Не пайду дамоў адна.
Дайце праважатага,
Хлопца нежанатага.

357. Дзе мы з міленькім стаялі,
Дзе мы расставаліся,
Слёзы капалі на розы,
Розы асыпаліся.

358. Дзе мы з міленькай стаялі,
Там растаялі снягі,
А дзе з ёю мы сядзелі,
Там пралескі зацвілі.

359. Рана сонейка заходзіць,
За лесам хаваецца.
Рана, мілы, пакідаеш,
Потым будзеш каяцца.

360. К сіню мору падхадзіла,
Сіне мора пеніцца,
Сіне мора адказала:
— Твой міленак жэніцца.
Сіне мора адказала:
— Твой міленак жэніцца,
Жэніцца, вянчаецца,
Любоў твая канчаецца.

361. Штосьці мне не верыцца,
Што мой мілы жэніцца,
Жэніцца, вянчаецца,
Любоў мая канчаецца.

362. Каля рэчкі я хадзіла,
Выглядала глыбіню,
Калі мілы мяне кіне,
Гэтай рэчкі не міну.

363. А у садзе жоўты цвет
Зімы не баіцца.
Праз людскія языкі
Кінулі любіцца.

364. З неба зорачка упала
На жалезны сундучок.
Уся любоў мая прапала
З-за падружчын язычок.

365. На гары стаіць дубок,
Каб ён не развіўся,
А хто любіў ды пакінуў,
Каб ён не разжыўся!

366. Бадай таго чорт узяў,
На даліну кінуў,
Што зімою любіў,
На лета пакінуў.

367. Салавей шчабятаў,
Зязюля кувала.
— Бадай таго чорт узяў,
З кім я начавала.

368. Гусі жыта паглумілі —
Хто та будзе жаці?
Хлопцы дзеўку сцалавалі —
Хто захоча ўзяці?

369. Пакарае, пакарае,
Не даруе яму бог:
Не адну мяне ён любіць,
А на леце, можа, трох.

370. Я па кладачцы іду,
Кладачка ўгінаецца.
Супроць мілага аконца
Цяжка уздыхаецца.

371. Цяжка уздыхаецца,
Ніхто не здагадаецца.
Здагадаўся мілы мой,
Падышоў ды сеў са мной.

372. Мілы мой, твая нарада,
Ты прыйшоў, а я не рада,
Ты прыйшоў пагаварыць,
Маё сэрцайка баліць.

373. У садочку на дубочку
Зязюля кувала.
Чаму, мілы, твая маці
Мною зганьбавала?

374. Я любіла цябе, мілы,
Паважала тваю маць,
Ды вясёлую сямейку
Цяпер трэба забываць.

375. Дзень я жала, дзень вязала
На гарэ горкі палын.
Я любіла, паважала,
У каго сынок адзін.

376. Сыры дровы не гараць,
Каго люблю — не відаць,
Сыры дровы — горкі дым,
Любілася б — няма з кім.

377. Дзеўкі лазню затапілі,
З столі сыпаўся пясок,
Дзеўкі Ваню палюбілі,
Падарылі паясок.

378. За харошыя прыпеўкі
Палюбілі мяне дзеўкі,
За прыемны галасок
Падарылі паясок.

379. За ракой мілёнак косіць,
Пояс шоўкавы ён носіць.
Без мяне, мілёначак,
Наносішся вяровачак.

380. Я ішла, а мне насустрач
Падружачка в дарагім.
«Добры вечар» я сказала
І дала дарогу ім.

381. Вышывала я платочак
І нашыла жоўты круг.
Не праводзіш мяне, мілы,
Не праводзь маіх падруг.

382. Ой, пайду я ў лавачку,
Куплю мёду баначку.
Няхай мілы мажацца
І к другім не вяжацца.

383. Я на рэчцы плацце мыла,
Ў агародзе вешала,
Я мілёнка правадзіла,
Яго словам цешыла.

384. У Валодзі на гародзе
Расцвітае белы мак.
Усе хлопцы пажаніліся,
А Валодзя ходзіць так.

385. Сідар едзе, а я йду,
Падвязі маю дуду.

386. Сыры дровы — горкі дым,
Пайшла б гуляць — няма з кім.

387. Дзве гармошкі, адзін бубен,—
Хлопцаў мы сваіх не любім.

388. Дождж ідзе — грыбы будуць,
Дзеўкі хлопцаў любіць будуць.

389. Бацька дома рабатае,
Сын у Піцеры жыве,
Бацька грошы дажыдае,
Сын ў апорачках ідзе.

390. З гаспадарам разлічыўся,
Ні граша не атрымаў.
Я з канторушкі пайшоў,
Кулаком слёзы уцёр.

391. Як на Юзаўскім на полі
Папарыты ў горах норы.
Па тры сажні шырынёй,
Паўтараста глыбінёй.

392. Нас па клетачках садзілі
Па дванаццаць чалавек.
Клетка дзёрнула, рванула,
Ажно ў сэрцы каланула.

393. Піша, піша, мой радзіцель,
Піша бацька родны мой,
Піша бацюхна радной:
«Прыязджай, сынок, дамой».

394. — Ох ты, бацюхна радной,
Не з чым ехаць мне дамой.
Прадай, бацюхна, карову,
Прышлі грошы на дарогу;
Прадай, матухна, курэй,
Прышлі грошы паскарэй;
Прадай, бацюхна, казу,
Я гармошку прывязу.

395. На машыне паравой
Прыязджаю я дамой.
Ходзіць бацька па двару,
Закусвае бараду.
— Ах, сыночак, доўгі нос,
Чаму ж грошай не прывёз?

396. Я вадзіцы напілася,
Кружачку павесіла.
Сушаць нас паны праклятыя,
Жывецца нявесела.

397. Ўстала рана і не еўшы
Пайшла на работачку,
А хто ж мяне пашкадуе,
Бедную сіротачку?

398. Пад акном стаіць бяроза,
Ад яе у хаце цень.
Пузачы мяне ругаюць
На прыгоне кожны дзень.

399. Каса мая русая,
Яе лента алая.
Да чаго паны даводзяць,—
Пры народзе плакала.

400. Каля рэчкі я ішла,
Захапіў мяне туман.
Знаць, жыццё маё такое, —
Усю збіў пракляты пан.

401. Дажынала я авёс
У панскім фальварку,
Цівуна як чорт прынёс,
Пачаў біць па карку.

402. І учора на пана,
І сягоння на пана.
А каб на цябе, мой паночак,
Ды кароста напала!

403. Камарочкі вы мае,
Не кусайце вы мяне,
А кусайце вы паноў,
Не пускаюць што дамоў.

404. Сяджу з крошачкаю-сынам,
Плачу, не спяваю,
Выядае вочы дымам
Хатачка курная.

405. Ешце, дзеткі, лебяду
Без хлеба і солі.
Радзіліся на бяду,
Няма вам і долі.

406. Вясна, голад-перапала,
Што скаціне корму мала,
Ані сала, ані круп,
Сабе есці — ані ў зуб.

407. Ходзяць чуткі між людзей,
Што наш пан не вечны.
Каб яго скруціла дзе,
Паставіла б свечку.

408. Рэвалюцыя прыйшла,
Людзям шчасце прынясла.
Цёмна ночка стала днём,
Зажывём, ах, зажывём.

409. Расцвітала у садочку
Маладая вішанька.
Жыць свабодна толькі сталі
Мы пасля Кастрычніка.

410. З неба зорачка упала
У халодную ваду,
А буржуяў мы прагналі
У семнаццатым гаду.

411. На зялёненькім лужочку
Ды трава калышацца.
На адной шастой планеты
Людзям вольна дышыцца.

412. Калчаку падбілі вока
І Пілсудскаму шчаку,
А Дзянікін засмучоны,
За слязою лье слязу.

413. Бранявік, бранявік
Бранірованы,
Адмірал Калчак
Арыштованы.

414. Эх, вуліца, вуліца,
А Дзянікін журыцца,
Што савецкая ЧК
Расстраляла Калчака.

415. Эх, таварыш, паспяшай
К мору Чорнаму,
Не давай ты і дыхнуць
Белапагоннаму.

416. Лес зялёны, лес шумлівы,
Лес з зялёнаю каймой.
Супроць белых афіцэраў
Паваюем мы з табой.

417. У катле ды на агні
Варыцца каша.
Не надзейцеся, буржуі,
Беларусь не ваша.

418. Ох, яблычка,
Куды коцішся?
Ўражжы пан, за грахі
Ты расплоцішся.

419. Ты, Пілсудскі, пан маршал,
Куды коцішся?
У Беларусь пападзеш —
Не вароцішся.

420. Эй, яблычка,
Ты румянае.
Ўцяклі паны
Апантаныя.

421. Нашы пушачкі
Як загрохалі,
У акопах паны
Толькі охалі.

422. Як паны да нас ішлі
З песнямі вясёлымі,
Мы сустрэлі іх з «пашанай» —
Кулямі свінцовымі.

423. А я пану капітану
Ў ногі кланяцца не стану.
Вазьму ў рукі кулямёт,
Праб'ю пана навылёт.

424. Вось падкраўся партызан,
Сеў за кустам ціха:
Сцеражыся цяпер, пан,—
Будзе табе ліха.

425. Бэндзьце здровы, кумпякі,
Довідзэнне, млеко,
Бо пся крэў бальшавікі
Бардзо недалеко.

426. Папужаліся паны —
Заблішчэлі пяткі,
Паскідалі жупаны,
Пагублялі «гаткі».

427. У «ожэлка» вырван хвост,
Крылле ўсё абвісла,
І, спусціўшы ў землю нос,
Ён паплёўся к Вісле.

428. Паны розныя над намі
Захацелі панаваць,
Хутка ж стрэльбы пакідалі
І што сілы ўцякаць.

429. Яшчэ ныюць у паноў
Косці ад пачосткі,
А над намі ззяе зноў
Зорка-пяціхвостка.

430. Эх, яблычка,
Наліваецца,
А Савецкая ўлада
Узмацняецца.

431. Эх, яблычка
З гары коціцца,
А ў польскіх паноў
Безрабоціца.

432. Пойдзем мы з чырвоным сцягам
Па ўсім свеце з краю ў край.
Альбо мёртвымі паляжам,
Альбо зробім ўсюды рай.

433. Беларусь, мая старонка,
Край мой вольны, дарагі,
Ты ідзеш наперад гонка,
Нясеш Леніна сцягі.

434. Помніць Леніна мы будзем,
Будзем помніць і любіць,
Як настаўніка і друга
У сэрцы беражна насіць.

435. Хата чыста і багата,
Сцены ўсе пабелены.
Не забудзем мы ніколі
Друга-бацьку Леніна.

436. Асвятляе сонца поле
Яркімі праменнямі.
Вечным сонцам над зямлёю
Зззяе вобраз Леніна.

437. Сонца яркае ўзыходзіць,
Асвятляючы бары.
Нас на бой за хлеб і волю
Ленін вёў у Акцябры.

438. Як у нашай у дзярэўні
Загарэліся агні,—
У бой нас вёў таварыш Ленін
У кастрычніцкія дні.

439. Цераз горы і даліны
Далі драла белыя.
Ўсіх бандытаў мы разбілі
Па загаду Леніна.

440. Над зямлёй зара гарыць,
Свеціць ўсім народам.
Гэта Ленін, наш Ільіч,
Людзям даў свабоду.

441. Ленін даў для нас наказ,
Для ўсяго народа:
Будавалі каб у нас
Буйныя заводы.

442. Мы будуем Асінбуды,
Фабрыкі, калгасы.
Мы са сцягам Леніна
Пазнішчаем класы.

443. Знікне кветка на гародзе
З шырокага касача.
Мы ж ніколі не забудзем
Уладзіміра Ільіча.

444. Мы цяпер усе жывём
Шчасліва, упэўнена,
Бо жыццё сваё вядзём
Па завету Леніна.

445. Ў нас калгасы, ў нас заводы,
Громка радыё гучыць.
Гэта ты, таварыш Ленін,
Навучыў нас гэтак жыць.

446. Ленін! Леніна ўсе знаем,
Ды і хто яго не знаў, —
Бо Ільіч сваёй рукою
Ўсю зямлю нам перадаў.

447. Мы на мітынгу, на сходзе
Гаварылі аб зямлі:
Камуністы панску землю
Беднякам ўсім аддалі.

448. А за рэчкай на лужочку
Траўка расце зелена.
Да заможнасці прыйшла я
Па дарозе Леніна.

449. Ой, як Ленін паміраў,
Ўся краіна плакала:
Гора цяжкае прыйшло,
Цяжкае для ўсякага.

450. Куплю Леніна партрэт,
Залатую рамачку.
Вывеў ён мяне на свет,
Цёмную сялян响ачку.

451. На сцяне вісіць карціна,
Рамачка пабелена.
Я цяпер чытаю кнігі
Дарагога Леніна.

452. Мы калгас пабудавалі,
Імя Леніна далі.
У калгасе мы шчасліва
І заможна зажылі.

453. У калгасе Леніна
Справы йдуць упэўнена,
Там змагаюцца штодзень
За высокі працадзень.

454. Не дыміцца ўжо лучына
І не копціцца свяча —
Загарэлася у хаце
Ярка лямпа Ільіча.

455. Красавік — вясна іграе,
Ляцяць птушкі з выраю.
Славу Леніну спяваем
Песняю мы шчыраю.

456. Я ўпляла ў касу істужку,
Яна развіваецца,
Што нам Ленін гаварыў,
Тое ўсё збываецца.

457. Красна вішня і маліна,
А сцяг Леніна красней.
Вырасла мая краіна,
Хараша жывецца ў ей.

458. Грай, Лявоне, на гармоні,
Восень песняй сустракай!
Сып вясёла ды пра поле,
Пра сялянскі ураджай.

459. Эх ты, збожжа, маё збожжа,
Што пасееш, то [redacted] пажнеш.
А шматполле нам паможа
Сляды знішчыць старых меж.

460. Эх ты, вёска, схамяніся!
Так жыць мала толку,
Ад трохполкі адкажыся,
Перайдзі ў шматполку.

461. Трактарамі поле пашам,
Па-заможнаму жывём.
Зараз мы частушкі звонка
Пра жыццё сваё спяём.

462. Чаго ж нам не весяліцца,
А чаго ж нам не спяваць?
Дзе раней было балота,
Сёння — поле, сенажаць.

463. Ты іграй, гармонь-рыпуха,
Нашу моладзь весялі.
Дождж ідзе — балота суха,
Магістралі праляглі.

464. На балотах на палескіх
Будзе слаўны ураджай;
Хто не верыць нашай славе,
Падзівіцца прыязджай.

465. Не шумі, зялёны бор,
Густымі вяршынямі,
Сёння поўніцца прастор
Песнямі машыннымі.

466. Бедната, цясней рады,
Прэч, папы і гандляры!
Прэч, кулак, павук няволі,
Панаваць табе даволі!

467. Не кукуй, зязюля шэра,
У зялёным у бары.
Мы жывём цяпер ў калгасе,
Свайго шчасця ўладары.

468. Ой, на небе, небе ясным
Выплыў месячык-юнак.
Сёння на палях калгасных
Гаспадар — былы батрак.

469. На калгаснай дружнай працы
Самі песні творацца.
У нас весела жывецца
І работа спорыцца.

470. Пойдзем, дзеўкі, на работу,
Песні звонкія спяём —
Пра жыццё калгаснае,
Як мы весела жывём.

471. Ой, як выйду за сяло —
Ўсюды радасць чуецца,
Замест межаў і палос
Поля шыр красуецца.

472. Каля лесу песні пела,
З лесу адгалосачкі.
Жыта морам зашумела,
Не то, што палосачкі.

473. Выйду, выйду ў чыста поле
Калгаснае жыта жаць,
Густа сцелюцца снапочкі,
Канца краю не відаць.

474. Эх ты, мілы, любы дружа,
Спяваць песню пачынай.
Мы змагаемся ўсе дружна
За высокі ўраджай.

475. Разгінай, калгаснік, плечы,
Помні, сейбіт, каляндар!
Ідучы вясне насустрэчу,
Падрыхтуй свой інвентар.

476. Даражы ў жніво хвілінай —
Надышоў гарачы час.
Убярэм, напоўнім свірны,—
Умацуем свой калгас.

477. Адтачу нажы ў жняярцы,
Буду жаць на ўвесь захват,
Буду жаць на ўвесь захват,
Хутка, якасна, без страт.

478. У садочку на галінцы
Кветка белая цвіце.
Праца радаснаю стала,
Як ніколі, як нідзе.

479. За высокі ўраджай
Будзем мы змагацца,
Не пажывіцца гультай
З нашай вольнай працы.

480. На ўборцы ураджаю
Мы працуем добра ўсе.
Працадзень нам паўнаважкі
Праца дружная нясе.

481. Эй, іграй, мая гармошка,
Весяліся, карагод.
Жыве весела, заможна
У калгасе наш народ.

482. На гары стаіць бяроза,
Сок салодкі сочыцца.
Жыццё добрае настала,
Паміраць не хочацца.

483. Я завесіла акно
Новаю фіранкаю.
У калгасе зажыла
Культурнаю сялянкаю.

484. У калгас я ўступіла,
Стала многа кніг чытаць,
Кніжкі мяне навучылі
Жыццё наша пазнаваць.

485. Вецер вее, сонца грэе,
Я на полі жыта жну.
Аб жыцці шчаслівым нашым
Сёння песенькі пяю.

486. Мы цяпер не знаем гора
І не будзем яго знаць.
Шчасце наша ідзе ўгору,
Будзем чэсна працаваць.

487. Маем сала, маем масла,
Мяса, бульбу і муку,
А раней парогі білі
Багацею кулаку.

488. Хай буржуй, кулак трасецца,
Свайму богу моліцца.
Нам жа весела жывецца,
І работа спорыцца.

489. На двара стаіць кулак,
Моліцца ён богу:
Яму трактар перасёк
Назаўжды дарогу.

490. Па-над рэчкай я хадзіла,—
Там халодная вада.
Як калгасы мы стварылі,
Кулакам прыйшла бяда.

491. Кулакі падцялі хвост,
А папы завылі,
Як у вёсцы мы калгас
Сёлета стварылі.

492. Я паўз рэчаньку хадзіла,
Пенай умывалася.
Я сама сябе згубіла —
З кулаком звязалася.

493. Ты не стой пад акном,
Не махай рукавом.
Я не выйду, я не стану
Гаварыць з кулаком.

494. Ад царквы няма карысці,
Не гарыць у мяне свяча.
Нам прарок Ілья не трэба,
У нас лямпа Ільіча.

495. Не іконы ў маёй хаце —
Вісіць Леніна партрэт.
Гэта ж Ленін даў нам шчасце,
Гэта ж ён даў людзям свет.

496. Богу я раней малілась,
Бабай цёмнаю была.
А цяпер паразумнела:
Кнігі Леніна ўзяла.

497. А я богу не малюся,
Крыж на шыі не нашу.
Ў школе я цяпер вучуся,
Ў клуб калгасны я хаджу.

498. Не жадаем мы спраўляць
Цяпер дні «святыя»,
Першы Май наш і Кастрычнік —
Святы дарагія.

499. Эх, іграй, мая гармошка,
Весялей наводзь лады.
Не хачу «святой» я пасхі,
Я калгаснік малады.

500. Рэлігійныя абрады
Забываюцца навек.
Без папоўскага дурману
Жыве вольны чалавек.

501. Нашы рэчачкі крутыя,
Вада льецца, пеніцца.
Нашы хлопцы маладыя
Па-савецкі жэняцца.

502. Я надзену бела плацце,
На ім розавы букет,
Не пайду к папу вянчацца,
Бо вянчае сельсавет.

503. Абыйдуся без крапідла,
Я не знаюся з папом.
Мяне маці не хрысціла,
Не была я пад вянцом.

504. У царкву я не хадзіла,
Богу не малілася.
Камсамольца палюбіла,—
З ім і пажанілася.

505. Я не верую у бога,
Не малюся я Хрысту,
Бо радзілася шчаслівай,
Камсамолачкай расту.

506. За ядловец я ўзялася,
Дык ядловец колецца.
Пакахала б я Міколу,
Дык ён богу моліцца.

507. Нас не любяць, нас баяцца
Поп кудлаты і кулак.
Парашыў за працу ўвяцца
Камсамольскі маладняк.

508. Пракацілася па небу
Ясненькая зорачка.
— Бог зусім нам не патрэбен,—
Кажа камсамолачка.

509. Стаўце вушкі на макушкі,
Зрэжам пасху на карню.
Вось праўдзівыя частушкі
Пра папоўскую хлусню.

510. Выйду я на сенажаць,
Буду песенькі спяваць.
Пра хлусню папоўскую,
Праману дзякоўскую.

511. Поп на пасху кажа людзям:
«Кайцесь, кайцесь ад граха».
З аднаго бярэ авечку,
А з другога — петуха.

512. Поп вадою гандляваў
І «святою» называў.
А вада была з крыніцы,
Што цякла каля капліцы.

513. Раней мы ў царкву хадзілі
Слухаць пропаведзь папа,
А папы нам гаварылі:
«Баба — мужава раба».

514. Пападдзя зусім схудзела,
Галаву павесіла,
Што без бога і святых
Жыццё наша весела.

515. Пападдзя старая зліцца,—
Не яе ўжо зямліца.
Не аддасць яе вавек
Наш калгасны чалавек.

516. Я вазьму платок у рукі,
Разганю ў полі туман.
Мы дазналіся з навукі,
Што рэлігія — дурман.

517. Засвяціла сонца ясна,
Вочы нам не есць туман.
У царкву мы больш не ходзім,
Бо рэлігія — дурман.

518. Гаварыў нам поп ўсім строга,
Што да бога ёсць дарога.
А у нас тут і без бога
Наўсцяж светлая дарога.

519. Не званіце вы, званы,—
Я ўжо хлопец не дурны:
Ў рай нябесны не пайду я —
Тут мы лепшы пабудуем.

520. Не кукуй, зязюля шэра,
Не на тую ветку села.
Не звані, поп, у званы,
Нам не трэба больш яны.

521. Папам жыцце стала туга —
У царкву не згоніш пугай.
Людзі ўсе паразумнелі,
«Сілу» бога зразумелі.

522. Селі гусі каля броду,
Селі, палі на ваду.
Ой, няма папу даходу,
Людзі ў цэркву не ідуць.

523. Дваццаць год я крыж насіла,
Багамольнаю была,
А цяпер крыжа не трэба,—
Да заможнасці прыйшла.

524. Наша бабка асмялела,
У царкве сказаць здалела:
— Трачу час я задармо,
Лепш пайду глядзець кіно.

525. На васьмом дзесятку бабка
Адраклася ад ікон,
Завяла сабе прыёмнік
І купіла патэфон.

526. Дзед старэнькі ля парога
Заявіў: «Не веру ў бога.
Не Хрыстос даў хлеб для нас,
А машына і калгас».

527. Доўга дзед пра бога думаў,
А пасля усім сказаў:
— Багоў трэба ўжо з хаты,
Досыць ім паклоны клаў.

528. Поп і дзень і ноч маліўся,
Каб калгас наш разваліўся,
А калгас наш ўсё красуе,
Поп ад злосці аж лютуе.

529. Пад акном стаіць бяроза,
На галіне — салавей.
Без папоўскае малітвы
Жыць нам стала весялей.

530. Не гудзе ўжо царква
Звонамі няспынными,
Сёння поўніцца прастор
Песнямі машыннымі.

531. Спадзяецца хто на неба,
Той застанецца без хлеба.
Мы навуку паважаем,
Значыць, будзем з ураджаем.

532. Як у нашым у калгасе
Хлеб на ніве, нібы гай,
Бо калгаснікі без бога
Ўзмацняюць ураджай.

533. Поп і рабін нам не трэба,
Мы не веруем багам.
Мы асвоілі ўсё неба,
І яно належыць нам.

534. Над палямі раней поп
Раздуваў кадзіла,
А ў нас тут і без бога
Ураджай на дзіва.

535. Ад папоўскага дурману
Адвучыла школа нас.
Мы не верым больш у бога,
Шчасце нам прынёс калгас.

536. Колькі богу ні малілась,
Усё бедная была,
У калгас як уступіла,
Дык заможна зажыла.

537. На гары стаіць бяроза,
Пад гарой высокі дуб.
Раней мы ў царкву хадзілі,
А цяпер мы ходзім ў клуб.

538. Я з рэлігіяй парвала —
У царкву больш не хаджу.
Лепш у клубе з сваім мілым
Я за кніжкай пасяджу.

539. Мне не трэба мармеладу
І цукерак не хачу,
А за радыё-абраду
Колькі хочаш заплачу.

540. Камсамольцы нам казалі,
Каб мы ў згодзе ўсе жылі,
Каб за кніжкай падрасталі
І карыснымі былі.

541. Запісаўся ў камсамольцы —
Самагоначцы канец.
Матка з радасцю гаворыць:
Мой сыночак — маладзец.

542. Табе, мусі быць, Лявонка,
Мілей жонкі — самагонка?
З ёй гуляеш ты ўсю ноч,—
Як не кінеш — пайду проч.

543. Ой, мілей ты, жоначка,
Мне, як самагоначка.
Як не кіну — гані вон
І мяне і самагон.

544. Іграй, Ваня, на баяне,
А я буду танцаваць.
Камсамольцы узяліся
Нормы старыя ламаць.

545. Заіграю, зацягну
Дваццацірадовую.
Камсамольцы вядуць вёску
На дарогу новую.

546. Сцёпка некалі ў пана
Працаваў, як сівы вол,
А сягоння сын Дзям'яна
Запісаўся ў камсамол.

547. Эх, гармонь мая, трохрадка,
Галасы твае, як звон,
Не саромейся, Агатка,
Запішыся ў камсамол.

548. Я ішла праз бор цяністы,
Брала ягады ў прыпол.
Падружыла з камуністам,
Запішуся ў камсамол.

549. Ты каліна, ты маліна,
Кожны ў ягадах сучок.
Распрыгожая дзяўчына
Носіць ленінскі значок.

550. А ў лузе каля рэчкі
Зелянее ёлачка,
Рада маці, рады бацька,
Што я камсамолачка.

551. Вышывала я платочак
Тоненькай іголачкай.
Я на вёсцы сваёй першай
Стала камсамолачкай.

552. На ўзгорку каля рэчкі
Выраслі дзве хвоечкі.
Нашы дзевачкі усе
Цяпер камсамолачкі.

553. На гары стаіць сасонка,
Пад гарою ёлачка,
А мой мілы камсамолец,
А я камсамолачка.

554. На стале ляжыць клубок,
А ў клубку іголачка.
За то мяне хлопцы любяць,
Што я камсамолачка.

555. Мяне Колька-камсамолец
Праводзіў дарожкаю,
Праводзіў дарожкаю
З новаю гармошкаю.

556. Усё хадзіла я, збірала
Кветкі верасовыя.
Камсамольца палюбіла
За вочкі вясёлыя.

557. Камсамолачка ды я,
Камсамольскі знак нашу,
Камсамольца палюбіла,
Камсамольцам даражу.

558. Камсамол — сям'я радная,
Як цябе не паважаць?
Непісьменнаю была я,—
Стала Пушкіна чытаць.

559. Хораша табе, каліна,
На табе пахучы ліст.
Мой міленак-удалёнак,
Камсамолец трактарыст.

560. Многа зорачак на небе,
Многа зерняткаў ў снапе,
Вы прыміце трактарыстку
Кандыдаткай ў ВКП.

561. Камсамолкай я была,
Добра працавала;
Надышла часіна тая —
Камуністкай стала.

562. Пачаў песню запявала
Аб стаханаўскай вясне.
Такой радасці, бывала,
Мы не бачылі і ў сне.

563. Кудры ўюцца, кудры ўюцца,
Кудры кольцамі.
Па-стаханаўску працуем
З камсамольцамі.

564. Паравоз пары пускае,
Па дарожаньцы бяжыць.
Будзем разам мы, дзяўчаты,
Па-стаханаўску рабіць.

565. Хораша у нас жывецца,
Праца спорыцца у нас.
Па-стаханаўску работаць
Пачынае наш калгас.

566. Вышывала я платочак
Шоўкавымі ніткамі.
Мы стаханаўкі ў калгасе,
А былі найміткамі.

567. Пра Стаханава чытала,
Вось, сапраўды, дзе герой!
Я рашыла, камсамолка,
Стаць стаханаўкай такой.

568. Весялей іграй, гармонік,
Хай нясецца слава.
Я ў калгасе бальшавіцкім
Стаханаўкай стала.

569. Я стаханаўкаю стала,
Буду ўдарна працаваць,
Каб у што бы там ні стала
Гэта званне апраўдаць.

570. Як не пець мне, як не граць,
Камсамолкай мяне зваць,
Ды стаханаўкай к таму,
Гэта ж гонар хоць каму!

571. Не кукуй, зязюля, ў лесе,
Прылятай да нас ты ў сад.
Я стаханаўкаю стала,
За мяне калгас наш рад.

572. Я стаханаўка цяпер,
Ордэн атрымала.
Павер, міленькі, павер,
Я шчаслівай стала.

573. Жне мой мілы на жняярцы,
Я за ім снапы вяжу.
Па-стаханаўску працую,
Кожным зернем даражу.

574. Рэчка коціцца за гаем,
Я на беразе стаю.
Я не лодыра ў калгасе,
А стаханаўца люблю.

575. У зялёненькім у садзе
Распусцілась вішанька.
Лепшы ўдарнік у калгасе
Мой мілёнак Мішанька.

576. На гарэ стаіць бяроза,
Пад бярозай сухі ліст.
Я ўдарніца ў калгасе,
А мой мілы камуніст.

577. Вецер песні мне спявае,
Сонца грэе з раніцы,
Я старанная ў калгасе,
Лепшая ударніца.

578. Мне за добрую работу
Вызначылі прэмію:
Патэфон я атрымала
І машыну швейную.

579. Я ў калгасе на камбайне
Буйна жыта жала.
За ўдарную работу
Ордэн атрымала.

580. Мілы мой ў калгасе першы,
Ды і я не адстаю,
Са сваім звяном ударным
Па тры нормы ў дзень даю.

581. Я ў калгасе звеннявая,
Люблю добра працаваць,
Ураджай на сваім полі
З лета ў лета памнажаць.

582. Каля лесу пад гарой
Разлілася рэчанька.
Будзем мы работаць так,
Як Марыя Дземчанка.

583. Ой, сяброўка дарагая,
Галасістая ты ў нас,
Ад цябе ўсе чакаюць
Звонкай песні пра калгас.

584. Заіграй, гарманіст,
Расцягні тальяначку.
Старшынёю ў калгасе
Выбралі сялянаачку.

585. Выйду, выйду я за рэчку
На зялёненькі лужок,
Пагляджу, як на камбайне
Жне мой міленькі дружок.

586. У майго міленькага
Тры кваліфікацыі:
Ён — танкіст, трактарыст
І ўдабавак гарманіст.

587. Ой, сяброўка, не хваліся,
Што твой мілы трактарыст,
Я сама чацвёрты год
Брыгадзір-жывёлавод.

588. Па-стаханаўску працуем,
Бо інакш не можа быць.
Працаваць дано нам права,
Дано права адпачыць.

589. На рабоце, на вучобе
Мы стаханаўцаў сям'я,
На асвету права маем —
Канстытуцыя дала.

590. Канстытуцыя, як сонца,
Асвятляе шлях жыцця,
Колькі радасці бясконцай
У простых ленінскіх славах.

591. Сабірайцеся, падружкі,
Песню звонкую спяём.
З новым ленінскім законам
К камунізму мы ідзём.

592. Мы раней зямлі не мелі,
У паноў была зямля,
А цяпер зямлю навечна
Канстытуцыя дала.

593. Да Кастрычніка жанчыны
Век бяспраўныя жылі,
Канстытуцыя жанчынам
Дала роўныя правы.

594. Усё б я пела, усё б я пела,
Усё б я весялілася.
Я правы цяпер займела,
Шчасця я дабілася.

595. Колькі радасці і шчасця,
Нельга словам перадаць:
Зараз год мне васемнаццаць —
Маю права выбіраць.

596. Весялосць у нашых хатах,
Льецца з вокан яркі свет,
Дарагое сёння свята —
Гэта выбары ў Савет!

597. Грай, гармонік, галасіста,
Рэж, баян, ва ўсе басы.
За народных кандыдатаў
Аддадзім мы галасы.

598. Мы за ленінскую справу
Да канца будзем стаяць,
І за лепшых кандыдатаў
Пойдзем мы галасаваць.

599. Па-стаханаўску працуе
На заводзе наш Ігнат,
За яго мы галасуем —
Будзе слаўны дэпутат.

600. Не кукуй, зязюля, ў полі,
А ляці ў зялёны сад.
Наш калгаснік, камсамолец,
У Савеце дэпутат.

601. Не забуду гэта свята,
Не забуду гэты дзень:
За героя-дэпутата
Апусціла бюлецень.

602. Ты плыві, высока ўзнята,
Песня радасці, красы,
Аддадзім за дэпутатаў,
Як адзін, мы галасы.

603. Мяне мама запытала:
— Ты чаму так рана ўстала
І надзела пышны ўбор,
Мо' чакаць сватоў у двор?

604. Я адказ такі трымала:
— Сёння свята маё, мама,
Васемнаццаць маю лет —
Выбіраць іду ў Савет.

605. Раней я была батрачкай,
Быў нямілы белы свет,
А сягоння дэпутаткай
Выбіраюць у Савет.

606. Мы на выбары прыдзём,
Выканаўшы планы,
Новым подзвігам сустрэнем
Гэты дзень жаданы.

8. Зак. 1070

607. Мы на выбары пайдзём,
Бо шчасліва мы жывём,
Бо багацце наша ў нас,
Бо яго нам даў калгас.

608. Сабірайцесь, хлопцы, дзеўкі,
Свецяць зоры ясныя.
Заспяваем мы прыпеўкі
Новыя, калгасныя.

609. Трактарамі поле пашам,
Па-заможнаму жывём,
Зараз мы частушкі звонка
Пра жыццё сваё пяём.

610. Дзе былі раней балоты
І шумеў хваёвы лес,
Там цяпер гудзе работа —
Збудавалі там БелДРЭС.

611. Дзе калісьці звер скуголіў,
Твань ляжала з году ў год,
Пабудован там сягоння
Лесапільны наш завод.

612. Эх, сяброўка дарагая,
Мы частушкі прапяём,
Як жылі мы, гаравалі,
Як па-новаму жывём.

613. Колькі мы жылі на свеце,
Ўсё дабра не бачылі.
На памешчыкаў пузатых
Дзень і ноч батрачылі.

614. Раней жылі, гаравалі,
Горка плакалі заўжды.
Камуністы паказалі
К лепшай долі шлях прамы.

615. А калісьці я жыла,
Слёзы пралівала,
Непісьменная была,
Долю праклінала.

616. Гнула спіну на паноў
І кроў пралівала,
Многа панскіх бізуноў
За век паспытала.

617. Муж таксама біў мяне,
Мамачка няродная.
Пры Саветах стала я,
Як і ўсе, свабодная.

618. Я раней жыцця не знала,
Ўсё на пана працавала,
А цяпер жыву шчасліва
І працую ўсім на дзіва.

619. Разлівайся, разлівайся,
Рэчанька шумлівая,
Стала нашая жанчына
Вольная, шчаслівая!

620. Я радзілася у горы,
А бяда не цешыла.
Сёння я ўжо ў калгасе,
Жыць мне стала весела.

621. Пяцьдзесят гадоў Марына
Непісьменная была,
А цяпер, сказаўшы «хопіць»,
На лікпункт яна пайшла.

622. Адышлі ўжо тыя годы,
Калі люд наш гараваў,
На ўсю вёску адны боты,
Хто жаніўся — надзяваў.

623. Больш не вернецца ніколі
Жыццё цяжкае да нас,—
Мы заможныя ў калгасе,
Бальшавіцкім стаў калгас.

624. У нас цяпер другія песні,
Радасць буйная ў палях.
Атрымалі многа хлеба
Па калгасных працаднях.

625. Дык чаму ж нам не спяваць,
Чаму не гуляці,
Раз прыйшлі да нас у хату
Шчасце і багацце?

626. Шырэй, вуліца, раздайся,
Трактарам дарогу дай.
Мы змагацца будзем дружна
За высокі ўраджай.

627. Мы ў калгас даўно ўступілі
І па-новаму жывём,
Не сярпом ўжо, як бывала,
А жняяркай жыта жнём.

628. На малінніку вісела
Ягадзінка ясная.
Не хачу жыцця другога,
Як жыцця калгаснага.

629. Выхадзіце, хлопцы, дзеўкі
У гай зялёны пагуляць,
Там калгасныя прыпеўкі
Будзем разам мы спяваць.

630. Мы, калгасніцы, падружкі,
Будзем разам пець частушкі,
Мы вясёла запяём,
Што шчасліва ўсе жывём.

631. Мы з табою дзве сяброўкі,
Цераз вуліцу жывём,
Пад баян пад галасісты
Мы частушкі прапяём.

632. Я на Коліну гармошку
Лентачку павесіла.
У калгасе працаваць
Хораша і весела.

633. Выйду, выйду я за рэчку,
На зялёненькі лужок,
Пагляджу, як на камбайне
Жне мой міленькі дружок.

634. Весялей іграй, гармонь,
Іграй чарнамехая,
А я з мілым на камбайне
Па сялу праехала.

635. Я вясёлая сягоння,
Ганарыстая,—
Пакахала у калгасе
Трактарыста я.

636. Мой каханы ганарысты,
І я яму парачка —
Ён ў калгасе трактарыстам,
Ну, а я — свінарачка.

637. На стале стаяць цвяточкі,
Беленькі і сіненькі.
Я ў калгасе камбайнерка,
Трактарыстам — міленькі.

638. Мы абое актывісты —
Ніхто не паскардзіцца,
Ты найлепшы трактарыст,
А я ільноударніца.

639. Я па травачцы хадзіла,
Травачка хілілася.
Сваім мілым камбайнёрам
Ўсім я пахвалілася.

640. Выйду, выйду я на ганак
І вазьму гітарачку.
Ну, няўжо ды я не сяду
З брыгадзірам ў парачку?

641. Эх, пайду я танцаваць,
Запяю прыпевачкі.
Заўтра еду я вучыцца,
Да сустрэчы, дзевачкі.

642. Ляціць птушачка над борам,
Не разлюбіш мяне скора —
Я чытаю і пішу
І на трактары пашу.

643. На гармоні мілы грае,
А я песенькі пяю.
Мы жывём цяпер заможна
Ў нашым радасным краю.

644. Пейце, дзевачкі, прыпевачкі,
А я буду завадзіць.
Цераз поле яравое
К вам гуляць буду хадзіць.

645. Я сядзела на камодзе,
Шыла кофтачку па модзе,
Прышывала ленты-банты,
Каб любілі музыканты.

646. Я надзену плацце бела,
Белае з маністамі.
Я ні з кім гуляць не буду,
Толькі з гарманістамі.

647. Мілы мой гармонь расцягне —
Дык згараю я агнём,
Бо каварныя падругі
За ім ходзяць табуном.

648. Гарманіст, гарманіст,
Розавыя шчочкі,
Праз цябе, гарманіст,
Недаспала ночкі.

649. Гарманіста я любіла,
Гарманіста цешыла,
Гарманісту на плячо
Сама гармошку вешала.

650. Балалайка, балалайка,
Балалайка белая.
Я за гэтай балалайкай
На вячоркі бегала.

651. Прыхадзі, мілы, ка мне,
Я дарогу пакажу:
На кудравай на бярозе
Я па ленце прывяжу.

652. Коля, Коля, твае коні
Пад гарою ваду п'юць.
Коля, Коля, твае вочкі
Мне спакою не даюць.

653. А у небе зорак многа,
Адна зорачка гарыць,
У калгасе хлопцаў многа,
Па адным душа баліць.

654. Не кукуй, зязюля шэра,
Не на ту бярозу села,
Перасядзь на ёлачку,
А я пайду к мілёначку.

655. Я надзену кофту белу,
Вакол школу абыду,—
Усе падружкі загавораць,
Што настаўніка люблю.

656. Я іду, а мне насустрач
Рад зялёных ёлачак.
Табе хлусяць, а ты верыш,
Дарагі мілёначак!

657. Дайце з горачкі спусціцца,
З ручайка вады папіць.
Дайце з мілым развітацца,
Вечарок пагаварыць.

658. Гаварыла свайму другу:
— Не любі маю падругу.
Гаварыла я не раз:
— Не любі абеіх нас.

659. Мілы мой, мілы мой,
Спатканні рэдкія з табой.
Рэдкія з-за дзеўчыны,
Скажы мне, з-за якой.

660. Мілы мой, я за табой,—
Ты мяне цураешся.
Па якіх жа ты прычынах
За другой ганяешся?

661. Мяне мамачка радзіла,
Туга ногі спавіла.
Спавіваючы, казала,
Каб танцорачка была.

662. У мяне мілёнак быў,
Звалі яго Колечкам,
Горача мяне любіў,
Я яго — нісколечкі.

663. Каля лесу песні пела,—
У лесе адгалосачкі,
Па мне мілы сохне, вяне,
Я па ім нітрошачкі.

664. Раскачу катушку нітак
Па зялёненькай траве,
Хлопцам голавы марочу,
Няхай сохнуць і па мне.

665. Мяне міленькі пакінуў,—
Гэта нуль без палачкі.
Не хадзіла, не пайду
Я дамоў без парачкі.

666. Чым ты, мілы, задаешся?
Чым жа ты праславіўся?
У брыгадзіры не гадзішся,
Конюхам не справішся.

667. Ухажор мяне кідае,
А я не пужаюся.
За такога гультая
Замуж не збіраюся.

668. Лодыр боцікі ваксуе —
У сваты ён збіраецца.
Няхай едзе чым далей,—
Мне не падабаецца.

669. Сватай, мамачка, не сватай,
За яго я не пайду,
Я не ружа, не вяргіня,
За вадой не паплыву.

670. Жыта жала, дзень вязала,
Дзень снапочкі ставіла.
Гультая я пакахала,
Сябе абняславіла.

671. Мяне мама дубцом біла,
Каб лодара не любіла,
Я той дубчык паламала —
Ударніка падабала.

672. Пад вясёлую гармонь
Танцуй, хлопцы, ходарам,
Патурылі мы з завода
Шкоднікаў і лодыраў.

673. Наша рэчанька глыбока,
Ловім шчукі і язі.
Нашы дзевачкі прыгожы,
Хоць на выстаўку вязі.

674. Пейце, дзевачкі, прыпеўкі,
Пейце, весяліцеся.
На капейку сорак хлопцаў,—
Дзеўкі, не журыцеся.

675. Сяду, кнігу пачытаю
Пад зялёнай сліваю.
Мы расцём ў сваёй краіне
Зменаю шчасліваю.

676. Ты іграй, іграй, музыка,
Сёння новая пазыка.
На яе я падпішусь —
Мацаваць свой край бярусь.

677. Каб мацнела абарона,
Рос і крэп Чырвоны Флот,
Мы здадзім на склад дзяржаве
Самы лепшы абмалот.

678. Днём ідзём на падрыхтоўку,
Вечарам — палітгурток,
Трэба з кніжкай і вінтоўкай
Нам знаёміцца, дружок!

679. Лейся, лейся, ручаёчак,
Не дрыжы, зялёны ліст.
У мяне брацейнік лётчык,
А я — будучы танкіст.

680. Сыпле, сыпле сняжок белы,
Ладзіць вецер карагод.
Я ў кабіну сяду смела,
Хоць і цяжкі пералёт.

681. Бацька з маткай вельмі рады
Ды і сам здаволены:
Прызываюся ў рады
Арміі Чырвонай.

682. Рада маці, рад і бацька:
На граніцу сын ідзе.
— Дык глядзі ж, сыночак мілы,
Стой там моцна, як нідзе.

683. Эх, іграй, іграй, гармошка,
Весялей наводзь лады.
Едуць ў Армію Чырвону
Нашы хлопцы-малайцы.

684. Сіні лён, сіні лён,
Сіняя палосачка.
Мілы ў армію пайшоў,
Зарасла дарожачка.

685. Вось у армію пайшоў
Мая ягадзіначка:
Каля дома зарасла
Зялёная сцяжыначка.

686. Ой, падружанька,
Я — сіротачка,
У Чырвонай Арміі
Мая залётачка.

687. Гаварылі мне дзяўчаты,
Гаварылі хлопцы ўсе,
Каб у арміі быў знатны,
Як Стаханаў Аляксей.

688. Людзі кажуць: восень, восень,
А трава зялёная.
Ой, магутная ў нас
Армія Чырвоная.

689. Сонца грэе, вецер вее,
Песня разліваецца,
Мой міленькі, даражэнькі
Ў армію збіраецца.

690. Я для мілага свайго
Платок белы вышыю.
Сустракаць пайду яго
З прызыўной камісіі.

691. На гарэ стаяць качэлі,
Пайду пакачаюся.
Едзе Янка ў Красны Флот,
Пайду развітаюся.

692. Самалёт ляціць,
Уверсе кружыцца,
Буду мілага чакаць,
Пакуль адслужыцца.

693. Бяроза белая
Лісты павесіла,
Мой мілы ў арміі,—
Гуляць не весела.

694. Ну, бывай жа, дарагая,
Ў Красну Армію іду,
Будзь стаханаўкай, жадаю,
А танкістам я прыду.

695. Я мілёнка праважала,
Я мілёнку загадала:
— Будзь ўсягды перадавы,
Верны, зоркі вартавы.

696. Праважала я мілога,
Гаварыла: «Не тужы,
У дазоры на граніцы
Пільна край ты беражы».

697. Мілы ў армію збіраўся,
Не забыла наказаць:
Пільна несці сваю службу
І мяне не забываць.

698. Нашы рэчкі паўнаводны,
Хвалі б'юцца ў берагі.
Мой мілёнак у дазоры
На савецкім рубяжы.

699. У полі жыта каласіцца,
Не відаць нідзе мяжы,
А мой мілы на граніцы,
Сцеражэ ён рубяжы.

700. Пагранічніка кахаю,
Яму вышыла кісет:
— Прымі, мілы, падарунак
І гарачы мой прывет.

701. У майго мілёначка
Спраўная вінтовачка.
Навучыўся ён страляць,
Каб фашыстаў ёй знішчаць.

702. Свецяць зоркі прамяніста
Над ракою быстраю.
Будзе мілы мой танкістам,
А я — трактарысткаю.

703. А мой мілы — камандзір,
На пятліцах кубікі,
Сцеражэ мілы граніцы
Роднае рэспублікі.

704. Скора з гонарам я буду
Камбайнёркай працаваць,
А мой мілы скора будзе
Гордым сокалам лятаць.

705. Льецца песня зычна, звонка,
Льецца, разліваецца.
Мілы мой на самалёце
Ў хмары падымаецца.

706. Сама садзік я садзіла,
Сама буду паліваць.
Сама лётчыка любіла,
Сама буду з ім лятаць.

707. Я ішла, ішла па полі,
Знайшла цвецік палявы.
А мой мілы — камсамолец,
Пагранічнік удалы.

708. Лягу спаць, а мне не спіцца
На падушцы пухавой.
Я хачу даўно дабіцца
Лётаць ў небе, мілы мой.

709. Я ў калгасе працавала,
Поле трактарам арала.
Сяду я на самалёт,
Зраблю смелы пералёт.

710. Дзесяць год я працавала
Ў міраеда-кулака,
А цяпер пілотам стала
І лятаю ў аблаках.

711. Мне прарочыла бабулька
За кудзеляй век сядзець;
Не вгадала — з парашутам
Я магу к зямлі ляцець.

712. Я вінтоўку добра знаю,
Вывучу вайсковы строй,
За шчаслівую Радзіму
Першай выступлю на бой.

713. Мілы Коля, ў чыстым полі
Расстаёмся мы з табой,
Замяню я трактар танкам,
Калі нас паклічуць у бой.

714. Калі зноў вайна пачнецца,
Пойдзем мы з табой у бой,
Ты — чырвоным камандзірам,
Я — чырвонаю сястрой.

715. Мы вайны ліхой не хочам,
А на варце мы стаім.
Хай падлезе люты вораг,
Мы адпор ураз дадзім.

716. Вораг дзесьці робіць планы,
Хоча з намі ваяваць.
Ну, дык знай, буржуй паганы,—
Супраць нас не ўстаяць.

717. У нас гранітныя граніцы
І сталёвыя штыкі.
Будзем, будзем смела біцца,
Мы — выдатныя стралкі.

718. Будзем пільна, як чэкісты,
Край савецкі вартаваць,
Ні шпіёны, ні фашысты
Нас не здолеюць зламаць.

719. Няхай снег мяце, бушуе —
Праз завею мы глядзім.
Мы сваёй зямлі савецкай
Нікаму не аддадзім.

720. Бальшавіцкім пільным вокам
За граніцай мы глядзім.
Нам чужой зямлі не трэба
І сваёй не аддадзім.

721. Узвівайся, сцяг чырвоны,
Смела мы ідзём за ім.
За свабоду, за Саветы
Жыццё й сілы аддадзім.

722. Многа зорачак на небе,
Адна зорачка ясней.
Многа ёсць дзяржаў на свеце,
СССР за ўсіх мацней.

723. Ты зайграй, гармонік, звонка,
Заспяваю звычна я
Пра савецкую старонку,
Справы гераічныя.

724. У сорак першым на граніцы
Немцы бомбы скінулі,
Вілі, альберты і фрыцы
На наш край нахлынулі.

725. Ой, фашысцкая Германія
Зацеяла вайну,
Ды вавек не пакарыць ёй
Нашу слаўную страну.

726. Мы з любой бядою зладзім,
Ворагаў развеем ў дым.
Мы сваёй зямлі ні пядзі
Ворагу не аддадзім.

727. Не на тое мы раслі,
У шчасці гадаваліся,
Каб фашысцкія сабакі
З намі распраўляліся.

728. Не на тое нас краіна
Гадавала з году ў год,
Каб сядзеў на нашых спінах
Чужаземец-жываглот.

729. Прэцца гадзіна з Берліна,
Лезе з намі ваяваць.
Мы скаціне, той дубіне,
Будзем ногі адсякаць.

730. Ты суніца, ты суніца,
Ягадка салодкая.
Немцу хлеб ў Расіі смачны,
Ды рука кароткая.

731. Хай загіне наша гора,
Здзек, пагарды і прымус.
Хай жыве для славы вечнай
Край наш родны Беларусь.

732. Адна ў цябе сяброўка
І друг ў цябе адзін —
Халодная вінтоўка,
Надзейны карабін.

733. Вазьмі яго і помсці
За здзекі, за прымус,
За родную краіну,
За нашу Беларусь.

734. Немца бі на ўсе лады —
З неба, сушы і вады,
Так, каб ён не мог падацца
І ні туды і ні сюды.

9. Зак. 1070

735. Сквапны Гітлера сабакі
На калгасныя прысмакі;
Мы ж дадзім такога сала,
Каб калом у горле стала.

736. Неба хмарамі дыміцца,
Вецер соснамі гудзе.
Смелы кулі не баіцца
І ў баі не прападзе.

737. Ранкам ясным перад спёкай
Сонца мыецца ў расе.
Немцу я за вока — вока,
А за зуб — вымаю ўсе.

738. На калгасны каравай,
Немец, рот не разяўляй.
Тым, што пруць за караваем,
З плеч мы галавы здымаем.

739. Апетыт губляе немец,
Жраць яму не хочацца,
Калі Дуня пачастуе,
Дуня-кулямётчыца.

740. Каля рэчкі нашы грады,
А на градах мак і кроп.
Немцу-зверу, немцу-гаду
Пусцім кулю проста ў лоб.

741. Сад увесь адзеўся лістам,
А травою — сенажаць.
Будзем мы паноў-фашыстаў
У магілы заганяць.

742. А ў лесе пры яліне
Сыраежкі, рыжыкі.
Ад савецкае бамбёжкі
У фашыстаў дрыжыкі.

743. Сядзіць немец на парозе,
Сэрца б'ецца ў трывозе.
Жонцы піша ён дамой:
«Памінай за упакой!»

744. Легла кладка праз балота,
А праз рэчку — новы мост.
Мы фашыстаў з кулямёта
Б'ём у грыву, б'ём у хвост.

745. Звоніць жаўранак у небе,
А зязюля — на суку.
Біць фашыстаў моцна трэба
Па зубах і па баку.

746. Самавар мой, самавар
Тульскае работы.
Немцаў лупіць камісар
З тульскіх мінамётаў.

747. Марыў, марыў рыжы фрыц
Крыж на фронце зарабіць.
Зарабіў, але ніяк
Не падымецца прусак
З-пад крыжа сасновага,
Кургана дзярновага.

748. Захацеў фашыст зямлі —
Мы зямлі яму далі:
Для фашысцкае скаціны
Не шкада нам тры аршыны.

749. Эй, вы, фрыцы-ягамосці,
Завітайце да нас ў госці.
Мы гасцей як след прымаем:
Ўсім, чым можам, сустракаем:
Хто гранатай, а хто куляй,
А хто толаваю дуляй.

750. Каля Волгі, рэчкі рускай,
Там, дзе горад Сталінград,
Нашы фрыцаў касанулі —
Яны коцяцца назад.

751. Мы з фашысцкім б'ёмся гадам,
Каб не бачыў ён Масквы:
Ты штыком, а я прыкладам —
І фашыст без галавы.

752. Гаварылі мы не раз
Мудрыя славечкі:
Хутка будзе немцаў гнаць
Наш Саюз Савецкі.

753. Грэе сонца, вецер вее,
У фашыста сэрца млее:
Днём і ночы таюць сілы,
Як грыбы, растуць магілы.

754. Немцы есці захацелі
Нашых масленых бліноў.
Наступалі ў поўнай форме,
Адступалі без штаноў.

755. Ты эс-эс, фашыст праклятьі,
Вырадак шалёны,
Уцякай хутчэй да хаты,
Пакуль ёсць вагоны.

756. Куля красная не дура,
Штык савецкі — маладзец,
Лопне фрыцаўская шкура,
Будзе Гітлеру канец.

757. Дарагі ты мой таварыш,
Скора Гітлеру капут,
Скора рускія машыны
Па Берліну пабягуць.

758. Я зірнула на гадзіннік:
Палавіна пятага.
Хутка, хутка разаб'ём
Гітлера праклятага.

759. Грай, гармонік, весялей,
А мы лепей падпяём,
Як прагонім ўсіх фашыстаў,
Весялей мы зажывём.

760. Хутка немцаў згаснуць сілы,
Ім ужо нядоўга быць.
Расцвіце наш Гомель мілы,
Мы шчасліва будзем жыць.

761. Там, дзе мамачка жыве,
Там дарога вузкая.
Колькі немцы ні ваюць,
Перамога — руская.

762. А падруга мая Надзя
Юбку носіць з блузкаю.
Як фашысты ні ваююць,
Перамога — руская.

763. Партызанская сцяжынка
Не бывае вузкая.
Колькі немец ні ваюе,
Перамога — руская.

764. На стале стаіць талерка,
На талерцы каша.
Вы не думайце, фашысты,
Што Расія ваша.

765. Знішчым ўсіх фашысцкіх гадаў
І спакойна будзем жыць.
Ворагаў Савецкай ўлады
Білі, б'ём і будзем біць.

766. Пайшоў немец ў агарод —
Захацеў цыбулі,
На яго з усіх канцоў
Паляцелі кулі.

767. Просіць фрыц, зайшоўшы ў хату:
— Матка, яйкі, матка, шпэк...
Я ж яму ражном у горла,
Падавіўся каб навек.

768. Афіцэр прыйшоў у хату,
Лезе ў печ ён з галавой,
А калгасніца Агата —
Па загрыўку качаргой.

769. Ходзіць немец па дзярэўні
Кажа: «Яйка, малака»!
Я ж яму заместа яйка —
Ў пуза вострага штыка.

770. Ішлі немцы грабіць вёску,
Ішлі з аўтаматамі.
Партызаны частавалі
Немчуру гранатамі.

771. І за мёдам, і за гускай,
Лезлі на нас гадзіны;
І за тое куляй рускай
Штабелямі складзены.

772. Наляцелі немцы-каты,
Папалілі нашы хаты;
Мы цяпер жывём у пушчы,
Днём і ноччу катаў трушчым.

773. Неба ўсё пакрылі хмары,
Падымаецца туман.
Сабіраюцца атрады
Беларускіх партызан.

774. Паглядзіце з моста ў рэчку,
Як вада хвалюецца.
На герояў-партызанаў
Увесь народ любуецца.

775. На асіне ліст дрыжыць,
У тумане спяць паляны.
Хочаш ты на свеце жыць —
Падавайся ў партызаны.

776. Наша хата — лес зялёны,
Бліндажы і шалашы.
Смела, наш баец чырвоны,
Немцаў-ворагаў глушы.

777. І пад Мінскам, і пад Брэстам,
Ля Вілейкі, ля Свянцян
Не знаходзіць немец месца
Ад udараў партызан.

778. Мы на Пцічы, мы на Сожы,
На Вілейцы, на Дзвіне
Білі, б'ём салдат варожых
Па загрыўку, па спіне.

779. Снег растаяў, снег растаяў,
Прыбыло ў рацэ вады.
Занімаюць партызаны
Вёскі, сёлы, гарады.

780. Задрыжэлі паліцаі
І фашысты ёжацца;
Партызанскія атрады
З кожным днём ўсё множацца.

781. Ад мяцеліцы з траншэяў
Пабяжыць фашыст у дом,
Будзе холадна — сагрэем
Партызанскім аганьком.

782. Партызаны — нашы браты,
Самі робяць аўтаматы.
Зброю добрую куюць,
Немцам збыту не даюць.

783. Немцам-вырадкам праклятым
Мы спакою не даём.
На магіле супастатаў
Кол асінавы заб'ём.

784. Куль фашыстам не шкадуем,
Пасылаем густа;
Партызаны скрозь шынкуюць
Катаў на капусту.

785. Адзін лапаць, адзін бот
На траіх фашыстаў.
Партызанскі кулямёт
Сцеле катаў лістам.

786. Ходзіць хата, ходзяць сенцы,
Ходзіць лапаць, ходзіць бот —
Як атаву, косіць немцаў
Партызанскі кулямёт.

787. На гары стаіць бяроза,
Пад бярозаю — сугроб.
Партызанскія атрады
Заганяюць немцаў ў гроб.

788. Звонка грае наш гармонік —
Залатыя галасы.
Немцы нос баяцца сунуць
У партызанскія лясы.

789. Выйшлі немцы на засаду,
Каля лесу заляглі,
А мы іх, фашысцкіх гадаў,
Прыкавалі да зямлі.

790. Партызанская работа —
Немцам гора і турбота:
Што ні ноч, то пад адхон
Пушчан новы эшалон.

791. А чаму сягоння ціха,
Эшалоны не ідуць?
Ды таму, што партызаны
Днём і ноччу рэйкі рвуць.

792. Чаму немец абарваны
І на целе гузакі?
Б'юць фашыстаў партызаны,
Нішчаць іх франтавікі.

793. Не сумуй, мая матуля,
Сумаваць нам не з рукі.
Білі, білі немцаў куляй
Ды ўдарылі ў штыкі.

794. Холад, сцюжа, вецер вее,
Свеціць месяц, ды не грэе.
Абвязаўшыся саломай,
Ходзяць немцы каля дому.

795. Ой, мароз, мароз, дужай,
Партызанам памагай!
Ледзяным сваім ударам
Бі і немца і мадзьяра.

796. Фрыцам добра перапала,
Білі іх мы чым папала,
Так іх бралі ў пераплёт,
Што запомняць Новы год.

797. Сцерагуць свае гарматы
Фашыстоўскія салдаты.
Мы пад Новы год не спалі,
Асцярожна варту знялі.

798. Афіцэр паставіў чаркі,
Налівае ў іх віно,
А Іван гранату-скварку
Ім падкінуў у акно.

799. Немцы карты павымалі,
Заняліся варажбой.
Варажбу мы іх сарвалі
Разам з іхняй галавой.

800. Немцы ладзілі засаду,
Выбіралі хмызнякі.
Падпаўзлі да іх мы ззаду
Ды ударылі ў штыкі.

801. Ночка цёмная без зорак,
Як магу цябе забыць,
Калі гэтай ночкай цёмнай
Пайшоў немцаў я глушыць.

802. Нарачанскія туманы
Засцілаюць берагі.
Б'юць нямецкіх акупантаў
Партызаны-рыбакі.

803. Нарач-возера, як мора,
Не убачыш берагоў.
Бараніць свае прасторы
Кожны верны сын гатоў.

804. На ўзбярэжжах на разлогіх
Чараты — куды ні глянь.
Хочуць фрыцы запалохаць
Нас, свабодных нарачан.

805. Ды нямецкія загады
Не застрашаць рыбакоў:
Забіраем аўтаматы,
Выплываючы на лоў.

806. Закідаем падвалокі,
Не зважаем на загад.
Немцаў топім у затоках,
Як у лужыне шчанят.

807. Нарачанцы не прамахі,
Немцу рыбы не дадуць.
Хутка фрыцы, як сабакі,
З Беларусі пабягуць.

808. Партызаны за Радзіму,
За народ яны ідуць;
Свой Палік * непабядзімы
Ворагу не аддадуць.

809. Партызаны, партызаны,
Сокалы савецкія,
Партызаны разбіваюць
Крэпасці нямецкія.

810. Мы страляем у фашыстаў,
Толькі рэха коціцца,
Заняволенай зямельцы
Быць свабоднай хочацца.

811. Хто фашыстаў з тылу косіць,
Цвёрды хто ў баях, як сталь,
На грудзях сваіх той носіць
Партызанскую медаль.

812. Як у лузе каля рэчкі
Нізка сцелецца туман,
Па усім Саюзе ходзіць
Слава нашых партызан.

813. Ты, падружачка, падруга,
Пойдзем голле сабіраць,
А калі сказаць па праўдзе —
Партызанам памагаць.

814. Ой, падруга мая Шура,
Пойдзем ёлачкі садзіць.
Ой, каб нашым партызанам
Было весела хадзіць.

815. Партызаны у лясу —
Я абедаць ім нясу:
Хлеба, яблык, агурцоў
І махоркі для курцоў.

816. Мой мілёнак у лясу —
Яму есці я нясу.
Будзь, мой міленькі, дужэй,
Бі нягоднікаў мацней.

817. Партызан як прыйдзе ў хату,
Стаўлю я на стол харчы,
Партызану, нібы брату,
Я гатова памагчы.

818. Белую хусцінку
Не буду я павязываць,
Пашлю міламу на фронт
Раны перавязываць.

819. А ў мяне платочак ёсць —
Не буду завязываць,
Пайду к міламу ў лес
Раны перавязываць.

820. Пойдзеш, мілы, ў партызаны,
Вазьмі мяне ваяваць;
Будзеш біць ты з кулямёта,
Я — патроны падаваць.

821. — Ой, падруга мая Надзя,
Дзе ты забарылася?
— Я ў атрадзе партызанскім
Немцаў біць вучылася.

822. Не хачу я чаю піць
У нямецкім «раі»,
Лепш пайду да партызан
Душыць немцаў зграі.

823. Не хачу я чаю піць,
Не хачу заварываць.
Буду фрыцаў куляй біць
І варам ашпарываць.

824. Прыйшоў немец па пасаг
З аўтаматам у руках.
Куляй і гранатаю
Немца я пасватаю.

825. Думаў немец-чужаніца
З нашай дзеўкай ажаніцца,
А яна пасватала
Вырадка гранатаю.

826. Каля хаты клён і граб,
Ў хаце — афіцэрскі штаб,
Я ж хаціну ды з заразаю
Падпаліла ўночы газаю.

827. Дарагая, дарагі,
Плешча рэчка ў берагі.
Я паленам обера
Уначы угробіла.

828. На бярозе — дзве зязюлі,
На вішанцы — салавей.
Як убачу партызана,
На душы мне весялей.

829. Пацалую, прыгалублю,
Сэрца вернае — табе;
Партызанам калі станеш,
Пайду замуж за цябе.

830. А мой мілы — партызан,
З немцамі змагаецца,
Мне ж, дзяўчыначцы, гуляць
Больш не дазваляецца.

831. Пайшоў мілы ў партызаны,
Я дала яму наказ:
— Бі фашыстаў, паліцаяў,
Барані ад гадаў нас!

832. Сэрца б'ецца і сумуе,
Жаль мне сэрца роднага.
Палюбіла партызана —
Мсціцеля народнага.

833. Я на ганачку стаяла,
Ножкі памарозіла,
Палюбіла партызана
З атрада Марозава.

834. Я па ельнічку хадзіла,
І збірала я грыбы.
Палюбіла партызана
Я з атрада «Барацьбы». *

835. Вышывала я платочак
Нітачкай малінавай.
Палюбіла партызана
З атрада Калініна. *

836. Па садочку я хадзіла
І цвяточкі сеяла.
Мой любімы ў партызанах,
У брыгадзе Аляксеева.

837. У партызаны паступіла,
Красну лентачку нашу;
Партызана палюбіла,
Партызанам даражу.

838. Партызана я любіла,
Партызана цешыла,
Партызану на плячо
Сама вінтоўку вешала.

839. Колькі лесу ні рубіла —
Ўсе кусты арэхавы.
Партызана я любіла,
З ім ў атрад паехала.

840. Я надзену шынель шэры,
Шапачку-вушаначку,
Пазнавай жа, мой мілёнак,
Сваю партызаначку.

841. На гары стаіць бяроза,
Пад бярозай — танка,
А мой мілы партызан,
А я — партызанка.

842. А мой мілы — партызан,
А я — партызаначка,
Ў кавалерыю мы пойдзем —
Баявая парачка.

843. А мой мілы — смелы лётчык,
А я — партызаначка;
Няхай людзі пагавораць,
Што роўная парачка.

844. З поля кветку-васілёчак
Я сарвала ўранку.
Мой мілёнак — сокал-лётчык,
А я — партызанка.

845. Раней муж быў брыгадзір,
Ну, а я — даярка.
Цяпер муж мой камандзір,
А я — санітарка.

846. Партызанка мая маці
І мой бацька партызан,
І сама я партызанка —
На баку нашу наган.

847. Жалуды вісяць на дубе,
Жалудам прыйшоў капут,
На тым дубе будзе Кубэ
Целяпацца, як жалуд.

848. Разышоўся Вільгельм Кубэ:
— Беларусь — калонія!
Партызаны міну ў бок —
І ўся цырымонія.

849. Паліцай на казе
Самагонку вязе,
Яму куля ўздагон —
І душа з яго вон.

850. Эх, яблычкі,
Ды налітыя,
Паліцэйскія сабакі
Будуць бітыя.

851. Як у нашым у сяле
Стараста паганы,
Мы яго павесім хутка
Дагары нагамі.

852. З-за сыночка-паліцая
Свету мне не бачыць;
Усе людзі поруць пальцам,
Кінь, сынок, сабачыць.

853. Дождж ідзе, дождж ідзе,
На вуліцы слізка.
Уцякайце, паліцаі,—
Партызаны блізка.

854. Паліцэйскія сабакі,
Куды будзеце ўцякаць?
Скора вас фашысты кінуць,
Мы не будзем вас прымаць.

855. Ой, не спіць Адольф-скаціна,
Гебельсу маркоціцца.
Іх ваенная машына
У канаву коціцца.

856. Не пішчы, праклятты Гітлер,
І заткні свой зяпу-рот;
Ты не суй свінога рыла
Ў наш савецкі агарод.

857. Ах ты, Гітлер, неваюй
Ды не трацьць ты сілу,
Усё роўна не 'ддадзім
Родную Расію.

858. Як ты, Гітлер, ні старайся,
Усюды справы твае «швах»,
Ты Расію не раскусіш,
Бо арэх не па зубах.

859. Гітлер сам сябе хваліў,
Што даўно Маскву спаліў.
Аб'яўляў разоў ён дзвесце,
А Масква стаіць на месцы.

860. Колькі дзён, начэй змагаўся
Гордасць наша — Ленінград!
Абсяклі тут немцам лапы,
Тут апёкся Гітлер-гад.

861. Гітлер ярасны, як гад,
Наступаў на Сталінград,
Сталінград пайшоў не ўпрок —
Трыста тысяч фрыцаў спёк.

10. Зак. 1070

862. Цяжка Гітлеру дыхнуць —
Дыхавіцу спёрла:
Хоча шар зямны глынуць,
Ды не лезе ў горла.

863. Будзе ворагам-ваякам
Па загрыўку, па спіне,
А вось Гітлеру-сабаку
Дык дастанецца ўдвайне.

864. Сказаў Гітлер Рыбентропу:
— Заваюем ўсю Еўропу!
Выйшла ўсё наадварот —
Даў на захад паварот.

865. З неба зорачка упала,
Яшчэ многа ўпадзе.
Многа Гітлеру папала,
Яшчэ болей пападзе.

866. Загудзе мяцеліца —
Снег кругом пасцелецца,
А прыцісне маразец —
Будзе Гітлеру канец.

867. Ах ты, Гітлер, касавокі,
Ненавісны вораг мой,
Бацьку вывез у няволю —
Засталась я сіратой.

868. Сядзіць Гітлер на бярозе,
Пляце лапці языком,
Каб паршывая каманда
Не хадзіла басяком.

869. Сядзіць Гітлер на асіне,
Богу моліцца балван:
— Памажыце, ўсе святыя,
Пакараці партызан.

870. Тэлеграму з таго свету
Прыслаў Гітлеру Кубэ:
— Прыязджай, мой родны фюрэр,
Мне тут сумна без цябе.

871. Пачуў Гітлер у Берліне,
Што ён скора ўжо загіне;
Падхваціў свае манаткі
І ўцякае без агляркі.

872. Дрыжыць Гітлер, як у трасцы,
Многа жыць яму не ўдасца,
Ніякой пад ім апоры,
Ой, загіне Гітлер скора!

873. Сядзіць Гітлер на бочцы,
Бочка з порахам,
Скора бочка узарвецца
Разам з ворагам.

874. Думаў Гітлер заўладаць
Усёй савецкаю зямлёй,
Але час настаў такі,
Адцураўся і сваёй.

875. Тут ляжыць высокі чын —
Кубэ, Гітлера служака.
Пры жыцці быў сукін сын
І загінуў, як сабака.

876. Ой ты, мамачка мая,
Пасып лавачку пяском,
Забяруць мяне ў Германію —
Заплачаш галаском.

877. Не садзіце на машыну,
На машыну сінюю,
Не вязіце вы мяне
Ў Германію сілаю.

878. Надаелі мне баракі,
Надаела коечка,
Яшчэ горай надаела
Чужая старoначка.

879. Надаелі мне дубы,
Сосны надакучылі;
Фрыцы сэрца пераелі,
«Бобікі» замучылі.

880. Надаела пайка хлеба
І салома мятая,
Да чаго ж нам надаела
Тут жыццё праклятае.

881. Мая мама дарагая,
Забяры мяне дамой.
Надаелі мне баракі,
Усё кормяць баландой.

882. Ты, машына паравая,
Адвязі мяне дамой;
Мне фашысцкая старонка
Аказалася турмой.

883. Мая родная матуля,
Забяры мяне дамой:
Мне фашысцкія баракі
Аказаліся турмой.

884. Эх, няўжо ж я тут прапала,
Эх, няўжо ж я прападу,
Эх, няўжо ж адсюль дадому
Я па шпалах не прыйду.

885. Самалёты, самалёты,
Лётчыкі савецкія!
Прыляціце, разбамбіце
Лагеры нямецкія.

886. Ой, яблычка
Пакацілася,
А фашысцкая няволя
Правалілася.

887. Ой, вайна, вайна, вайна,
Надаела ўсім яна,
Яшчэ горай, дзеўкі, нам,
Усе хлопцы нашы там.

888. Дзевачкі, галубачкі,
Горка доля наша,
Як мы толькі падраслі,
Вайна пачалася.

889. Колькі лесам ні хадзіла —
Ўсё кусты арэхавы;
Колькі хлопцаў ні любіла —
Ўсе на фронт паехалі.

890. Падружачка дарагая,
Дзе ж то нашы сокалы?
— На іх шэрыя шынелі,
Паясы шырокія.

891. Падруга мілая мая,
Ці чула пра міленачка?
Ў яго цяпер пагоны,
На пагонах зорачкі.

892. Ой, мароз, мароз, мароз —
Елачкі заінелі!
Мой міленак немцаў б'е
На пярэдняй лініі.

893. Дзевачкі, мароз, мароз,
Елачкі аб'інелі.
А мой міленькі ў баі
Стаіць на першай лініі.

894. Мой мілёначак на фронце
І не першы ўжо раз,
Б'е фашыстаў там няшчадна,
Апраўдаў ён мой наказ.

895. Ты ляці хутчэй на фронт,
Птушка лёгкакрылая,
Перадай паклон ты мой
Дарагому, міламу.

896. Мой мілёнак — смелы лётчык,
Паляцеў Берлін бамбіць.
Яго быструю машыну
Не маглі фашысты збіць.

897. Ой, высока ў самалёце
Мой мілёначак ляцеў,
Кінуў бомбу разрыўную —
Пух з фашыстаў паляцеў.

898. А мой мілы — кулямётчык,
Развясёленькі малойчык,
Раніцой і ўвечару
Рэжа дужа немчуру.

899. Сад зялёны, сад зялёны,
Сад зялёненькі шуміць,
У зялёненькім садочку
Мілы ранены ляжыць.

900. Я на станцыі стаяла,
Міма поезд праязджаў,
Ў цёмнасіненькім вагоне
Мілы ранены ляжаў.

901. Калі б знала, ведала,
На вайну б паехала,
На вайну ў самы бой,
Дзе ваюе мілы мой.

902. Я у татачкі прасілась
Дабравольна на вайну:
— Буду раны перавязваць
Мілёначку свайму.

903. Ён, бывала, прыйдзе, прыйдзе,
Ён, бывала, прыбяжыць,
А цяпер яго галаванька
Пад Берлінам ляжыць.

904. Ой, дзяўчатачкі мае,
Не будзьце гардаватыя,
Любіце раненых байцоў,
Яны не вінаватыя.

905. Самалёт ляціць высока,
Не дакінеш палачкай;
Цераз Гітлера касога
Не паходзіш парачкай.

906. Найдзі, хмара, найдзі, гром,
І разбі фашысцкі дом,
За каменнаю сцяной
Забі Гітлера стралой.

907. Ты кукуй, кукуй, зязюля,
На зялёнай на мяжы.
Ты ляці стралою, куля,
Чэрап фрыцу праніжы.

908. Дзевачкі, вайна, вайна,
Галубачкі, вайна, вайна.
Не адзін мілы ваюе,
Не адна гарую я.

909. Дзевачкі, вайна, вайна,
Галубачкі, вайна, вайна,
Не адзін мілы ваюе,
А ваюе ўся страна.

910. Над Асвеяй хмары ходзяць,
А ў Расонах гром грыміць.
Там мой міленькі брацішка
З аўтамацікам стаіць.

911. Чатыры годы брат ваюе,
Я дала яму наказ —
Біць фашыстаў, паліцаяў,
Бараніць ад гадаў нас.

912. Пайду ў армію служыць
Буду фрыцаў трапна біць,
Буду храбра з сваім братам
Я радзіму бараніць.

913. Стаіць бяроза над ракой,
Галіначка хістаецца.
А мой мілы ў партызанах
З фрыцамі змагаецца.

914. На ігрушы спеюць грушы,
А на дубе — жалуды.
Вытрасае з катаў душу
Мой мілёнак малады.

915. Я на хустачцы старанна
Завязала вузялок.
«Языка» да партызанаў
Мой мілёнак прывалок.

916. Маё сэрца чуе, чуе,
Дзе мой міленькі начуе,—
У лясу пад ёлачкай
З новенькай вінтовачкай.

917. Ты, Германія, з Расіяй
Перастань жа ваяваць —
Многа дзевачак на свеце
Застанецца гараваць.

918. Ой, фашысцкія вы гады,
Перастаньце ваяваць,
Надаела й вашым жонкам
У падвалах начаваць.

919. Выйдзем ноччу, дзевачкі,
Станем на ўзгорачкі,
Мажа, ўбачым на ўсходзе
Крамлёўскія зорачкі.

920. Адпаўзае немец-гад
У Германію назад.
Трэба, хлопцы, не драмаць,
Насмерць гада дабіваць.

921. Мой мілёнак пісьмы піша:
— Дарагая, пачакай!
Хутка немцаў перадужым,
Я вярнуся ў родны край.

922. Немчуру не раз мы білі,
Ды пра ўсё яны забылі;
А на гэты, відаць, раз
Будуць вечна помніць нас.

923. Партызаны, партызаны,
Братцы нашы родныя,
Вы геройскі ваявалі
За справы народныя.

924. Нашы мужныя героі
Родны край праславілі:
Пасярод Германіі
Чырвоны сцяг паставілі.

925. Адышла вайна-навала,
Адгрымеў суровы бой.
Сонца светлае заззяла
Над краінай дарагой.

926. Ты працуй, працуй, Радзіма,
Вольная, свабодная:
Рубяжы твае вартуе
Армія народная.

927. Мы фашыстаў разагналі,
Перасталі ваяваць.
Едзем мы цяпер дадому
Край Саветаў будаваць.

928. Час мінуў вайны, трывогі —
Сёння свята перамогі.
Дзеўкі з фронта ждуць дамоў
Сваіх хлопцаў-жаніхоў.

929. Мілы мой прыйшоў з вайны,
Глянь на гімнасцёрачку —
Справа, злева ардэны
І Героя зорачка.

930. У нашай рэчаньцы ў быстрай
Цячэ светлая вада.
З фронта мілы мой прыехаў —
Усе грудзі ў ардэнах.

931. Мы адновім гаспадарку,
Пойдзем далей ў светлы шлях,
Заспяваюць зноў жняяркі
І камбайны на палях.

932. Дзе я біла подлых фрыцаў
За савецкую зямлю,
Там цяпер я жну пшаніцу,
Лён высокі цераблю.

933. Дзе снарадныя варонкі
Сум наводзілі на нас,
З пераможнай песняй звонкай
Падымаем мы калгас.

934. Быў любімы мой танкістам,
Біў фашыстаў на вайне,
А цяпер ён трактарыстам
Норму выканаў ўтрайне.

935. Мы ў пяхоце ў першай роце
Былі камандзірамі,
А цяпер ў калгасе родным
Сталі брыгадзірамі.

936. Шчасна мы жывём, свабодна,
Нам адкрыты ўсе пуці.
Лепш краіны нашай роднай
Ва ўсім свеце не знайсці.

937. У Савецкага Саюза
Шлях-дарожанька адна:
Сцяг свабоды, праўды, міру
Адстаім мы да канца.

938. Мы за дружбу, справу міру
Да канца будзем стаяць.
Хай не думаюць банкіры
Зноў вайну нам навязаць.

939. Хто каму капае яму,
Сам у яму пападзе.
Хто з вайной да нас палезе,
Сам жа згіне, прападзе.

940. Працавіты наш народ
Ўсюды б'е рэкорды.
Крышыць наш атамаход
Лёд вайны халоднай.

941. Кажам мы: вайна не трэба,
Ну, навошта нам яна?
Хай сінее мірна неба,
Хай цвіце заўжды вясна.

942. Ой, гармонік, мой гармонік,
Ты званчэй звіні, іграй;
Мы частушкі праспяваем
Пра Радзіму, пра свой край.

943. Прапяём мы вам частушкі
Пра жыццё, пра ўраджай.
Гэй, вясёлыя падружкі,
Звонку песню запявай.

944. Мы частушкі праспяваем
Радасныя, звонкія,
Як расцілі ўраджаі
Свае камсамольскія.

945. Ой, сяброўка дарагая,
Галасістая ты ў нас,
Ад цябе ўсе чакаюць
Звонкай песні пра калгас.

946. Весяліць народ я рада,
Ўся душа мая пяе.
Гарманіст наш хлопец ладны
І нідзе не падвядзе.

947. Я — свінарка, ты — даярка.
Мы з сяброўкай ўдваём
Юбілейныя прыпеўкі
Пра Радзіму прапяём.

948. Эй, цвіці, красуй навокал,
Беларускі родны край!
Хай звініць, расце высока
Наш савецкі ўраджай.

949. Хай жа стануць ўсе калгасы
Дужымі, заможнымі!
Хай ляцяць па свету нашы
Песні пераможныя.

950. Грай, гармонь, пераклікайся
З песняю крылатаю.
Да багацця і да шчасця
Прывяла нас партыя.

951. Па-ударнаму працуем
І заможна мы жывём.
Мы аб партыі любімай
Песні радасці пяём.

952. Без прыпеўкі, без частушкі
У карагодзе не прабыць.
Запявайце-ка, падружкі,
Як цудоўна стала жыць.

953. Ой, у лузе, пры даліне,
Пяе песні салавей.
Сёння весела жывецца —
Заўтра будзе весялей.

954. Грай, баян! Хай песня льецца!
Нашу радасць не суняць:
Добра, весела жывецца —
Так і хочацца спяваць.

955. Грай, баян, а мы, падружкі,
Пра жыццё калгаснае
Прапяём свае частушкі,
Новыя, сучасныя.

956. Зоры, зоры, зоры ў небе
Залатымі роямі.
Будзе гэты год багаты
Новымі героямі.

957. Мы сабралі ў гэтым годзе
Ураджай нябачаны.
Ардэнамі ў калгасе
Многія адзначаны.

958. Ой, дарэмна, мой мілёнак,
Гаварыць стараешся:
Ў маім сэрцы без медаляў
Ты не акапаешся.

959. Хлопец з гонарам міргае,
Бачу: два медалі мае;
«Не міргай,— кажу,— дарма:
Глянь, я з ордэнам сама».

960. За вайну ён, мне казалі,
Ардэны меў і медалі,
А цяпер каханы мой
У калгасе стаў герой.

961. У Марусі і ў Тадоркі
На грудзях заззялі зоркі.
Не драміце, Клім, Кандрат! —
Прыгажэй няма дзяўчат.

962. На балотах на палескіх
Родзіць слаўны ўраджай;
Хто не верыць нашай славе —
Падзівіцца прыязджай.

963. Працай дружнай і руплівай
Наша славіцца звяно,
Наша ніва ўсім на дзіва:
Што ні колас — паўкіло.

964. А ў нашым у калгасе
Ёсць вясёлае звяно.
І ў рабоце і у песнях —
Ўсюды славіцца яно.

965. Наша дружнае звяно
Ужо створана даўно.
Мы старанныя дзяўчаты
І спяваем мы заўзята.

966. Выплыў месячык на небе,
Засвяціўся яго край.
Нам змагацца цяпер трэба
За высокі ўраджай.

967. Разлятайся песняй, слава,
За ўраджай стаіць калгас,
Каб Савецкая дзяржава
Багацела кожны час.

968. У калгасе мы жывём
Весела, шчасліва,
Сабіраем ураджай
Кожны год на дзіва.

969. На двары стаіць бяроза,
Лісце распускаецца.
А калгасы як адзін
Ўгору падымаюцца.

970. Выйду, выйду на прыволле,
Пагляджу на свой калгас,
Эх, шырока наша поле,
Стала шырай многа раз.

971. Выйдзі ў поле, глянь навокал,
Мора жытняе шуміць.
Эх, як радасна, вясёла
У калгасе стала жыць.

972. Мы з каханым на Алтаі,
Мэта працы ў нас адна:
Каб багатым ураджаем
Каласілась цаліна.

973. Землякоў не забываем
І наш родны сельсавет:
Шлём па радыё з Алтая
У Беларусію прывет.

974. Запявай, падружка, песню
І я разам запяю.
Мы на трактарах сталёвых
Падымаем цаліну.

975. Ў Казахстан я напісала,
Што ідзе да нас вясна,
Буракі і кукуруза —
Гэта наша цаліна.

976. Песня коціцца над светам,
Твары ўсмешкай свецяцца,
То савецкая ракета
Дасягнула месяца.

977. Запусцілі спутнік ў неба,
Вестачка ў хацінячкі.
Дзед ў чырвоны кут паставіў
Спутніка карцінячкі.

978. Камуністаў нашых слова
Над планетай ўсёй ляціць.
Скажа партыя — Гагарын
На Венеру паляціць.

979. Шлях у космас пралажылі
Наш Гагарын і Цітоў,
Увесь свет яны здзівілі,
Ім падзяка і любоў.

980. Кажа дзед сваёй бабулі:
— На цябе я не бурчу,
Не сварыся й ты, Настуля,
Бо на месяц палячу.

981. А бабуля кажа дзеду:
— Не палохай ты, Іван,
Бо вазьму ды вось паеду
Ад цябе да марсіян.

982. На калгасным родным полі
Песні звонкія пяём
Пра шчаслівую старонку,
Пра заможнае жыццё.

983. З агратэхнікай заўсёды
Добра ладзіць наш калгас:
Багацейшы з кожным годам
Працадзень цяпер у нас.

984. Расцягні гармонь, таварыш,
Медзянымі гукамі.
З агратэхнікаю дружым —
Вернаю навукаю.

985. Гарманіст гармонь расцягне,
Мы з табою падпяём.
Як пасадзім кукурузу,
Яшчэ лепей зажывём.

986. Гармaністы падыграюць,
Мы спяём прыпевачкі,
Як расцілі кукурузу,
Вам раскажуць дзевачкі.

987. Я — пачатак натуральны,
Я — прадукт універсальны,
Я — культура хлебная,
Я — усім патрэбная.

988. На калгасным нашым полі
Дасягненні як ніколі.
Ў гэтым годзе ўсім на дзіва
Кукуруза ўрадзіла.

989. І направа, і налева
Разраслася каралева.
Ў гору вырасла высока,
Глянеш — радуецца вока.

990. Будзе радасць у калгасе —
Кукуруза ўдалася.
Прыязджалі да нас госці,
Хто ні глянуў — пазайздросціў.

991. Запявай, сяброўка, песню,
Весялей, гармонік, грай!
Кукуруза на палетках
Узнялася, нібы гай.

992. Эх, у нашым у калгасе
Кукуруза да нябёс.
Кажуць, нашу кукурузу
Самалёт прыняў за лес.

993. Урадзіла у калгасе
Кукуруза хоць куды.
Заблудзіўся ў ёй мілы —
Ні туды і ні сюды.

994. Памаглі шукаць пілоты,
Мы ім дзякавалі ўсе.
Знайшлі хлопца верталётам,
Пасадзілі на трасе.

995. Травы сеялі без толку,
Той карысці ні на голку.
А сістэма прапашная —
Сцежка к поспехам прамая.

996. Пачынаю пець частушкі,
Ты, падружка, падпявай.
Будзем славіць мы з табою
Наш калгасны родны край.

997. Сабірайцеся, падружкі,
Весялей, баян, іграй!
Мы запольскія частушкі
Прапяем пра ўраджай.

998. Мы са Случчыны частушкі
Вам, таварышы, спяём,
Як мы пленум сустракалі,
Як працуем, як жывём.

999. Я прыпеўкі вам спяю —
Весялей іграй, баян —
Як працуем, як жывём,
Як выконваем свой план.

1000. План вялікай сямігодкі
Акрыліў на працу нас.
Мацаваць, дзяўчаты, будзем
Дружнай працай свой калгас.

1001. Сямігодка — гэта ява
Сонечная, ясная;
Сямігодка — гэта слава
Рабоча-калгасная.

1002. Сямігодка — гэта ява,
Сонечная, светлая;
Пра яе лунае слава,
Слава міжпланетная.

1003. Сямігодка — наша радасць,
Нашых мараў запавет.
Яе планы грандыёзныя
Хвалююць увесь свет.

1004. Зараз смела завяраем
Наша роднае ЦК:
Сваё слова мы стрымаем
Па надою малака.

1005. Мы з навукаю на пару
За ўраджай вядзём паход:
Трыццаць цэнтнераў з гектара
Сабіраем кожны год.

1006. Пра брыгаду нашай Ніны
Грыміць слава на ўвесь край:
Са свайго сабрала поля
Стопудовы ўраджай.

1007. Ільнаводкі маладыя,
Мы заўжды перадавыя,
Працу вельмі паважаем
І бываем з ураджаем.

1008. Я ў калгасе звенявая,
Валакністы ў мяне лён,
Першынство я зноў трымаю,
Ганарыцца мной раён.

1009. Прадалі дзяржаве лён
Роўным лікам на мільён,
І да кожнай нашай хаты
Працадзень прыйшоў багаты.

1010. Калі дружна папрацуем
Мы калгасным усім сялом,
То напоўнім нашы крамы
Салам, маслам, малаком.

1011. Лепшы дар свайго калгаса
Мы на выстаўку пашлём,
Хай жа знае ўся краіна,
Як заможна мы жывём.

1012. З кожным годам мы заможней
І культурней сталі жыць:
У хатах радыё гаворыць
І электрыка гарыць.

1013. У калгасе клуб і яслі,
Скрозь электрыка гарыць.
Добра, весела жывецца,
Яшчэ лепей будзем жыць.

1014. Харашо ў нас ў калгасе,
Проста горад, не сяло:
Маем школу, клуб і яслі,
Электрычнае святло.

1015. Многа новага ў сяле,
Стала жыць нам весялей.
Электрычнае святло
Праясніла ўсё сяло.

1016. Эх, бывайце, хутарочкі,
Стрэхі саламяныя,
Мы калгас свой збудавалі
І дамы цагляныя.

1017. Стаў калгаснікам Даніла,
Жыць па-новаму стаў дзед:
Купіў бабцы швеймашыну,
А сабе веласіпед.

1018. Грай, баян, наш друг любімы,
Мы частушкі прапяём.
Хай пачуюць ва ўсім свеце,
Як мы радасна жывём.

1019. Мы, калгасныя дзяўчаты,
Па-калгаснаму пяём,
Мы калгасам ганарымся
І калгасным працаднём.

1020. Я ў калгасе нарадзілася,
Ў калгасе хачу жыць.
Я ад маці навучылася
Калгасам даражыць.

1021. Мы прыпеўкі самі склалі
І спяваем іх не раз.
Хай расце і багацее
І квітнее наш калгас.

1022. Мы закончылі прыпеўкі,
А цяпер спытаем вас:
Як прыйшліся да спадобы,
Мы прыедзем другі раз.

1023. Вось такія мы дзяўчаты —
І прыгожы і багаты.
Вось якія мы дзяўчаты —
Прыязджайце да нас ў сваты.

1024. Праспявалі вам частушкі
Пра жыццё, пра наш калгас.
Запрашаем: прыязджайце,
Павучыцеся у нас.

1025. Дзякуй партыі і ўраду
За іх мудрыя парады,
За іх клопаты аб нас,
За спакой і мірны час.

1026. Па-над вёскай песня льецца,
Як рака бурлівая.
Дзякуй партыі ад сэрца
За жыццё шчаслівае.

1027. Эй, сяброўка дарагая,
Гарманіста пазавём
І жартоўныя частушкі
Мы з табою прапяём.

1028. Мы дзяўчаты з вёскі Вокшыц,
Вам частушкі прапяём,
Як жывём і як працуем,
Па чым крытыкаю б'ём.

1029. Маладая дзеўка Рая,
Яна сораму не знае:
Зарабіла за сезон
Адзінаццаць працадзён.

1030. Сядзіць дома наша Валя,
На работу не ідзе,
Цэлы дзень ў брывах праполку
Перад зеркалам вядзе.

1031. У канторы наша Жэня
Камсамолка-колакал,
А на ферму не зацягнеш
Яе нават волакам.

1032. На вяселлі цётка Вольга
Баба-звон і баба-гром,
А за год ёй налічылі
Ўсяго восем працадзён.

1033. Харашо табе, падружка,
З брыгадзірамі гуляць,
На работу ты не ходзіш,
А прагулаў не відаць.

1034. З неба зорачка упала
Брыгадзіру на каўнер;
Адзін вечар пастаяла,
А запіша працадзень.

1035. Ой, не бачна ў полі Зосі
Ані ўлетку, ані ўвосень.
Што ж ты зробіш, няма дзіва:
Зося — жонка брыгадзіра.

1036. Брыгадзір, брыгадзір,
Дзе твая брыгада?
Брыгадзір на печы спіць,
А брыгада рада.

1037. Брыгадзір, брыгадзір,
Ходзіш без агляцкі,
На брыгаду паглядзі,
Навядзі парадкі.

1038. Брыгадзір наш удалы,
Вельмі спрытны на язык.
На рабоце ён лянівы,
А да чаркі ўжо прывык.

1039. Што сказаць пра брыгадзіра —
Такі добры стаў на дзіва:
Дасць усё, што папрасі,
Толькі чарку паднясі.

1040. Ой ты, Міша, Міхаіл,
Агародны брыгадзір,
Пустазеллем ўвесь зарос,
Аж крапіва лезе ў нос.

1041. У брыгадзіра ўсё па плану —
І жывёла і пасеў,
Ды шкада, што вельмі рана
Не па плану пасівеў.

1042. К нам прыслалі агранома
Агратэхніку чытаць.
Дзе авёс, дзе кукуруза,
Ён не можа распазнаць.

1043. А мне мілы гаварыў,
Што без граматы вучон,
Паглядзеў на кукурузу
Ды і кажа: «Добры лён».

1044. Янка — наш загадчык клуба,
Паглядзець на яго люба.
Толькі ў клубе ні партрэтаў,
Ні плакатаў, ні газеты.

1045. А ў нашага шафёра
Дзіўная традыцыя:
Як паедзе з вёскі ў горад,
Трапіць у міліцыю.

1046. Участковы, участковы,
Белыя пагончыкі,
Нешта ты не заўважаеш
Нашых самагоншчыкаў?

1047. Старшыня наш сельсавета
Спаў зімою і спаў летам,
А прачнуўся пасля лета
Без партыйнага білета.

1048. Спіць Ярэма днём і ноччу,
Спіць ён столькі, колькі хоча,
І ў мінулую вясну
Чэмпіёнам стаў па сну.

1049. Пра Рыгора кажуць так,
Што славуты ён лайдак.
Калі есць — заўсёды ў поце,
Замярзае ж на рабоце.

1050. Наш Алесь на вечарынцы
У танцы круціцца ўюном,
А на працы яго лічаць
Самым першым гультаём.

1051. Прылабуніўся Лука
Да нарыхтовак малака.
І сабе за кошт кароў
Хату згрукаў — будзь здароў.

1052. У Пятруся і ў Міколы
Не хапіла храбрасці
У калгас ісці на працу
З атэстатам сталасці.

1053. Не хапіла ў кладаўшчыцы
Восем тон зярна пшаніцы,
І ў праўленні парашылі —
Недахоп мышам «прышылі».

1054. На нарадах і на сходах
Не шкадуйце вострых слоў:
Крытыкуйце абібокаў,
Крытыкуйце гультаёў.

1055. У святое Кацярыны
Да работы баліць спіна,
А малебен адслужыць —
Хоць у Слуцак пабяжыць.

1056. Ксёндз нам пацеры чытае,
Вучыць богу не грашыць,
Сам гарэлачку каўтае,
Да чужых кабет бяжыць.

1057. Моліцца «святы» Някрош,
Каб украсці, ды не грош;
Хлеб людскі дамоў цягае,
А на грэх рукой махае.

1058. Кінь, айцец наш Нікадзім,
Нам пускаць у вочы дым!
Для царквы збіраў падмогу
Ды усю загнаў на «Волгу».

1059. У святой хадзіў сутане,
Думаў, кара не дастане.
Мы злачынцу апазналі
Ды пад суд яго аддалі.

1060. Мы царкоўнікам не верым —
Іх шляхі вядуць назад.
Смела мы глядзім уперад
І будуем новы лад.

1061. Ўсё б я пела, ўсё б я пела,
Усё б я весялілася,
Ды адно мяне згубіла —
У дурня ўлюбілася.

1062. Ох, сябровачкі мае,
Ох, мае дзяўчатачкі.
Усю ночку сніўся мне
Ён і парасятачкі.

1063. У мілога мілак многа,
Васемнаццатая я.
Прынімай, мілы, ў брыгаду,
Групаводам буду я.

1064. З мяне мілы воч не зводзіць,
Палюбіў характарам,
Цэлы дзень за мною ходзіць,
Як прычэп за трактарам.

1065. Весялей, гармонь, іграй,
Новыя частушкі,
Памажыце запяваць,
Мілыя падружкі.

1066. Прыхадзіце на вяселле,
Мілыя падружкі.
Ох, вы косы, мае косы,
Шоўкавыя стужкі.

1067. Асушылі мы балота,
Правялі дарожкі,
Ты прыходзь ка мне, мой мілы,—
Не прамокнуць ножкі.

1068. Йшла я з поля вечарком,
Сустрэла Цімошку.
Гаварыў пра жніва многа,
Цалаваў патрошку.

1069. Не глядзі на мяне, хлопец,
Лепш кіруй камбайнам.
Не пытайся, ці кахаю —
Гэта яшчэ тайна.

1070. Ты прыходзь, мой мілы,
Ранняю пароюю.
Весялей ідзе работа,
Калі ты са мною.

1071. Заплялa я сёння ў косы
Шаўковыя стужкі.
Заіграй жа мне, гармонік,
Прапяю частушкі.

1072. Ходзіць трактар каля става,
На ім дзеўчына, як пава,
Землю дыскам разразае,
Сама песеньку спявае.

1073. Эх, падружка, радасць маю:
Трактарыста я кахаю.
Мне сказаў Сярожа мой,
Будзе сватацца зімой.

1074. На вучобе з мілым разам,
Глянь — і ў полі поплеч ён:
Брыгадзір ён у калгасе,
Я — калгасны аграном.

1075. Выйдзі, любы, выйдзі, мілы,
Выйдзі на гуляначку,
Пад пявучы твой гармонік
Я спяю вясняначку.

1076. Скора, скора я паеду,
Да сустрэчы, дзевачкі!
Вам на памяць пакідаю
Я свае прыпевачкі.

1077. Не катаюся ў машыне
І не бегаю пяшком.
У каго няма прыпевак —
Прыязджайце к нам з мяшком.

* * *

1078. Цёмна, цёмна, цемнавата,
Я баюсь існі адна,
Дайце праважатага,
Хлопца нежанатага.

1079. Мілы туз, мілы туз,
Не насі зімой картуз,
Насі шапачку баброву,
Любі мяне, чарнаброву.

1080. Салавей — мая навука,
Навучы мяне лятаць:
Не высока, не далёка —
Толькі мілага відаць.

1081. Ох, Мішачка,
Размішушачка,
Каму Міша непрыгожы,
А мне — душачка.

1082. Твае вочы,
Быццам слівы,
Хто іх любіць,
Той шчаслівы.

1083. У майго мілёначка
Пара коней вараных,
Не сёлета, дык налета
Пакатаюся на іх.

1084. Ой, месяц, месяц,
Не свяці нікому,
Адно — майму міленькаму,
Як ідзе дадому.

1085. Міленькі, каханенькі,
Не напівайся п'яненькі.
Ты нап'ешся — з ног далоў,
З кім жа я пайду дамоў.

1086. Не скажу, каго люблю,
Не скажу каторага,
У сям'і браты чатыры —
Самага вясёлага.

1087. Ох, іду, іду, іду,
Ножкі падгібаюцца.
Не скажу, каго люблю,
Самі здагадаюцца.

1088. Балалайка не мая,
Балалайка братава.
Я пад гэту балалайку
Песні пела, плакала.

1089. Люблю Колю, люблю Ваню,
Люблю іх абаіх.
Люблю Колю за гармоню,
Ваня будзе мой жаніх.

1090. Дарагі мілёначак,
Праўдзі да ёлачак,
Сцежкаю-дарожкаю
З вясёлаю гармошкаю.

1091. Музыканцік малады,
Ў цябе чубчык залаты,
Ў цябе чубчык кучаю,
Я цябе замучаю.

1092. Пайшла плясаць
У новым капоце.
Ў мяне хлопец малады,
Па маёй ахвоце.

1093. Не хацела прызнавацца,
Не хацела выхадзіць.
Музыкант такі харошы —
Яму трэба дагадзіць.

1094. Мой мілёнак — гарманіст,
А я падпявалачка,
Няхай людзі пагавораць:
Вясёлая парачка.

1095. Як гармошка заіграла,
Значыць, трэба выхадзіць:
І самой павесяліцца,
І людзей павесяліць.

1096. Я прыпевак многа знаю,
Усе пад сербіяначку,
Каб Міколу пазабыць,
Палюбіці Ванечку.

1097. Выбачайце, выбачайце,
Што я з песні збілася,
Я на курсах не была,
Спяваць не вучылася.

1098. Усе песні перапела,
Усе я перадумала.
Адной песенькі не спела,
Пра мілога думала.

1099. Ўсё б я пела, ўсё б я пела
Розныя прыпевачкі.
Хораша было гуляць
Малалетняй дзевачкай.

1100. Музыкант мяне не любіць,
Я яго прываражу:
Куплю лентаў тры аршыны,
На гармонік прывяжу.

1101. Барабаны білі, білі,
А я ўсё дзівілася,
Адзін хлопец барабаніў,
Я ў яго ўлюбілася.

1102. Песні пела, хоць не ўмела,
Пець ахвочая была.
За гармоншчыка папала —
Многа гора прыняла.

1103. Ой, дастаўся мне мужык —
Праклятае ліха.
Калышу, варушу,
А ён ляжыць ціха.

1104. Я любіла па пяці,
Любіла па пяцёрачцы.
Я любіла і тато
Ў зялёнай гімнасцёрачцы.

1105. Ў агародзе расце ліпа,
Чорны бровы у Піліпа.
А я свае ў сажу ўмажу,
Ды Піліпа пераважу.

1106. Сіне мора не глыбока,
Я лучынкай змераю.
Мой мілёнак недалёка,
Кожны вечар бегаю.

1107. Сцёпа, Сцёпа, Сцёпачка,
Паходачка, як дробачка,
Люблю ж цябе я, Сцёпачка,
Як лебедзя лябёдачка.

1108. А ў гародзе ячмень родзіць,
А да мяне Яўхім ходзіць.
Ты, ячмень, радзі гусцей,
Ты, Яўхім, хадзі часцей.

1109. Калі б я, калі б я
Салаўіначкай была,
У мілёнка пад акенцам
Я гняздзечачка б звіла.

1110. А ты, рыжы, хадзі бліжы,
А ты, чорненькі, пастой.
Пагаворым з табой, рыжы,
Потым, чорненькі, з табой.

1111. Кіну кужаль на паліцу,
Сама пайду на вуліцу.
Няхай мышы кужаль трубяць,
Няхай мяне хлопцы любяць.

1112. У балоце на купені
Журавіна спее.
Адзін мяне верна любіць,
Тры-чатыры млее.

1113. Ух, і вочкі мае,
Што рабіць мне з вамі,
Як убачыце хлапцоў,
Міргаеце самі.

1114. А пад мостам асака,
Сіні вочы ў казака.
Мяне маманька журыла,
Каб яго я не любіла.

1115. Мая мамачка — ўдава,
А мне волечку дала.
Сама цяпер каіцца,
Што са мной не справіцца.

1116. Мяне маці кіем біла,
А паленам гладзіла:
— Вось табе, мая дачушка,
І кіно, і радыё.

1117. Мяне мамачка за Колю
Вяроўкаю стала біць,
А я мамачцы сказала:
«Хоць забі, буду любіць».

1118. Ах, маць, мая маць,
Вот табе навука:
Калыхала ты мяне,
Калышы і ўнука.

1119. Праз плот у гарод
Па цыбульку лезла.
Праз дзірачку ў адрыначку
Да хлопцаў прылезла.

1120. Ой, маманька, жалей, жалей,
Радзімая, жалей, жалей.
Хутка з вашае сямейкі
Палячу, як салавей.

1121. Я на песні грамацейка,
Два экзамены здала.
Ну, а трэці праваліла —
Мама замуж аддала.

1122. Вярніцеся, мае гады,
Са мной пагуляеце.
А я выйду вам насустрач,
Ці мяне пазнаеце?

1123. Цераз рэчку грэбелька,
Няма майго Хведарка.
Клічу, клічу, ён не чуе,
Хай здаровенькі начуе.

1124. Балалаечка гудзіць,
Пайду мілага будзіць,
Мілы спіць, а я тамлюся,
Ніяк яго не дабуджуся.

1125. Ой, у Колі ў калідоры
Вісіць балалаечка.
Вазьмі, Коля, і зайграй,
Я твая каханачка.

1126. Сівы конь, сівы конь,
А белая грыва.
Любіць буду кавалераў,
Пакуль буду жыва.

1127. Ах, пальто, маё пальто,
Не бярэ мяне ніхто.
Выйду ў поле закрычу:
«Каравул! Замуж хачу».

1128. Танцавала, топнула,
Аж спаднічка лопнула.
Прашу, дазвольце падвязаць,
Пайду яшчэ я танцаваць.

1129. Баявая я дзяўчынка,
На падножцы ехала,
Беражыце, дзеўкі, хлопцаў,
Адбіваць прыехала.

1130. На мяне нагаварылі,
На мяне, на бойкую,
Быццам я яго паіла
Моцнай самагонкаю.

1131. Мілы Коля, твае коні
Патапталі травачку,
Мілы Коля, твая мама
Распусціла славачку.

1132. Дура была, дура была,
З дураком звязалася:
Тры нядзелі пахадзіла,
Няславы набралася.

1133. Палюбіла палявода,
Палюбіла на бяду,
Ён пасеяў кукурузу,
А сабралі лебяду.

1134. Мой мілёначак хварсіў,
Па тры паясы насіў.
Не хварсі, мілёначак,
Наносішся вяровачак.

1135. Усе тут, усе тут,
Усе папрыехалі,
На маім на мужаньку
Скарадзіць паехалі.

1136. А мой мілы дыр-дыр-дыр,
На дыр-дыр катаецца.
Як прыедзе да мяне,
Сэрца разрываецца.

1137. Мой мілёнак, як цялёнак,
Толькі розніца адна —
За цялёнка возьмеш грошы,
А мілёнку грош цана.

1138. Мой мілёнак, як цялёнак,
Толькі венікі вязаць:
Прасядзеў са мной на лаўцы,
Не сумеў пацалаваць.

1139. Мой міленькі за работу
Атрымаў пахвальны ліст,
А цалуецца ён дрэнна,
Відна, не спецыяліст.

1140. Мяне міленькі цалуе,
А я рвуся і крычу.
Толькі б ён не здагадаўся,
Што я гэтага хачу.

1141. Кажуць людзі, што прыгожы,
Але ён не для мяне:
Цалавацца ён не можа,
Сядзе збоку — ды засне.

1142. Пацалуй мяне, мой мілы,
Пацалуй хоць сорак раз,
Я тады табе паверу,
Што любоў жыве у нас.

1143. Селязён паляцеў,
А вутачка крача,
Як аднаго пацалую,
То чатыры плача.

1144. Ваня, Ваня, Ванечка,
Я табе не парачка.
Ты ў дзярэўні, я ў другой,
Рэдка бачымся з табой.

1145. Ты, падружка дарагая,
Чым ты умывалася?
Мусіць нейкаю вадой,
Бо ўсе хлопцы за табой.

1146. Мілы мой, мілы мой,
Мілы, подлая душа.
За другімі стаў ганяцца,
Стала я нехараша.

1147. А мой мілы адурнеў,
З чужой дзеўчынаю сеў.
Я думала, думала,
Адышла і плюнула.

1148. Я на горачку да-да,
І я з горачкі да-да,
Прададакала міленачка,
Цяпер хаджу адна.

1149. Я на горку чы-чы,
Я і з горкі чы-чы,
Прачычыкала мілога,
Хоць па радые крычы.

1150. Выйду-выйду я на ганак,
Пагляджу на возера.
Шкода, шкода мне мілога,
Што ўчора змарозіла.

1151. Ох, я к мору падхадзіла,
І крычу: тану! тану!
Сіне мора адказала:
«А любоў твая каму?»

1152. Усе дамоў, усе дамоў,
А мне дамоў не хочацца.
Мне ахвота паглядзець,
Каго мілы павядзець.

1153. Ты трапач, а я не знала,
Выбачай, залётка мой.
Каб я знала, не гуляла б
Усю зімачку з табой.

1154. Пайду, выйду пакачаю
Горкую асіначку.
Пакідае мяне мілы
На цэлую зімачку.

1155. У майго міленачка
Завялася новая,
Я думала, на ўсе «сто»,
Ажно ерундовая.

1156. З-за смачнага кісяля
Палюбіла Васіля.
Пакуль кісель лопала,
Васіля прахлопала.

1157. Мілы ў сваты ад'язджае
З размалёванай дугой,
Абмінуў мае вароты,
Сам паехаў да другой.

1158. Ты цыганка чорная,
Наверна, ты вучоная.
А чаму ж ты не ўгадала,
Што я разлучоная.

1159. Дзе я з міленькім хадзіла,
Там стаяла сто бяроз;
Дзе я з мілым разышлася —
Цячэ рэчанька ад слёз.

1160. Тады я цябе забуду
І спакойна буду жыць,
Калі рэчка перасохне,
Ручаёк не пабяжыць.

1161. Успомні, мілы, пра мяне,
Як сядзелі на бярне.
Ночка цёмная была,
Цалаваліся да дня.

1162. Мілы мой мілёначак,
Падары пярсцёначак,
Каб пярсцёнак надзяваць
І цябе ўсё ўспамінаць.

1163. Дзе знайсці такой бярозкі,
Кабы дождж не замачыў?
Дзе знайсці такой любові,
Каб ніхто не разлучыў.

1164. Мілы кінуў ужо восем,
А мяне дзевятую.
Я яму прапанавала:
«Палюбі дзесятую».

1165. Мілы мой, дарожак многа,
Ты пайшоў і я пайду.
Мілы мой, народу многа,
Ты знайшоў і я знайду.

1166. Вабражай, вабражай,
Мне цябе зусім не жаль.
У нас такія вабражы
Растуць у полі на мяжы.

1167. Мяне міленькі пакінуў,
Думаў, што павешуся,
А я пяю і весялюся
Да разлукай цешуся.

1168. Кажуць, што я ганарліва,
Гонарам ўсе цешацца.
Лепей з гонарам любіць,
Чым на шыю вешацца.

1169. Я гуляла, я гуляла,
Мне гуляць хацелася.
Ажаніўся мой міленькі —
Дзе ахвота дзелася.

1170. На гары расце лапух,
Каб ты, міленькі, апух,
Каб ты рукі паламаў,
Як другую абдымаў.

1171. Вецер вее, вецер вее,
Веталкі калышуцца.
Ты не вер, дзяўчына, хлопцу,
Пакуль не распішацца.

1172. Дзевачкі, у полі вецер,
Дзевачкі, у полі дым,
Дзевачкі, не верце мальцам,
Дзевачкі, не верце ім.

1173. Не ўсё горачка паплачаш,
Не ўсё горачка тужыць.
Заміту гора пад лаўку —
Няхай гора паляжыць.

1174. Расчыніце мне варотцы
У яравое полечка,
Маё сэрца пераносіць
Хоць якое горачка.

1175. Няма ў мяне грабеньчыка,
Нячосана галовачка.
Лепей дзевяры чатыры,
Чым адна заловачка.

1176. Ходзіць вуліцаю Грыша,
Ходзіць, выхваляецца.
Зубы новыя паставіў —
Рот не закрываецца.

1177. Рос, рос, не дарос,
Маленькі жаніўся,
А лёг спаць на кравáць,
З кравáці зваліўся.

1178. Ой, падружка мая,
Вон і нашыя ідуць.
Каля рэчкі ходзяць, бродзяць,
Перахода не найдуць.

1179. Не сядай, мілы, блізенька,
Не мні юбку сінюю,
Я цябе любіць не буду,
Не прымусіш сілаю.

1180. Пара, мацi, жыта жацi,
Колас нахіліўся.
Пара, маці, жаніціся,
Бо я нахадзіўся.

1181. Ай ты, мілая мая,
Чым ты бровы навяла,
Ці чарнілам, ці пяром,
Ці лахматым памялом?

1182. Як за песні, за прыпеўкі
Палюбілі мяне дзеўкі,
За нахабнасць за маю
Разбілі гірай галаву.

1183. Я на лавачцы сяджу,
Лавачка цясовая.
Пагляджу на сваю мілу,
Міла невясёлая.

1184. Шчабятушка мая,
Хахатушка мая,
Перастань гаварыць,
Маё сэрца баліць.

1185. Ах, Сямёнушка,
Ах, ты, Анютачка,
Ах, пасядзім з табой
Адну мінутачку.

1186. Ой, Сямён, Сямён,
Сямён, Сенечка,
Пацалуй мяне
Ды харашэнечка.

1187. Ой, Сямён, Сямён,
Ты, як луг, зялён,
А ты, Сямёнаўна,—
Трава зялёная.

1188. А што гэта за канава —
Галубы купаюцца.
А што гэта за дзяўчына,
Усе ў яе ўлюбляюцца.

1189. Не спявайце доўгіх песень,
Хопіць вам кароценькіх.
Не любіце старых дзевак,
Хопіць вам малодзенькіх.

1190. Я і так, я і сяк,
Я і рукавіцаю.
Калі жонку б'е мужык,
Здавай яго ў міліцыю.

1191. А ты дзед, а ты дзед,
Сівая бародка.
Паглядзі-ка на мяне,
Якая я малодка.

1192. На вуліцы скрыпка йграе,
Мяне мама не пускае.
Пусці, мама, паглядзець,
Ці харошы маладзец.

Мяне мама не пусціла,
Вароты замкнула,
А я ў мамы ключ украла,
Мама не пачула.

1193. Жана мужа біла,
На ліха не ўчыла:
— Сядзі, мужу, дома,
Стружы верацёна,
Калышы дзіцятка
І пасі цялятка.

1194. Як я не жаніўся,
Дык я не журыўся.
Як пачаў жаніцца,
То пачаў журыцца.

Трэба жонцы наравіць,
Як сівой галубцы:
Рана ўстаць, калыхаць
Мало дзіця ў люльцы.

1195. — Дзяўчыначка люба-люба,
Сахарная твая губа.
Набрахала на мяне,
Што я быў у цябе.

Я да цябе прыхадзіў,
Чаравічкі прынасіў.
Цябе дома не найшоў,
Я заплакаў і пайшоў.

Дзяўчыначка-золатца,
Кахай мяне, молайца.

1196. Ой, мамачка, рада буду:
Са спадніцы зраблю буду,
А з паперы зраблю дзверы,
Каб хадзілі кавалеры.

Каб стучыкі не стучэлі
І падкоўкі не звінелі,
Каб матуля не чувала,
З кім дачушка начавала.

1197. Як пайду я на гару,
Назбіраю раману,
Хоць сама я некрасіва,
Красівага абману.

Як пайду я на гару,
Наламаю маю,
Хоць сама я некрасіва,
Красівага маю.

1198. Чаго йдзеш, чаго йдзеш,
Чаго цягнешся?
Чаму мяне не бярэш,
Толькі дражнішся?

Ці кашуля чорна?
А ці я пазорна?
Кашулечка бела —
Бяры мяне смела.

І спадніца ў кружкі,
Чатыры падушкі.
А хто мяне возьме —
Чорт яго не возьме.

1199. Рассыпся, гарох,
На чатыры кучкі.
А ў нашага гарманіста
Залатыя ручкі.

Рассыпся, гарох,
А я пазбіраю.
Разыдзіцеся, народ,
А я пагуляю.

1200. Сядзіць майстар на паліцы,
Шые боты-рукавіцы.
Што пашые, то прап'е,
Прыйдзе дамоў — жонку б'е.
Жонка плача і кляне,
Майстар скача і пяе.

1201. Ах, мой мілы, любі мяне,
Куды хочаш, вядзі мяне.
Ці ў салому, ці ў мякіну,
А я цябе не пакіну.

Не вядзі мяне ў мякіну,
А то я ўкалюся.
Вядзі мяне ў лебяду —
Сама паvalюся.

1202. Любіліся, кахаліся,
Як зерне ў арэсе,
А цяпер мы разышліся,
Як дарожкі ў лесе.

Любіліся, кахаліся,
Нас мама не знала,
А цяпер мы разышліся,
Як цёмная хмара.

1203. Я й стаяла на ганачку,
Я й маргала на Яначку.
— Сюды, сюды, мой Яначка,
А я ж твая каханачка.

Як ён ехаў, то я спала,
Як ён свіснуў, то я ўстала.
Я й сказала: пад камору,
Ён не ведаў, пад катору.

1204. У балоце, на купенні,
Журавіна сохне.
Адзін мяне верна любіць,
Тры-чатыры дохне.

У балоце, на купенні,
Журавіна спее.
Адзін мяне верна любіць,
Тры-чатыры млее.

1205. У гародзе наградзе
Гарошына скача.
Адзін мяне верна любіць,
Тры-чатыры плача.

1206. І ўчора гарох,
І сягоння гарох.
Прыйдзі, прыйдзі, мой міленькі,
Хаця раз на парог.

І ўчора галушкі,
І сягоння галушкі.
Прыйдзі, прыйдзі, мой міленькі,
Хаця раз на падушкі.

І ўчора кулеш,
І сягоння кулеш.
Прыйдзі, прыйдзі, мой міленькі,
Хаця сэрца пацеш.

1207. І сёння куцця,
І заўтра куцця.
Прыйдзі, прыйдзі, мой міленькі,
Пагаворым хаця.

І сёння гарох,
І заўтра гарох.
Прыйдзі, прыйдзі, мой міленькі,
Пагаворым удвох.

1208. Пусці, маці, на вуліцу —
Хаця я прайдуся,
Усіх хлопцаў затуманю
Ды й назад вярнуся.

Ой, выйду на вуліцу,
Туды-сюды гляну:
Адзін мілы нясе бліны,
А другі — смятану.
Сюды-туды павярнуся,
У смятану памачуся.

1209. Чые коні на папары,
Мае — у садочку.
Да хто любіць далёкую,
А я — сусядочку.

Да далёкай ідзеш, ідзеш —
І ночка мінецца.
А добрая сусядочка
Сама прыхінецца.

1210. Не рубай, не сячы
Зялёных гарэхаў.
Чаму ног не паламаў,
Як да мяне ехаў?

Не рубай, не сячы
Зялёнага дубу.
Чаму шыі не скруціў,
Як ехаў да шлюбу?

Не рубай, не сячы
Зялёнай бярозы,
А нашто ты мяне браў —
Праліваці слёзы?

Не рубай, не сячы
Чырвонай каліны.
А нашто ты мяне браў
Ад маей радзіны?

1211. — Кавалішанька, а што,
Мая вішанька, а што:
Харошую дачку маеш,
Чаму яе не ўшчуваеш?
— А ці чорт яе ўшчуе,
Калі дома не начуе.

1212. — У апарыну вады ліну,
На камені суха.
Выйдзі, выйдзі, дзяўчыначка,
Мая красатуха.
— Я не выйду, я не выйду,
Мама не вялела:
Руса каса не чэсана,
Кашуля не бела.

1213. Ой, я знаю, знаю,
Да хто не жанаты:
Чырвоны, мардаты,
Увесь зухаваты.

Ой, я знаю, знаю,
Хто жаніцца хоча:
Ля паненак ходзіць
І, як конь, рагоча.

Ой, я знаю, знаю,
Да хто ажаніўся:
Скорчыўся, зморшчыўся
І з твару зmяніўся.

1214. Як я цябе не любіла,
Дык вясёленькай хадзіла.
А цяпер я штодня плачу,
Пакуль цябе не пабачу.

А ці ў руце ты купаўся,
Што мне гэтак спадабаўся?
Ці ты ў руце, ці ў лілеі —
Як убачу, сэрца млее.

1215. Біла ж мяне матулечка
Канапляным путам.
— Не хадзі ты, дачушачка,
З гэтым баламутам.

— На капусту ваду нашу,
На руту не буду.
Я й сёлета замуж пайду —
Зімаваць не буду.

1216. Баба дзеда шанавала,
На папары навязала.
— Еш, дзед, траву палявую,
Пі вадзіцу лугавую:
Палявая трава сытна,
Лугавая вада спітна.

1217. Сама сені зрубіла,
Сама выцесала.
Сама мілага злюбіла,
Сама высватала.

Жыві, маці, у той хаце,
Што я выцесала,
Любі, маці, таго зяця,
Што я высватала.

13. Зак. 1070

1218. Каля кузні ішла,
Вугалёк знайшла.
А за той вугалёк
Любіць мяне кавалёк.
Вугалёк чорны,
Кавалёк стройны.

1219. А божа мой, гарую,
Узяў жонку малую.
А божа мой, божа мілы,
Нашто я жаніўся?
Узяла жонка ўкусіла —
Тры гады лячыўся.

1220. Ах ты, Хведар, Хведарэц,
Папасі маіх авец,
Папасі маю казу —
Я і слова не скажу.
Папасі маю казу,
Я абедаць прынясу,
Прынясу бічалачку
І гарэлкі чарачку.

1221. Каля рэчкі асака,
Для конікаў паша.
Жаніцеся, кавалеры,—
Я дзеўка не ваша.

Я сёлета не пайду,
Жджыце да налецця.
А на лета падрасту —
Па мяне прыедзьце.

1222. — Бадай жа ты, дзяўчыначка,
Каменем сядзела,
Як ты мае канфетачкі
Штовечара ела.

— Чакай, мілы, да восені —
Нарастуць кісліцы:
Куплю мерку за капейку —
Аддам ўсе гасцінцы.

1223. Чыё гэта бычаня
На полі рыкае?
Ці не таго гультая,
Што жонкі не мае?

А дзяўчаты-небажаты,
Скіньцеся па грошу
Ды купіце гультаю
Жоначку харошу.

1224. Гарбуз смачны, салодзенькі,
Мой малойчык малодзенькі.
Пусці, маці, пагуляці,
Малойчыка павідаці.

А што ж гэта зрабілася,
Што мы з табой любіліся?
Ці сарокі шчыгіталі,
Што любіцца перасталі?

Ой, пайду я ў крынічаньку
Па халодну вадзічаньку.
Дам табе я напіціся —
Ці не будзем любіціся?

1225. Фартух дарагі,
Вышываны берагі.
Фартух з махром —
Куды хочаш махнём:
Ці ў ток, ці ў адрыну,
Ці ў салому, ці ў мякіну.

1226. — Чаму тады не прыйшоў,
Як я цябе прасіла?
Татка свінку закалоў,
Мамка вушкі зварыла.

— А я тады прыхадзіў,
Канфецікі прынасіў.
Цябе дома не застаў,
Канфецікі прасвістаў.

— А я дома была,
Канапельку цёрла.
Як пачула, што ты йдзеш —
Чуць я не памёрла.

1227. Гуляй, гуляй, дзяўчыначка:
Цяпер твая гадзіначка,
А як будзеш мужа мець,
Не захочаш і глядзець.
Дзеўкі будуць гуляці,
А ты будзеш люляці.

1228. Не хадзі, бел малойчык,
Каля маёй хаты.
Не тапчы, бел малойчык,
Маёй руты-мяты.

А не ты ж яе садзіў,
А не ты ж паліваў,
А не ты ж мяне, вясёлу,
Сваёй мілай называў.

1229. А дзядзіна, дзядзіна
Сама сабе ладзіла:
Скавародку ў печ,
Па яечкі ў клецъ.
Скавародка — бразь,
А яечкі — ў гразь.

1230. І ты тут, і я тут,
А хто ў нас дома?
Чырвоненькі петушок,
І то невядома.

Чырвоненькі петушок
І шэрая курка.
Я за цябе не пайду —
Плахая натурка.

1231. Цераз плот-агарод
Расце кусцік мяты.
Хто любіў ды пакінуў —
Каб адсохлі пяты.

Цераз плот-агарод
Расце кусцік бобу.
Хто любіў ды пакінуў —
Каб таму хваробу.

1232. Праз мяжу, праз мяжу
Капусту садзіла.
А не даў жа мне бог,
Каго я любіла.

Праз мяжу, праз мяжу
Перасаджвала.
А не даў жа мне бог,
З кім пахаджавала.

1233. Цераз сад-вінаград
Пагнала цялятка.
Туды маё сэрца рвецца,
Дзе мілога хатка.

Цераз сад-вінаград
Пагнала індыкі.
Туды маё сэрца рвецца,
Дзе граюць музыкі.

Цераз сад-вінаград
На жоўты пясочак.
Падману я мужыка
За сыра кусочак.

Мой мужык, мой мужык
Хораша убраўся:
Сам ён рабы, вочы жабы
І ў чорта удаўся.

1234. У гародзе на градзе
Тры качаны ўюцца.
А за мяне, маладую,
Тры хлопчыкі б'юцца.

Біцеся не біцеся —
Не ваша паненка.
Яшчэ замуж не пайду,
Бо я маладзенька.

1235. Як выйду на вуліцу,
Рассыплю арэшкі.
А дзе ж вы падзеліся,
Дзявоцкія смешкі?

Як выйду на вуліцу,
Разлажу я карты.
Ужо мае мінуліся
Дзявоцкія жарты.

1236. Люблю тое жыта жаць,
Што буйное зерне.
Люблю таго кавалера,
Што гаворыць верна.

Люблю тое жыта жаць,
Што буйныя каласы,
Люблю таго кавалера,
Што русыя валасы.

1237. Гыля ў поле, гыля ў поле,
Гыля у капусту.
Прападае дзяўчыначка
Праз сваю распусту.

Гыля ў поле, гыля ў поле,
Гыля у качанне.
Прападае дзяўчыначка
Праз сваё гулянне.

1238. Стуку, стуку на памосце —
Няма майго ягамосці.
І няма і не будзе,
А хто ж мяне любіць будзе?

Па памосце гуляла,
Не па голай зямлі.
Каго верна любіла,
Таго чэрці ўзялі.

1239. Ой, дастаўся мне муж —
Праклятае ліха.
Калышу, варушу —
А ён ляжыць ціха.

— Уставай, не маўчы,
Разварушы косці.
Ой, не сушы, не муці
Маёй маладосці.

1240. Ой, едзь, не стой,
Ў цябе конь не свой,
Дуга ліпавая падскрыпывае,
А бярозавая — пад'ёрзывае.

1241. Іграйце, музыкі,
Ў мяне лапці вялікі.
А мне бацька паплёў,
Каб было да Пакроў.
А мне маці папляла,
Каб было да Пятра.

1242. Чаго лямпа не гарыць?
Напэўна, з вадою.
Чаму мілы не прыйшоў,
Напэўна, з другою.

1243. Чаму лямпа не гарыць?
Кароценькі кноцік.
Чаму мілы не прыйшоў?
Парваненькі боцік.

Чаму лямпа не гарыць?
Карасіна мала.
Чаму мілы не прыйшоў?
Не пусціла мама.

1244. Я і стар — не магу,
Я і слаб на нагу.
Як зайграюць «Лявоніху»—
Ашалеўшы бягу.

1245. Ты не поп, ты не дзяк,
Не цалуй мяне так,
Няхай мяне пацалуе
Маладзенькі казак.

1246. Палю ў печы — горкі дым,
Любілася б — няма з кім.
Сыры дровы не гараць,
Каго люблю, не вам знаць.

1247. Ой, на гары гарохаўе,
Чэрці пана спалохалі.
Ой, не бойся, пане, смерці:
Не хапаюць дурняў чэрці.

1248. Ой, цешча мая,
Дай вады напіцца:
Тваю дочку люблю
І буду жаніцца.

1249. Цалаваў, мілаваў —
Не намілаваўся.
Як у садзе салавей,
Не нашчабятаўся.

1250. Усім песням канец —
Пайшлі дзеўкі ў танец.
А за імі парася —
Растапырылася.

1251. Сяку дуб, сяку дуб,
Куды трэскі ляцяць.
Аддай мяне, мой татулька,
Куды вочы глядзяць.

1252. Сяку дровы, сяку дровы,
Куды трэскі лятуць.
Аддай мяне, матулечка,
Куды ножкі нясуць.

1253. Канапельку ірваць —
Ручкі, ножкі баляць,
Каля лёну хадзіць —
Серадзінка баліць.

1254. Іграй, дудка,— пайду ў танцы,
Люблю дзевак, каб іх пранцы!
А у міленькай насок
З дваццаці пяці дасок.

1255. Сею, сею, бараную,
Люблю дзеўку маладую.
Кіну я баранаваць,
Пайду дзеўку запіваць.

1256. Ку-ка-рэ-ку! Баба ў рэку.
Дзед за ёю з чапялою.
— Пастой, баба, не тапіся,
Яшчэ богу памаліся.

1257. Я ў сераду радзілася,
На тры дзелы згадзілася.
Я і ў сохі і ў бароны,
За мной хлопцы, як вароны.

1258. Дзяўчыненька, сэрца,
Пусці пад радзенца.
Пусці, пусці пад радно —
Малойчыку халадно.

1259. Руту-мяту пасаджу,
Вярхі пазжынаю.
Яшчэ замуж не пайду,
Трошкі пачакаю.

1260. Расце мак-пастарнак
І цыбуля-дынька.
Мой муж — гаспадар,
А я — гаспадынька.

1261. Я гуляю, весялюся,
На чатыры спадзяюся.
Як падумаю сама —
Дык ніводнага няма.

1262. Сядзі, сядзі, гусачок,
Ды выседзі гускі,
А я пайду нагляджуся
На чорныя вускі.

1263. Танцавала полечку,
Парвала хвальбоначку.
Пайду мамачку прасіць,
Каб хвальбоначку зашыць.

1264. А капустка мая
Не капусціцца.
Раззлавалася мілашка —
Не адпусціцца.

1265. А як жа я гарую —
Узяў жонку малую.
Хлеб саджаю і мяшу,
Дзіця плачыць — калышу.

1266. Ты-лі-лі, ты-лі-лі,
Каб капусты ўлілі,
Далі хлеба камяка —
Паскакаў бы казака.

1267. Ой, мамачка, далібог,
Мяне любяць чатырох:
Любіць Ясь, любіць Стась,
Любіць дзядзька і Міхась.

1268. Я казала табе:
— Не чапай ты мяне.
Наелася саладухі —
Не павернеш мяне.

1269. Эй вы, хлопцы, бяжыце —
Вашы коні у жыце.
А ты, мілы, не бяжы —
Твае коні на мяжы.

1270. Касіў бацька, касіў я —
Выкасілі салаўя.
Бацька ў кузню, а я ў ток,
Бацьку білі, а я ўцёк.

1271. Не тужы, мая мілаша,
За мной будзеш панаваць:
Я наймуся свінней пасвіць,
А ты будзеш падганяць.

1272. Ажаніся, не лянíся —
Будзеш панаваці:
Жонка будзе свінней пасці,
А ты — заганяці.

1273. Тонкая, як былінка,
Харошая, як малінка.
А хто ж мяне возьме —
Чорт яго не возьме.

1274. Дзе ж ты, міленькі, купаўся,
Што мне гэтак спадабаўся?
Ці ў барвінку, ці ў шалвеі,
Што па табе сэрца млее?

1275. Я ў балоце купалася,
Хлопцу ў рукі папалася.
Няма ў свеце горшай мукі
Папасціся хлопцу ў рукі.

1276. Ці я ў мужа не жана,
Ці не гаспадынька?
У гародзе ваўкі выюць,
А ў хаце пустынька.

1277. Як жа дзеўкі не любіць,
Калі дзеўка ладна:
Хвартух новы, паркалёвы,
Хустачка ядвабна.

1278. Танцавала баба з дзедам
Ды згубіла торбу з хлебам.
Тагды было танцаваннё,
Як згубілі харчаваннё.

1279. — Дзяўчыначка бела-бела,
Дзе ты красачку падзела?
— Я на рэчцы мылася,
Красачку забылася.

1280. А божа мой, што бог даў:
Любіў чорну — белу ўзяў.
Любіў чорну, як патэльню,
А ўзяў белу, як смяртэльну.

1281. А на небе зорачка,
А я думаў—жоначка.
Клікаў, клікаў — не чуе,
Няхай з богам начуе.

1282. Хадзіў, хадзіў па межачцы,
Зваліўся ў калюгу.
Любіў, любіў красавіцу,
А ўзяў недалугу.

1283. Каму сад, каму сад,
Каму йгрушачка.
Каму мілы нехарошы,
А мне — душачка.

1284. — Чаму ў цябе, дзяўчыначка,
Як у качкі насок?
— Каля рэчкі хадзіла,
Жыравала пясок.

1285. Дзяўчыначка, го-го-го,
Любі мяне голаго.
Хоць кашулі не маю,
А жаніцца думаю.

1286. Ты каваль, ты каваль,
А я kavalёўна.
Ты не знаў, каго браў,
Што не твая роўня.

Ты не знаў, каго браў,
Што не ўмее жаці:
Будзе твая пшанічанька
У полі зімаваці.

1287. А ў гародзе авясец —
На сто рублёў каласец,
А вяночак па рублю,
Адхініся — не люблю.

1288. Сюды-туды вокам кіну:
Няма таго, за кім гіну.
А пры боку сядзіць згрэбла,
Што нікому не патрэбна.

1289. А не рушце мяне,
Не чапайце мяне:
Я на сына заступіла —
Паважайце мяне.

1290. Така, така мая доля,
Так я і рабіла:
Словам мужа шанавала,
А хлапцоў любіла.

1291. Сядзіць клоп на прыпечку,
Грае, рэжа ў скрыпачку.
А прусак на куце
На цымбалах сячэ.

1292. Я з-пад лесу, я з-пад гаю
Свайго мілага пазнаю:
Ногі доўгія, крывыя,
Порткі зрэбныя, рабыя.

1293. Хоць караляў поўна шыя,
А кашулі не пашые
І рубчыка не зарубіць,
Яе хлопец не палюбіць.
Як зарубіць — то не гладка,
Як надзене — глядзець гадка.

1294. Рос, рос, не дарос,
Маленькі жаніўся.
Лёг спаць на кравацъ —
З кравацi зваліўся.

1295. Ой, там на гарэ
Мужык жонкай арэ.
А другая падбягае:
— Запражы ж ты мяне!

1296. Пайду барыню скакаць,
Надзену балеткі.
Буду ножкі падымаць
Вышэй табурэткі.

1297. Чаму тады не гуляць,
Як новая скрыпка?
Рукі-ногі не баляць,
Сярэдзіна гібка.

1298. А на гарэ хвойка,
Схілілася голька.
Не пабачу міленькага,
Дак баліць галоўка.

1299. Ой, пінжак, мой пінжак,
Парваныя плечы.
Чым такая вечарынка,
Лепей спаць на печы.

1300. Рашчыніла кісель,
Кісель кісня, кісня.
А майго мілога
Ліха цісня, цісня.

1301. Вось цяпер, вось цяпер,
Вось нядаўненька
Цалаваў, мілаваў
Усё раннейка.

1302. Ці ты, мілка, забылася,
Як мы з табой любіліся?
Ці з урокаў табе стала,
Што любіць ты перастала?

1303. Падыду, падыду —
Па калені ў лебяду.
А дзе тая дзяўчыначка,
Што хароша на віду?

1304. Сякі-такі авясец —
Трэба яго жаці.
Сякі-такі мужычок —
Трэба паважаці.

1305. Бацька грае, сын басуе,
Дачка замуж галасуе.
Бацька жыта прадае,
Дачку замуж аддае.

1306. Не стой пад акном,
А ідзі у хату.
Будзем пячы пірагі —
Абліжаш лапату.

1307. Ад парога да парога
Чаравічкі папарола.
А ты, шэўчык, не гуляй,
Чаравічкі зашывай.

1308. Ой, Ванечка, Ванечка,
Мы з табою парачка.
Табе саха, барана,
Мне — чужая старана.
Ты будзеш касіць, араць,
А я буду панаваць.

1309. Гуляю, гуляю,
Нічога не маю:
Ні кашулькі, ні рубца,
А люблю я малайца.

1310. Хвартух дарагі,
Чырвоныя берагі.
На варотах павешу,
Усіх хлопцаў пацешу.

1311. А гуляй, Мацей,
Не жалей лапцей,
А мы былі на базары,
Лапці новы заказалі.

1312. Як была я малада,
Дык была я рэзва:
Наелася гарбуза —
Тры дні на печ лезла.

1313. Я на ганку стаю
І на Янку гляджу.
Ці ты Янка, ці не —
Спадабаўся ты мне.

1314. Не хадзі, міл, па балоце,
Па калена ўгразнеш.
Ці ты мяне верна любіш,
Ці ты мяне дражніш?

1315. Ой, выйду ў агарод
Ды йшчэ моцна крыкну:
— Не тут я радзілася,
Не скора прывыкну.

1316. Ой, цешча мая,—
Чатыры аборкі.
Хачу — дома заначую,
Хачу — у Хадоркі.

1317. Іграй, іграй, ігр易чу,
А я табе заплачу:
І курачку, й пеўня,
Каробачку пер'я.

1318. Ці я ў маці не дачка,
Ці я не дачушка?
Руса каса да паяса,
Чырвоная стужка.

14. Зак. 1070

1319. А ў гародзе ячмень родзе,
Да мяне Яўхімка ходзе.
Радзі, радзі, ячмень, гусцей,
Хадзі, хадзі, Яўхім, часцей.

1320. Свіння ў рэпу, свіння ў рэпу,
Парасяты ў моркву.
А музыка без'языка
Палез у каморку.

1321. Ты Пракоп, а я Мікіта,
Ты ад коп, а я ад жыта,
Ты адсюль, а я адгэтуль —
Не даруем шэльме гэтай.

1322. А на тым баку ракі
Поюць коней дварнякі.
Белагрывага каня
Поіць мілая мая.

1323. Ты не стой на гарэ
І не кліч ты мяне.
Лепей стань у лагу —
Я сама прыбягу.

1324. Які чорт музыкант,
Такое і гранне:
Завёў казу ў лазу
Да самага рання.

1325. Ў каго жыта не ўдалося —
Ў мяне ў трубы павілося.
Маё жыта дабро,
А ўлажы, божа, ядро.

1326. Адна была Палагея,
А другая — Тэкля.
Закілзалі Мікалая,
Паехалі ў пекла.

1327. Я падпіла, падгуляла,
Цяпер мяне знайце:
Чаравічкі я стаптала,
Мне другія дайце.

1328. Не вары кашу густую,
Вары жыдзенькую.
Не бяры жонку худую,
Бяры сыценькую.

1329. Хадзіў Зэлік па балоту,
Трасцу рабіў, не работу.
Сена касіў, жыта жаў,
Дзевак любіў, бабу ўзяў.

1330. Біце, біце у цымбалы —
Не зважайце, што я малы,
Дуйце, дуйце у жалейкі —
Не жалейце, што маленькі.

1331. Скачы, скачы, кульгавы,
Ад прыпечка да лавы,
Ад печы да саней —
А ўсё будзе весялей.

1332. Ці ведаеш, дзядзька,
Што дзяціна робіць?
Усе куры парэзала.
Адзін пятух ходзіць.

1333. А сонейка-сонейка,
Закаціся скоранька,
Закаціся за мяжу,
Я й вароты завяжу.

1334. У Мар'яны начаваў,
У Тацяны ўпіўся.
Праз аконца уцякаў —
Шапачку забыўся.

1335. Іграй, іграй, дудка,
Покуль табе жудка.
Як будзем жаніцца,
Будзем весяліцца.

1336. Любіў, любіў Аўдакім —
Дзяўчыначка хоць ты кінь.
Як стаў любіць Амялян —
На дзевачку хоць ты глянь.

1337. Годзе з мяне аздобачкі,
Годзе з мяне роста,
А пайду я утаплюся
З высокага моста.

1338. — Ой, Марына, Марына,
Што ты ўчора варыла?
— Заціраўку з кісяльком
І гуляла з Васільком.

1339. Вядзі мяне к дубу, дубу,
А я твая дзеўка буду.
Заві мяне паненкаю,
Паі мяне гарэлкаю.

1400. На вуліцы суха ліпа,
Пайду замуж за Піліпа.
Ужо ліпа зелянеіць,
Па Піліпу душа млеіць.

1401. Дай бог усяго,
Чаго хочацца:
Паспаць, паляжаць,
Паварочацца!

1402. А міленачык ты мой,
Маё ты аздоб'е:
Вочы рабы, як у жабы,
Галава, як доўбня.

1403. Каму гора, каму два,
А мне горачка няма.
Я прывыкла ў горы жыць,
Мяне гора весяліць.

1404. У балоце радзілася,
На купіне расла.
Не чытала, не пісала —
За пісара пайшла.

1405. Йдуць кароўкі з-пад дуброўкі,
Авечачкі з поля.
Плача маці па дзіцяці,
Што горкая доля.

1406. Хлопцы ўсе гуляць ідуць,
А мне нечага абуць:
Лапці новыя згарэлі,
І страхоўкі не даюць.

1407. Танцуй, танцуй, лапці мае,
За поясам яшчэ двое.
Бацька сядзіць на пліце,
Яшчэ болей напляце.

1408. Нашы хлопцы хварсуны,
На сямёх адны штаны.
Ў сваты сабіраюцца,
За штаны ругаюцца.

Нашы хлопцы гардадзеі,
Порткі сінія надзелі,
На каленях латы б'юцца —
Яны ў танцы валакуцца.

1409. Не пайду за Колю замуж,
А пайду за Васіля:
Ў Васіля сям'я малая —
Васемнаццатая я.

1410. У выстопцы была,
Калапенькі цёрла.
Як пачула, што прыйшоў,
Чуць я не памёрла.

1411. Я па верасу хадзіла,
Верас ногі завіваў.
Я багатага любіла,
Мяне бедны адбіваў.

1412. Ой, дзеўкі, бяда:
За каго я выйшла!
Ні каровы, ні каня —
Адна чупрына пышна.

1413. Ты не сватайся, Мікіта,
Я прасватана, прапіта.
Пад вянцом стаю і плачу,
За каго іду, не бачу.

1414. Так нікому не ўдалося,
Як мне, беднай сіраце:
З'ела рыбку-трапятушку —
Трапечацца ў жываце.

1415. Я па верасу хадзіла,
Верас — колкая трава.
Пакуль мілага не знала,
Як юргінінка цвіла.

1416. А мілёначак ты мой,
Русыя валоскі.
Чаго ж цябе чорт панёс
На чужыя вёскі?

1417. І вяселле ў нас,
І гулянне ў нас.
Мы схаваемся ў саломку,
Вы не знойдзеце нас.

1418. Ой, гуляйце, прыхаджане,
Гаршчок бульбы варыцца,
Калі бульбы будзе мала —
Паранкі дабавіцца.

1419. Хоць малая, удалая —
Кароткія ножкі.
Ці дала б каму праходу,
Каб выраслі рожкі?

1420. Не пайду я па саломе,
А пайду па коласе.
Пазнавай мяне, мой мілы,
Вечарам па голасе.

1421. Вазьму мылца, пайду мыцца
На шырокую раку.
Прыйдзець міленькі мірыцца,
Падам правую руку.

1422. Мне сягоння сон сасніўся:
Мілы з ложачка зваліўся.
Мусіць, варты ён таго,
Што чэрці скінулі яго.

1423. Ах ты, цешча мая,
Не хвалі сваёй дачкі:
Яе лытачкі, як нітачкі,
Сухія кумпячкі.

1424. Чым ты, мілы, задаешся,
Чым ты выхваляешся?
А як выйдзеш на вуліцу —
Ад ветру валяешся.

1425. А у Вільні хмары ходзяць,
А у Лідзе гром грыміць.
Маю мілку хлопцы любяць,
А мне сэрцайка баліць.

1426. А куды я заляцела,
Як чорная галка.
Нікому я не патрэбна,
Нікому не жалка.

1427. А ў Колі новы боты —
Шах-мах на сяло.
А ў Марусі чорны вочы —
Глядзь-міргнула на яго.

1428. З неба зорачка ўпала
І другая валіцца.
Не кідай мяне, мой мілы,
После будзеш каяцца.

1429. У мястэчку на базары
Хлопцы прадаюцца:
На капейку — сорак штук,
І то задаюцца.

1430. Любосць не навек —
Толькі дзеля жалі.
Ці не чэрці цябе
Ка мне прывязалі?

1431. Мароз трашчыць,
Вада коціцца.
Аж у сэрцы баліць —
Гуляць хочацца.

1432. Майго мілага здавалі,
Я стаяла за дзвярмі.
Кроў гарачая кіпела,
Аблівалася слязьмі.

1433. Верыцца не верыцца,
Што мой мілы жэніцца.
Жэніцца, вянчаіцца —
Уся любосць канчаіцца.

1434. А схадзіце, прывядзіце
Майго маладзенца.
Пасадзіце, прыхініце
Блізка майго сэрца.

1435. А што гэта за курчаткі:
Крупы сыплю — не ядуць,
А што гэта за дзяўчаткі:
У танец просяць — не ідуць.

А як добрыя курчаткі —
Дык і жыта ядуць,
А як добрыя дзяўчаткі —
Дык і самі ідуць.

1436. Я гуляла, я гуляла,
Мне гуляць хацелася,
Ажаніўся мой міленькі,
Дзе ахвота дзелася?

1437. Я гуляла, гапацела,
Гаварыла, з кім хацела.
Дала ручку цераз тын,
Гаварыла, ды не з тым.

1438. Каля рэчкі дзве парэчкі,
Каля возера адна.
Каля мілага дзяўчаткі,
А я бедная адна.

1439. Я надзену плацце бела
І пайду ў ім пад вянец.
Ссохну, звяну, як былінка,
І гульбе маёй канец.

1440. Дробны дождж ык ідзе,
Раса ападае.
Любіў мяне, маладую,
Цяпер пакідае.

1441. Вішанька высокая,
Лісцейка шырокае.
Ка мне мілы не прыходзіць —
Дарожка далёкая.

1442. Тонка яблынька высока,
Нельга яблычка сарваць.
Мой мілёначак далёка,
Галасочка не чуваць.

1443. — Падай, мамачка, пілу,
Я рабіначку спілю.
На рабіне жоўты ліст,
Мяне кінуў гарманіст.

1444. Дзяўчыначка бела-бела,
Дзе ты красачку падзела?
Спадабала малайца —
Спала красачка з ліца.

1445. На вуліцы скрыпкі йграюць,
Мяне маці не пускаець.
— Пусці, мамка, паглядзець,
Ці харошы маладзец.

1446. Я калінку ламала,
А калінка жарка.
Каго верна любіла,
Пакідаці жалка.

1447. Пела, пела і напела
На сваю галовачку:
На чатыры дзевяры,
На пятую заловачку.

1448. Ці не хлопцы йдуць,
Ці не кучары?
Гэта ж нашы свінапасы —
Нам здакучылі.

1449. Куды, вутачка, плывеш,
Куды, шэранькая?
Куды, мамка, аддаеш?
Буду бедненькая.

1450. Як пайду я ў гарод
Па сухія дроўцы.
Любіць мяне казачок,
Што чорныя броўцы.

1451. Памяту я сені, хату,
Сяду на парозе.
Усе хлопцы па дамах —
Мой мілы ў дарозе.

1452. Каля тыну, каля млыну
Чатыры бярозкі.
А мой мілы чарнабрывы,
Русыя валоскі.

1453. А ў мілога дом высокі,
Вокны кітаваныя.
Выйшаў міленькі на ганак —
Кудры завіваныя.

1454. А божа мой, што то ёсць:
Цябе любяць, а мне злосць?
Цябе любяць, абнімаюць,
Мяне слёзы залiваюць.

1455. На кале сядзіць варона,
Чорная загракала.
Я мілога праважала —
Усю дарожку плакала.

1456. Праважала я мілога
Да зялёненькіх рабін.
Абняла, пацалавала:
— Ідзі, міленькі, адзін.

1457. Мы сядзелі каля тыну,
Ты бажыўся: «Не пакіну».
Кляўся небам і зямлёй:
«Будзеш, мілачка, маёй»,

1458. Вясёлая старана,
Дзе сонейка ўсходзіць.
Яшчэ тая весялей,
Дзе мой мілы ходзіць.

1459. Чаравікі тупу, тупу,
Бацька кажыць: «Куплю, куплю».
Маці кажыць: «Не купляй,
Дачцэ волі не давай».

1460. Люблю таго, паважаю,
Хто, танцуючы, пяець.
Ненавіджу той зануды,
Хто, седзячы, абсмяець.

1461. Нашы хлопцы задаюцца,
Што умеюць танцаваць:
Ў адну ручку — качарэжку,
А ў другой штаны дзяржаць.

1462. Не судзіце, мужыкі,
Не судзіце, цёткі,
Беражыце языкі
Дочкам на падмёткі.

1463. Нам кадрылі надаелі,
Пойдзем полечку скакаць,
Нашы хлопцы пастарэлі,
Дзе нам новых пашукаць?

1464. Дайце тычку змераць рэчку —
Ці дастану ў рэчцы дна.
Дайце карты — пагадаю,
Ці я ў мілага адна.

1465. Я й калiначку ламала,
Перавесiлася.
Каго вельменька любiла —
Не нацешылася.

1466. Не стой, мiлы, пад акном,
Слёзкамi не лiся:
Яшчэ замуж не пайду,
А ты не жанiся.

1467. Паламалi мальцы ножкi,
Па гародах скачучы.
Забалелi ў iх вочкi,
Па дзевачках плачучы.

1468. Адчынiла б я ваконца,
Ды завесiкi скрыпяць.
Гаманiла б з табой, мiлы,
Ды бацькi мае не спяць.

1469. Хлопцы знаюць, хлопцы знаюць,
Знаюць, з кiм знаёмiцца:
У каго куры нясуцца
I карова доiцца.

1470. А мой тата паляўнiчы,
I забiў ён вераб'я:
Цэлы тыдзень елi мяса,
А за пер'е ўзяў рубля.

1471. На стале стаiць вазон —
Любiць палiваннейка.
Наша тайная любоў
Любiць цалаваннейка.

1472. Вецер вее, павявае,
Шыбачкi хiстаюцца.
Прыйдзе мiлы, пацалуе —
Губачкi злiпаюцца.

1473. Пела, пела я прыпевы,
Пакі голас не асеў,
Ныла, ныла маё сэрца,
Пакуль мілы не прысеў.

1474. Я па лесе песні пела,
Ішлі адгалосачкі.
Па мне мілы сохне, вяне,
Я па ім — ні трошачкі.

1475. Не стой, мілы, пад акном.
Не тапчы румянку.
Ідзі сядзь лепш за сталом,
Прасі маю мамку.

1476. У гародзе лебяда
Пазакручаная.
Не хадзіце да мяне —
Я заручаная.

1477. Вы не йдзіце, дзеўкі, замуж,
Замужам нявесела.
Адна дзеўка выйшла замуж —
Зыбачку павесіла.

1478. Ў садзе вішанькі гарацьдь —
Дзе чатыры, а дзе пяць.
Ўчора з мілым цалавалася —
Аж вусенькі баляць.

1479. Цераз рэчку пераедзем,
Беражком пайдзем пяшком.
Чужых дзевак абгаворым,
Сваіх замуж аддадзём,

1480. — Ой ты, мілы, ты, мой мілы,
І чаму ж ты не прыйшоў?
— Муха лямпу патушыла —
Чаравіка не знайшоў.

1481. Не лятай, галуб, па полі,
Ў нас галубачак даволі.
Прыляці, галуб, адзін —
Мы галубачку дадзім.

1482. На гары агонь гарыць,
А на другой жарка.
Адзін хлопец дзеўку любіць,
А другому жалка.

1483. На дварэ, стаіць бяроза,
Ад бярозы ў хаце цень.
Стаіць мілы ў парозе,
А я думала — галень.

1484. Рэжце, рэжце маё сэрца,
Выпівайце маю кроў,
Толькі з тым не разлучайце,
З кім заведзена любоў.

1485. Раней косы заплятала,
Зараз буду завіваць,
Раней мілага любіла,
Зараз буду забываць.

1486. А мой міленькі высокі —
Толькі вішанькі шчыпаць.
Яго вусенькі салодкі —
Толькі дзевак цалаваць.

1487. Мяне міленькі змяніў,
Думаў: загаруюся.
Я знайшла сабе другога,
Што й не налюбуюся.

1488. Чабарок, чабарок,
Пахнючая кветачка.
Не гуляй, дачушка, позна,
Бо ты малалетачка.

1489. Як на вуліцу гуляць —
Ручкі-ножкі не баляць.
Я тая работніца,
Што гуляць ахвотніца.

1490. Ой, баліць жа мне галоўка,
Баліць не памалу.
Упусціла я мілога,
Цяпер не спаймаю.

1491. Каля лесу, каля млыну
Шэры гусі паплылі.
Са мной мілы не гаворыць —
Верна, людзі напялі.

1492. Вецер вее, павявае,
Я на ганачку стаю.
Пацалую не чужую,
А каханачку сваю.

1493. Я пяю, я пяю,
Вы не памагаеце.
Я па міламу скучаю,
Вы не разважаеце.

1494. Гады мае маладыя
Марна прападаюць:
Вочы кары, бровы чорны
Ад слёзак ліняюць.

1495. — Чаму ўчора ты не быў?
— Недзе шапачку згубіў.
— А ты б дзедаву надзеў,
Дзед на печы б пасядзеў.

1496. Не судзіце, бабы, дзевак —
Узрасціце сваіх дзетак.
Узрасціце, паглядзіце,
Тады дзевачак судзіце.

1497. А я свайму Мішаньку
Вышыю манішаньку.
Унізочку выстрачу,
Мішаньку любіць хачу.

1498. Нешта дзверы заскрыпелі,
Клямачка заляпала.
Усе дзевачкі запелі,
Адна я заплакала.

1499. Гарманіст, гарманіст,
Рубашка у клеткі.
Аддала мяне маць
На чужыя дзеткі.

1500. Гарманіст, гарманіст,
Малінавы шчочкі.
З-за цябе я, гарманіст,
Недаспала ночкі.

1501. Гарманіст, гарманіст,
Рубашка зялёная,
Чаму ў цябе, гарманіст,
Хата развярнёная?

1502. Па балоце я ішла,
А балото месіцца.
Палюбіла Васіля,
А Іван павесіцца.

1503. Я сядзела пад акном,
Ела кашу з малаком.
Як сказалі: «Сваты едуць!»
Я па кашы кулаком.

1504. Ох ты, міленькі мой,
Як табе не стыдна:
За тваім гарбатым носам
Нічога не відна.

15. Зак. 1070

Ох ты, міленькі мой,
Я цябе пацешу:
Куплю скрыпку, барабан,
На шыю павешу.

1505. Купіў боты за тры злоты,
За рубель галёшы.
Ліхо матары тваёй,
Які ты харошы!

1506. Кавалер, кавалер,
Каб ты праваліўся:
Адзін вечар пасядзеў,
А ўсім пахваліўся.

1507. А у Колевай гармоні
Планкі пазалочаны.
Не любіце, дзеўкі, Колю:
Коля развалочаны.

1508. Балалаечка іграець,
Балалаечка бубніць.
Як жа мне не весяліцца:
Кінуў міленькі любіць.

1509. Я пад горкай жыта жала,
А на горачцы туман.
Не хадзі ка мне, мой мілы,
Мне галоўкі не туманъ.

1510. Рута-мята ўся памята —
Не табе па ей хадзіць.
Я дзяўчына маладая —
Не табе мяне любіць.

1511. А мілёначак ты мой,
Не быць разам нам з табой:
Цябе лаюць, мяне б'юць,
Нам любіцца не даюць.

1512. Не хадзі ты за мной,
Мой ты даражэнькі:
Ты гарбаты і лупаты,
Крывыя каленкі.

1513. Куплю сабе чаравічкі
На рызінавым ходу,
Каб не чула мая мамка,
Як з вячорачак іду.

1514. Куплю пулю, куплю пулю,
Куплю пулю медную,
Застралю свайго мілога
За любоў няверную.

1515. Я надзену бела плацце,
Пайду стану пад вянец.
Ўсе падружачкі гавораць:
Красаце маёй канец.

1516. Не стой, мілы, пад акном,
Не тароўкайся.
Прыйдзі ў хату, знімі шапку,
Паздароўкайся.

1517. Ка мне мілы прыхадзіў,
Жбанок мёду прынасіў.
Мяне дома не застаў —
Жбанок мёду расхвастаў.

1518. На суку сядзіць зязюлька,
Кукуець з перабоямі.
Сваіх хлопцаў мы не любім,
Лічым пераборамі.

1519. Ах, вочкі мае,
Што рабіць мне з вамі?
Як убачыце вы хлопцаў —
Міргаеце самі.

1520. Я надзену бела плацце
І выйду на вулачку:
Мой мілёнак, як дзіцёнак,
Качаіць качулачку.

1521. Руту-мяту пакашу,
Вярхі пасцінаю.
Сястру замуж аддаю,
За ёй пагуляю.

1522. Не цалуй мяне, мілёнак,
Я не пацаловачка.
Была гарачая любоў,
Цяпер — астановачка.

1523. Сонца свеціць у акно
На маю работу.
Сёння мілы не прыйшоў,
Прыйдзе ў суботу.

Сонца свеціць у акно
На маю пасцельку.
Сёння мілы не прыйшоў,
Прыйдзе ў нядзельку.

1524. Не стой, мілы, пад акном,
Зайдзі, мілы, ў сенцы.
А я табе раскажу,
Што на маім сэрцы.

1525. Музыканцік, музыканцік,
Рубашка малінава.
Праз цябе, мой музыканцік,
Работка не мілая.

1526. Не дай бог, не дай бог
Са старым займацца:
Па калені барада —
Лезе цалавацца.

1527. — Стары, стары, гані валы! —
Стары захрыпаўся.
— Стары, стары, да краваці! —
Стары засмяяўся.

1528. Што за куры, што за куры
Пад вокнамі топчацца.
Што за хлопцы, што за хлопцы —
За пасагам гоняцца.

1529. Сыры дровы, горкі дым,
Любілася б — няма з кім.
Сыры дровы не гарэць,
Каго люблю — не відаць.

1530. Сіне неба, сіне неба,
А зямля не сіняя.
Любі, мілы, каго хочаш,
Калі я не мілая.

1531. Гаварыла я міламу:
— Не з багатага я дому.
— Мілка, ягадка мая,
Не гляджу на гэта я.

1532. Не касілка траву косіць,
Косіць вострая каса.
Не работа мяне сушыць,
Сушыць мілая-краса.

1533. А ў садочку кусцік мяты —
Па лісточку буду рваць.
А мой міленькі ў салдатах —
Па дзянёчку буду ждаць.

1534. А чый гэта дом —
Кругом занавескі?
Цераз год, цераз два
Прыйду у нявесткі.

1535. Як у вас, так і ў нас:
Сярод хаты ямка.
Дзед бабу цалаваў,
Аж губамі плямкаў.

1536. Суха сена, суха сена,
Перацёрлась на муку.
Прыйдзе мілы, перапросе,
Пацалуе у руку.

1537. Сенажатку мы касілі,
Пойдзем перакашываць.
Вы не майце, дзеўкі, моды
Хлопцаў перапрашываць.

1538. Мой міленак тонкі, доўгі,
Аж ад ветру гнецца.
Паганю на канюшыну —
Няхай адпасецца.

1539. На цярэшаньцы сядзела,
Мяне вецер калыхаў.
Я з цярэшанькі упала,
Мяне мілы падымаў.

1540. — Дзяўчыначка мая міла,
Чым ты набялілася?
— Я кароўкі падаіла,
Малаком памылася.

1541. Мая міла недалёка —
За канаваю жыве.
Захацела пакатацца —
Села ў рэшата, плыве.

1542. Каблук топ, штаны лоп,
Гузік адарваўся.
Ой, чаго ж ты, стары чорт,
Ка мне прывязаўся?

1543. Гарманістага любіла,
Блізенько садзілася.
Гарманістага ўхажорка
На мяне сярдзілася.

Гарманісты, гарманісты,
Рубаха малінава.
Праз цябе, мой гарманісты,
Мілага пакінула.

1544. Шыла кофту, шыла кофту,
Шыла з адваротамі.
Усю ночку прасядзела
З мілым пад варотамі.

1545. Я сядзела на пасцелі,
Вышывала платок белы.
Вышывала кончыкі —
Міламу паклончыкі.

1546. Белая бярозачка
Харашо сагнулася.
Недзе мілы памінае —
Лёгенька ікнулася.

1547. Палюбіла троечку:
Колю, Ваню, Толечку.
Колю — рана, Ваню — днём,
Толю — вечарам з агнём.

1548. Свеце сонца у аконца
На маю пасцелечку.
Мілы пісьмы прысылае
Кожную нядзелечку.

1549. На балоце журавіны,
Ка мне хлопцы прыхадзілі.
Мяне дома не найшлі,
Заплакалі і пайшлі.

1550. А мой мілы бокам, бокам —
Думаіць, яго люблю.
Я такога ухажора
На шуметніку знайду.

1551. Я ў нядзелю выйшла замуж,
У сераду заплакала.
Сваю бедную галоўку
Навек загайдакала.

1552. Дзевачкі — ня трэсачкі,
Па полі не валяецца.
Ад семнаццаці гадоў
Хлопчыкі ганяюцца.

1553. А хто полечку танцуе,
Той багата не жыве,
А паследнюю карову
На бацінкі прадае.

1554. Задавала, задавала,
Ты мне зненавідзела.
Я такога задавалу
На базары відзела.

1555. Я надзену бела плацце —
Паласа ў паласу.
Як падыдзе мой міленькі —
Я качалкай па насу.

1556. Эх, топнула я
Ды прытопнула я.
З'ела цэлага быка,
Ды не лопнула я.

1557. Як рабіць — не прыбіць,
І жаць — не цягнецца.
Як угледзіць кавалера —
Мала не праб'ецца.

1558. Мілы боцікі ваксуе,
У сваты сабіраецца.
Я гуляю, не ўнываю —
Няхай забываецца.

Мілы ў сваты ад'язджае,
А я лейцы падаю.
Мілы слёзы праліваe,
А я песенькі пяю.

1559. Я па кладачцы ішла —
Бацінaчкі ляпалі.
Мяне замуж аддавалі —
Ухажоры плакалі.

1560. Наша вуліца шырока,
Сярод яе возера.
Я мілога праважала —
Ножкі памарозіла.

1561. Колькі жыта я ні жала —
Снапкоў не вязала.
Колькі хлопцаў ні любіла —
Праўды не казала.

1562. Што ты, міленькі, фарсіш?
Я цалую, а ты спіш.
Твае губкі, як мядок,
Сам халодны, як лядок.

1563. Гарманісцік, весялей,
Нашых ножак не жалей.
Нашы ножкі не баляць,
Яны хочуць пагуляць.

1564. Чорных вішань, чорных вішань
Поўная бутылачка.
За другога замуж выйшла
Мая чарнабрывачка.

1565. Мілы мой, твая рабіна —
Ты яе агарадзі,
Калі я твая дзяўчына —
То дадому давядзі.

1566. Па балоце бусел ходзіць —
Чырвоная дзюбачка.
Прыйдзе мілы, пацалуе,
Скажа: «Мая любачка».

1567. Праз дварочак — ручаёчак,
Я думала, што рака.
Я няславачку цярпела
Праз такога дурака.

1568. Каб я знала — не ламала
Чорную смародзіну.
Каб я знала — не любіла б
Чортаву піародзіну.

1569. А ў Слуцку на базары
Прадаюць мужчын вазамі.
Адна баба ўсіх любіла —
За капейку сем купіла.

1570. Каля лесу я хадзіла,
Каля лесу боязна.
Каля лесу ажыдала
Міленькага з поезда.

1571. Каб ты, міленькі, ссінеў,
Як асіна сіняя.
Я іду, а ты гаворыш,
Што я некрасівая.

1572. Мая мілка — чарнабрыўка
І кірпаценькі насок.
Прыхініся, прыгарніся —
Пацалуемся разок.

1573. Куды вецер ні павеіць —
Туды гнецца ўся трава.
Куды вочкамі ні кіну —
Нідзе мілага няма.

1574. Кума, сып, што варыла,
Абы добра гаварыла.
Кума, топні, кума, сядзь,
Кума, дзела не падгадзь.

1575. Не сватай, Валодзенька,
Пагуляй на вуліцы.
Шчэ пярына не гатова,
Шчэ пяро на курыцы.

Не сватай, Валодзенька,
Я яшчэ малодзенька,
Пачакай, як падрасту,
Да цябе сама прыйду.

1576. Мілы кура папяросы,
На мяне пускае дым.
Сам гуляе, з кім захоча,
А мне кажа, каб ні з кім.

1577. Ой, падружачкі чатыры,
Дзе ж вы дзелі пятую?
Аддалі далёка замуж
За любоў праклятую.

1578. Мая мамачка Алена
Мяне маленька жалела:
На работу не вяла,
Рана замуж аддала.

1579. Люблю тое жыта жаць,
Што буйныя каласы.
Люблю таго кавалера,
Што русыя валасы.

1580. Не стой, Ваня, пад акном,
Ды йдзі, Ваня, ў хату.
Пастановім самавар,
Будзем піць гарбату.

1581. У гародзе качанок
Зімы не баіцца.
Праз чужыя языкі
Кідаеш любіцца.

1582. Мая мята кудравата,
Каранёчак сіненькі.
Хоць мой мілы не багаты,
Дык ліцом красівенькі.

1583. Ішлі дзеўкі з вечарынкі
І злавілі жорава.
Ўсю нядзелю яго елі —
І скакалі ж здорава!

1584. Наша рэчанька глыбока —
Лентачкай не змераеш.
А мой міленькі далёка —
Вачарком не збегаеш.

1585. Загарэлася салома —
Толькі жухае агонь.
Захацела дзеўка замуж —
Толькі тупае нагой.

1586. Ой, які табе чорт здаўся,
Што ты мяне адчураўся?
Папаходзіш, папанудзіш —
Усё роўна любіць будзеш.

1587. Сядзіць голуб на дубочку,
Салавей — на ветцы.
Адну дзевачку люблю,
Другая на прыметцы.

1588. Добра тое жыта жаць,
Каторае гнецца.
Добра дзевачку любіць,
Катора хінецца.

1589. Юзя, Юзя, Юзенька,
Твая паходка вузенька.
Праз паходку вузеньку
Палюбіў я Юзеньку.

1590. Сыры авёс, сыры авёс —
Не малоціцца.
Пастарэлі нашы дзеўкі —
Аж калоцяцца.

Сыры авёс, сыры авёс —
Ды не мелецца.
Пастарэлі нашы хлопцы,
Ды не жэняцца.

1591. Жыта ў мех, жыта ў мех,
У аруд мякіну.
Праз чужыя языкі
Любіць не пакіну.

1592. З неба зорачка упала,
Над вадой разбілася.
Маладая дзяўчыначка
У мяне ўлюбілася.

1593. Коля, Коля дровы коле,
Коля ў клетачку кладзе.
Коля дзеўку пацалуе —
Дзеўка ходырам ідзе.

1594. Мая мілачка фарсіла,
Губкі мёдам мазала.
Ды сама ка мне хадзіла,
Пад вароты лазіла.

1595. У гародзе пад акном
Вырасла пятрушка.
Мяне хлопцы палюбілі,
Што я шчабятушка.

1596. А за лесам, за лясом,
Плача дзеўка галасом.
Яна плача і равець —
Ніхто замуж не бярэць.

1597. Каціліся з гары колы,
Ды усё з вераўкамі.
Такі-сякі, абы-які —
І той за дзяўкамі.

1598. На лямсаначцы лямсу
І у столь усё гляджу.
Як не прыйдзе мой міленькі —
Разрыў сэрца палучу.

1599. Ой, я пела, прыпявала,
Прыпяваць хацелася.
А цяпер сама не знаю,
Дзе ахвота дзелася.

1600. Ой, сонейка, сонейка,
Закаціся скоранька.
Маё сэрца забалела:
Даўно з міленькім сядзела.

1601. Ты, сяброўка дарагая,
Пойдзем падабедаем.
Аднаго мілёнка любім —
Пойдзем пераведаем.

1602. Вецер вее, вецер вее,
Я кажу: «Яшчэ павей».
Як я выйду за вароты,
Запяю, як салавей.

1603. Музыканцік, музыканцік,
Рубашка у палачкі.
Праз цябе я, музыканцік,
Асталася ў мамачкі.

1604. Не дай божа з такім лёсам —
Любіць хлопца з доўгім носам:
Каб яго пацалаваць,
Трэба нос адпілаваць.

1605. Міль мой, ідзі гарой,
А я пайду даліначкай.
Мілы мой, махні рукой,
А я белай касыначкай.

1606. Ў гэтай хаце я гуляю,
Ў гэтай хаце буду жыць:
Усе прыкметы замячаю,
Каб свякроўцы дагадзіць.

1607. А мамачка, гора, гора,
Я не відзела Рыгора.
Як увідзела Рыгора,
Маё сэрца аж гавора.

1608. Міленькі, каханенькі,
Не напівайся п'яненькі.
Ты нап'ешся з ног далоў —
З кім жа я пайду дамоў?

1609. Божа, божа, божа мой,
Хто прыгожы, дык не мой,
А хто брыдкі, абшарпаны —
Дастанецца мне да пары.

1610. Я прыйшла к мілому ў хату —
Ўся сям'я абедае.
А свякроўка, як чартоўка,
З палонікам бегае.

1611. Ой, слонейка, слонейка,
Закаціся скоранька
За чорную хмарачку —
Злучы нас у парачку.

1612. Ужо сонца не заходзе,
Мілы мой па садзе ходзя,
З хлопцамі вітаецца,
Пра мяне пытаецца.

1613. Не хадзіце, дзеўкі, замуж,
Я ўжо замужам была:
Тры нядзелі з палавінай
Свякроў есці не дала.

1614. Я стаяла пад яворам,
Людзі кажуць, што з Лявонам.
Я стаяла з родным братам,
Людзі кажуць, што з салдатам.

1615. — А мамачка, што такое,
Што пад акном стаіць трое?
— Гэта, дачанька, не дзіва:
Я й па пяцера вадзіла.

1616. Мілая, харошая,
Не хадзі ты босая,
Босая прастудзішся,
На мяне забудзешся.

1617. Ах ты, мілачка мая,
Чым ты бровы падвяла?
Ці чарнілам, ці пяром,
Ці у сажы памялом?

1618. Я надзену бела плацце —
Клетачка на клетачку,
Мяне мілы пакідае,
Як у полі ветачку.

1619. Шла я лесам і адкосам,
Стаяў мілы з доўгім носам.
Ён хацеў пацалаваць —
Не мог носа скіраваць.

1620. Не дай бог, не дай бог
Аднаго любіць удвох.
Адна любіць, кахаецца,
Другая слязьмі ўмываецца.

1621. Ой, Ганно, хадзем
Валам сена даймо.
Пака валы пад'ядуць —
То мы пагуляймо.

1622. Разрашэце пагуляць,
Разрашэце топнуць,
Хай у нашага Івана
Падваліны лопнуць.

1623. Ой, купіў сабе штаны,
Не дам ніяк рады:
Я зашыю спераду,
Яны рвуцца ззаду.

1624. Я па мосціку хадзіла,
Па масту дзіраваму.
Я не буду падчыняцца
Свайму кучараваму.

1625. Дзе кусточак — там лісточак,
Дзе крыніца — там вада.
Знаю, знаю, дзе мой мілы,
Ды не знаю, дзе судзьба.

1626. Коля, Коля, гані ў поле —
Коля не абуваўся.
Коля, Коля, йдзі да дзевак —
Коля засмяяўся.

1627. А нашыя дзевачкі
Толькі на прыпевачкі.
Сена грэбці — не хачу,
Бо я ножкі памачу.

1628. Несла воду ля гароду,
Папрасіў мой мілы піць.
Маё сэрца забалела,
Не магла з ім гаварыць.

1629. Як Марусі на работу —
Маруся не хоча,
Як Марусю за бачок —
Маруся рагоча.

1630. Пагарэлі хамуты,
Хай гараць і лямцы.
Як такі з цябе танцор —
Лепш сядзець на лаўцы.

1631. Ой, хто ж там ідзе?
То, напэўна, нашы:
У твайго пуза — ў зацірцы,
У майго — ў прастаквашы.

1632. Ой ты, мілая мая,
Каб цябе халерыя!
Колькі мыла ні купляў —
А ты ўсё карэлая.

1633. Усе дзяўчаты, як дзяўчаты,
А мая — як рэзгіны:
Ўсе спраўляюць вечарынкі,
А мая дык хрэсьбіны!

1634. На двары стаіць калодзеж,
Там вялікі вадапой.
Маю мілку едуць сватаць,
Я паеду ўперабой.

1635. Не забуду я ракі,
Не забуду возера,
Не забуду ж і таго,
Што зімой марозіла.

1636. Гарыць бор, гарыць бор,
Гарыць і сасонка.
А хто ж мяне пацалуе —
Таму буду жонка.

1637. А ці ж я не гаспадыня,
Ці ж я не хазяйка:
Тры дні ў печы не паліла,
А на печы жарка.

1638. Жыта маё ядранае
Сыпалася з меха.
Жонка мая маладая —
Бярэ мяне ўцеха.

1639. Тут і я, тут і я,
Тут і жонка мая,
Тут і мае дзеці —
Люба паглядзеці.

1640. Пайду я ў касцёл
У святу нядзельку:
Гляну раз — на абраз,
Сем разоў — на дзеўку.

1641. Я пяяла і пяяла
Мілыя прыпевачкі,
А цяпер мне не да песень:
Кідае міленечкі.

1642. Балалаечка гудзіць —
Пайду мілага будзіць.
Хоць яго не пабуджу —
На соннага пагляджу.

1643. А божа мой літасціва,
Які хлопец непачціва:
І бажыцца, і клянецца,
Адыдзецца і смяецца.

1644. Не глядзіце на дзяўчат,
Што ў дзяўчат за брошкі,
А вазьміце паглядзіце,
Ці памыты ножкі.

1645. На вуліцы явар, явар,
Пад яварам вішні.
Ідуць хлопцы і маргуюць,
Каб дзяўчаты выйшлі.

1646. Музыканцік маленечкі
Пабіў сабе каленечкі,
А дзяўчаты маліліся,
Каб скарэй загаіліся.

1647. Я не п'яна, я не п'яна,
Я не напівалася.
Я у мамачкі сваёй
Вясёлая ўдалася.

1648. Нехта йдзе, нехта йдзе,
Расхінуўшы полы.
Гэта нашы кавалеры —
На чужыя сёлы.

1649. Не капай, тата, карэнне,
Не сушы зялёны сад.
Мне замужжа не ўдалося —
Вярні, татачка, назад.

1650. Села баба на курыцу,
Выехала на вуліцу.
А мужчыны не пазналі —
Усе шапкі паздымалі.

1651. Спелая сунічанька
З-пад гары каціласся.
Наўпроць восені й зімы
З мілым разлучылася.

1652. Знасіў боты за два злоты,
Да дзяўчыны ходзячы.
Знасіў шапку на дзесятку,
У парозе стоячы.

1653. А я польку танцавала,
А мне полька шанцавала.
Перастала танцаваць —
Перастала шанцаваць.

1654. Цячэ ў лузе рэчачка,
Цераз рэчку жэрдачка.
Як я мілага успомню —
Баліць маё сэрдачка.

# МУЗЫЧНАЯ ЧАСТКА

Прыпеўка — перш за ўсё песня, і іменна музыка ахоўвае адзінства яе рытмічнага рысунка, рэгулюе колькасць складоў у вершах, якія вар'іруюцца разнастайна. Без музыкі немагчыма высветліць уласцівыя прыпеўкам структурныя працяглсці складоў, унутрывершавыя паўзы, немагчыма вытлумачыць іх з'яўленне. У аснове метрыкі верша прыпеўкі — сінтаксічныя стопы, г. зн. часткі верша, якія адпавядаюць музычным тэкстам напеву і роўныя між сабою па часе працягласці. Такіх стоп у любой чатырохрадковай прыпеўцы дзве. Прытым, калі ў чатырох вершах прыпеўкі трыццаць два склады, то кожны склад прыпадае на адзін гук мелодыі; калі ж складоў менш, то той ці іншы склад можа падаўжацца пры спяванні на адну адзінку часу. Такім чынам, пры любым метры прыпеўкі яе рытмічны рысунак застаецца роўным трыццаці дзвюм адзінкам рытму.

Выкананне прыпевак найчасцей суправаджаецца ігрой на музычных інструментах: гармоніку, балалайцы і інш. У гэтым сэнсе музыканты справядліва называюць прыпеўку жанрам вакальна-інструментальным. Выкананне прыпевак уяўляе сабой нярэдка свайго роду спаборніцтва, славесную імправізацыю выканаўцы. У гэтым спаборніцтве гарманіст таксама не застаецца пасіўным удзельнікам, на кожную прыпеўку ён адказвае новым каленам сваіх вынаходлівых найгрышаў. Належыць зазначыць, што пры гэтым гарманіст або балалаечнік ніколі слепа не капіруе мелодыю прыпеўкі, а абавязкова развівае яе, вар'іруючы асноўны матыў.

Разнастайнасць і варыянтнасць напеваў прыпеўкі, імправізацыйнасць, часта віртуозная вынаходлівасць інструментальнага суправаджэння заслугоўваюць сур'ёзных адносін музыкантаў.

На тэрыторыі Беларусі бытуюць і рускія частушкі, напрыклад страданні, ялецкія, саратаўскія, барыня і інш. Ступень пашыранасці названых напеваў не аднолькавая. У адных вёсках бытуюць напевы ялецкія, саратаўскія, а ў другіх — не. У

працэсе бытавання гэтыя напевы зазнаюць некаторую меладычную апрацоўку, набываюць мясцовы каларыт. Тут, відаць, дзейнічае ўплыў старой выканальніцкай традыцыі. Многія напевы істотна адрозніваюцца ад рускіх. Гэта адрозненне выяўляецца ў характары выканання прыпевак, якія спяваюцца двухгалосным хуткім рэчытатывам, адкрытым голасам, што надае мелодыі большую гучнасць. Апрача таго, нацыянальны каларыт напеваў акрэслівае своеасаблівая арнаментоўка, якая выяўляецца або ў далучэнні да напеву спецыфічнага прыпеву, або ў своеасаблівым падключэнні да напеву другога голасу або хору. У іншых выпадках беларуская прыпеўка — вынік развіцця ўласных фальклорных традыцый. Яе змест складаюць асаблівасці жыцця, быту і мыслення беларусаў.

Характэрнай асаблівасцю прыпеўкі з'яўляецца незамацаванасць тэксту за пэўнай мелодыяй (адасобленасць напеву і тэксту). Адзін і той жа тэкст спяваецца ў розных мясцовасцях на розныя напевы, часам нязначна відазмяняючыся. І наадварот, на асобныя прыпеўкавыя мелодыі спяваюцца дзесяткі розных па змесце тэкстаў. Але разам з гэтым існуе нямала даволі ўстойлівых груп тэкстаў пры ўстойлівых напевах, як, напрыклад, Сямёнаўна, цыганачка, падгорная, лявоніха, барыня, камарынская і інш., якія не выкарыстоўваюцца для іншых напеваў.

Прыпеўкавая форма, вядомая пад назвай «страданні», часта сустракаецца ў Паволжы і сярэдняй паласе Расіі, але з'яўляецца выключэннем як на поўначы Расіі, так і ў Беларусі.

Непарушны прынцып комплекснага даследавання прыпевак (якія існуюць і ствараюцца толькі ў адзінстве з іх мелодыяй), як вакальнай партыі, так і інструментальнага суправаджэння.

Запіс і вывучэнне мелодый прыпевак, як рускіх, так і беларускіх, пачаліся позна, у канцы XIX—пачатку XX ст. Супрацоўнік В. В. Андрэева і ўдзельнік яго славутага балалаечнага аркестра Б. П. Бабкін у артыкуле «Балалайка», змешчаным у часопісе «Русская беседа» (№ 3 за 1896 г.), пісаў, як выдатны музыкант пры дапамозе балалайкі вяртаў народу яго цудоўныя лірычныя песні, якія былі выцеснены «частушкай пад акампанемент двухраднага гармоніка...»

Многія прыпеўкавыя мелодыі маюць выразна дэкламацыйны, рэчытатыўны склад. Гэта звязана з манерай выканання гэтых песенек, у якіх дамінуе славесна-дэкламацыйны склад. Дэкламацыйная аснова часта выступае і ў меладычна даволі развітых напевах, выяўляючы сябе нібы «гаворкай», у своеасаблівай традыцыі рэчытатыўнага «казання». Збіраль-

нікі песень назіралі, што прынцып рэчытатыўнага «казання» частушкі пераважае над песенным інтанаваннем. Э. Зяленскі падкрэсліваў, што руская пскоўская частушка «не столькі спяваецца, колькі выкрыкваецца нараспеў», таму аб ёй можна гаварыць «як аб народным музычным рэчытатыве» *. Такія напевы з'яўляюцца выразна рытмізаванымі скорагаворкамі (у межах секунды або тэрцыі).

Рэчытатыўнае «казанне» было звязана з пошукамі новых мастацкіх вобразаў, адпаведных вострапубліцыстычнаму зместу прыпевак. Гэта спрыяла масаваму пашырэнню напеваў найпрасцейшага меладычнага складу, рытмічна дакладных, лаканічных, якія лёгка запамінаюцца, зручных для славесных імправізацый.

Нягледзячы на тое, што ў многіх мясцовасцях прынцып рэчытатыўнага «казання» прыпевак відавочна атрымаў перавагу над песенным інтанаваннем, нельга адмовіцца ад музычнага боку прыпевак.

Ладавы склад прыпевак у параўнанні з традыцыйнай народнай песняй мае значна меншую разнастайнасць — выключна пераважаюць мажор і мінор. Рытмічны склад характарызуецца выразнай тактавасцю, найчасцей ужываюцца двухдольныя, радзей трохдольныя такты з памерамі 2/4, 4/4, 3/4, 6/8. Несіметрычныя памеры сустракаюцца вельмі рэдка — 5/4 у двух прыкладах.

Паводле рытмічнага складу напевы многіх прыпевак роднасныя традыцыйным танцавальным. У будове напеву пераважае строгая сіметрычнасць, звязаная з падзелам мелодыі на два прапарцыянальна падобныя сказы. Многія прыпеўкавыя напевы з нешырокім меладычным дыяпазонам (не выходзяць за межы квінты, кварты, нават тэрцыі), некаторыя ўяўляюць сабою рытмаваную скорагаворку (у межах секунды або тэрцыі), у іншых выпадках прасцейшыя прыпеўкавыя мелодыі адпавядаюць шматразоваму паўтору кароткага сказа — «аднарадковая» песенная форма (А, А, А, А...). Больш меладычна развітым прыпеўкам уласціва страфічная форма (з двух меладычна падобных сказаў, у якіх розныя толькі канчаткі). Часам прыпеўкавая страфа складаецца з чатырох невялічкіх меладычных сказаў — чатырох рыфмаваных вершаў. Сустракаецца папарнае злучэнне двух рознахарактарных напеваў, якія выконваюцца ў дыялогу па чарзе двума выканаўцамі (А—Б) з прамежкавымі інструментальнымі (В) эпізодамі (В-АБ-$В_1$-АБ-$В_2$ і г. д.).

* Зеленский Э. Я. Что поет современная деревня. Псков, 1912. С. 4.

Многія прыпеўкі выконваюцца ў формах танцавальных: лявоніхі, камарынскай, каламыек, барыні, Сямёнаўны і інш.

Аналізуючы суадносіны напеваў і тэкстаў, можна заўважыць рытмічную супадпарадкаванасць іх і надзвычай гнуткае вар'іраванне напеву ў залежнасці ад зместу тэксту, сістэмы акцэнтаваных складоў, характару вакальнага выканання, спецыфікі акампануючага інструмента і цэлага шэрага іншых кампанентаў жывога выканання. Усё гэта вымагае даследавання на вялікай колькасці музычнага матэрыялу.

Чакаюць вырашэння і чыста музычна-тэарэтычныя пытанні, якія патрабуюць вялікай колькасці музычных публікацый навуковага характару: варыянтнасць напеваў, інтанацыйны лад, сувязь напеву з суправаджэннем, структура музычнай формы, сувязь прыпевак з мелодыямі іншых музычных жанраў і інш.

*Л. М. ФЕДАРАЎ*

I

Жвава







2

Жвава







3

Жвава






Жвава 4

I.Там на рэ_ чцы, там на до_ шча_ цы,

там дзяў_ ча_ та ўсё па_ ло_ шчу_ цца,

па_ ло_ шчу_ цца, у_ мы_ ва_ ю_ цца,

ў ча_ ра_ ві_ чкі а_ бу_ ва_ ю_ цца.

Жвава.Круцёлка 5

I. Я ж я_ му да ка_ шу_ лю шы_ ю,
2. Я ж я_ му ды бя_ ле_ нькy_ ю,
3. А ба_ дай жа ж ты да кашу_лі не зна_сіў,

ён мя_ не ку_ ла_ ком у шы_ ю.
ён мя_ не ма_ ла_дзень_ ку_ ю.
як ты мя_ не ма_ ла_ ду_ ю пры_глу_шыў.

Жвава.Казак 6

I.Да ты це_ шча,ты це_ шча ма_ я,
2.Не со_ ле_ на да не ква_ ша_ на,

да не со_ ле_ на ка_ пу_ ста тва_ я!
ні_ чым я_ на не за_ кра_ ша_ на.

7

Жвава

1. Ой, ці праў- да, ці не праў- да бы- ла,
2. А ку- ра- чка па- ку- да- кты- ва- ла,

што ку- ра- чка па- ра-сят-каў на- вя- ла.
дзяў- чы- на- нька да па-спра- ты- ва- ла.

8

Ба- ліць ма- я га- ло- вань- ка
з ран-ку да з ве- чо- ра, не ба- чы- ла
мі-лень- ка- га ні сён - ня, ні ўчо- ра.

9

Гу- ляй, гу- ляй, дзяў- чы- нень- ка,
ця- пер ма- еш во- лю, не пас- пе- еш
ты гу- ля- ці, як бу- дзеш за мно- ю.

IO

Ой, ка_ за_ лі, га_ ва_ ры_ лі,

што Та_ ця_ на ўмер_ ла, а Та_ ця_ на

на пя_ чы ко_ ка_ шы за_ дзе_ рла.

II

Ой, лю_ ле_ чка пень_ ка_ ва_ я,

ўчо_ ра ку_ ры_ ла_ ся, па_ ла_ жыў я

на па_ лі_ цу, упа_ ла, па_ бі_ ла_ ся.

I2

Дзяў_ чы_ нань_ ка кра_ сна,

дзе ты ва_ лы па_ сла? Пад дуб_ ка_ мі

з па_раб_ ка_ мі, дзе тра_ ві_ ца рас_ сла.

13


А ні лыж- кі, а ні міс- кі, ой- ёй- ёй,
па- ве- сі- лі тры ка- лыс- кі, бо- жа ж мой.

14


Тат- ка доб- ры, тат- ка доб- ры,
ма-мач- ка лі- ха- я, на ву- лач- ку
не пуш-ча- е, што я ма- ла- да- я.

15


Ка- ля ма- ёй хат- кі
вы- тап- та- ны сляд- кі, бо я гэ- тых
па- ні- чоў пад- ко- вач- кі зна- ткі.

16

На- ра- біў ве- ра- бей
на пры-печ- ку жні- ва, вы- ма- ла- ціў
пшо- нны ко- лас, на- ра- біў ён пі- ва.

17

А я ўчо- ра не вя- чэ- ра- ла:
за- ба- ле- ла ма- ё чэ- ра- ва;
як па- ча- ла я кі- сель ес- ці,
па- ча- ло ў мя- не жы- вот трэс- ці.

18

Па- сы- ла- ла ба- ба дзе- да

у луг па ка- лі- ну: не на- ло- міш

ка- лі-нонь-кі, да- лі бог па- кі- ну.

19

Свё- кар з пе- чы зва- ліў- ся, за ка-

ло- ду за- ва-ліў- ся, лю- ба, лю- ба, лю- ба,

лю- ба, за ка- ло-ду за-ва-ліў- ся.

20

Дзяў- чы- нень- ка ма- я най- ха-

ра- шэй- ша, а- бый- мі, па- ца-

луй, не са- ро- мей- ся. А бый- ся.

1. 2.

21

Па- ду- шач- ка, па- ду- шач- ка
На пу- хо- вай па- ду шач- цы
ма- я пу- ха- ва- я, ма- ло- да- чка,
мя- ку-сень- ка спа- ці, ма- ла- ду- ю
ма- ло- да- чка ма- я ма- ла- да- я!
ма- ло- да- чку мі- ла ца- ла- ва- ці!

22

За- вуць мя- не вя- чэ- ра- ці;
вя- чэ- рай- це са- мі, не- ту май-го
мі- лень-ка- га, не ся- ду я з ва- мі.

23

Чом - чом, пад кар-чом тра- ва зе- ля- не- е,
за ха- ро-шым му- жы-ком жон- ка ма- ла- дзе- е.

24

У на- ша- е сва- неч- кі
за- ла- ты- я са- нач- кі, бу-дзем я- е
пра-сі- ці- ся, каб да- ла нам ва- зі- ці- ся.

25

—Ку- ды мя- не па- вя- дзе- це,
та́- ку ма- ла- дзень- ку? —На па- по- ву
се- на- жаць, тра- ву зе- ля- нень- ку.

26

Ка- жуць лю- дзі, што мой муж доб- ры,
ой, дай, бо- жа, я- му век доў- гі;
на ву- лі- цу то не пу- ска- е,
па ко- ні- ка то па- сы- ла- е.

27

Як пад гор- кай, ля ва- ды,
гу- ляў жаў- нер ма- ла- ды.
Ой, да ой, да лю- лі!
Гу- ляў жаў- нер ма- ла- ды, ма- ла- ды.

28

Я ўчо- ра ў пі- ру бы- ла,
п'я- нень- ка да- моў прый- шла.
Ой, ёй - ёй - ёй, бо- жа мой,
п'я- нень- ка да- моў прый- шла.

29

Ах ты, дуй, ах ты, дуй, ма_ я
мі_ ла, не ба_ луй. На ма_ ёй га_ ла_
ве ас_ та_ нец_ ца усё та_ бе.

30

Ў пе_ чы па_ лю, буль_бу ва_ ру, а на пе_ чы
га_ рох ва_ ру. Во_ ха! Во_ ха_ ха!
1. 2.
Бед_ на ж ма_ я га_ ла_ ва! га_ ла_ ва!

31

Чы_ е пчо_ лы у га_ ро_ дзе,
а ма_ е ў са_ доч_ ку, а хто лю_біць
да_ лё_ ку_ ю, а я су_ се_ доч_ ку.

32

На ву- лі- цы мок- ра,

а на ганку су- ха.

Вый- дзі, вый- дзі да мя- не,

ма- я ха- ра- шу- ха,

вый- дзі, вый- дзі да мя- не,

ма- я ха- ра- шу- ха.

33

Як на мя- не ма- ла- ду- ю

сло- вы лей ды пе- ра- лей, а я вый- ду

на ву- лі- цу, за- пя- ю, як са- ла- вей.

34


Це_ раз рэч_ ку быс_ тру_ ю


я мас_ то_ чак вы_стра_ ю. Ха_дзі, мі_ лы,


ха_ дзі ,мой, ха_ дзі ле_ там і зі_ мой.


Гэй! Гэй! Ха_дзі, мі_ лы,


ха_ дзі ,мой, ха_ дзі ле_ там і зі_ мой.

35


У зя_ лё_ нень_ кім у са_ дзе


рас_цві_ та_ е ві_ шань_ка. Леп_ шы ўдар_нік


у кал_ га_ се мой мі_ лё_нак Мі_шань_ка.

36

Ве_ чар сі_ ні, ва_ сіль_ ко_ вы

рас_ па_ стёр_ ся над зя_ млёй.

Аб жыц_ ці кал_ гас_ ным но_ вым

хо_ рам пе_ сню за пя_ ём.

37

Не за_ буд_ зе Бе_ ла_ русь

тых да_ рог пра_ кла_ ных.

Э_ эх! Во_ ха_ ха!

Хлоп_ цы пар_ ты_ за_ ны.

38

Грай, гар_мо_ нік, га_ ла_ сі_ста, рэж, ба_ ян, на

ўсе ба_ сы.

Мы за ле_ нін_ску_ ю спра_ву

бу_дзем цвёр_ да ўсе ста_яць. І за леп_ шых

кан_ ды_ да_ таў пой_дзем мы га_ ла_ са_ваць.

39

Рухава

Се_ ем, мы се_ ем пша_ ні_

Се_ ем, мы се_ ем я_ ра_

чань_ ку, Рас_ ці, рас_ ці,

ву_ ю. Кус_ ціс_ та_ я,

пша_ ні_ чань_ ка

ка_ ла_ сі_ ста_ я.

